Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны

*З. Санько*

# МАЛЫ РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

## *прыказак, прымавак і фразем*

МІНСК
НАВУКА І ТЭХНІКА
1991

ББК 81.2 Бел-4
С18

Как сказать по-белорусски *бабушкины сказки, задним умом крепок, делу — время, потехе — час, на чужой каравай рот не разевай*? На этот и многие другие вопросы читатель найдет ответ в предлагаемой книге. В нее включено более 1300 наиболее употребительных русских и соответствующх им белорусских пословиц, поговорок, фразем (фразеологизмов). Указатель белорусской части словаря дает возможность пользоваться им как обратным. Подобный словарь издается в Белоруссии впервые.

Адресуется всем, кто стремится активно владеть белорусским языком, интересуется вопросами культуры речи.

Рэцэнзенты:
канд. філал. навук А. Каўрус,
канд. філал. навук Я. Саламевіч

**Санько З.**
С18 Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. — Мн.: Навука і тэхніка, 1991. — 218 с.
ISBN 5-343-00761-9

Санько З. Краткий русско-белорусский словарь пословиц, поговорок и фразем.

Пададзены беларускія адпаведнікі да найбольш ужывальных рускіх прыказак, прымавак і фразем.
Для ўсіх, хто імкнецца ўдасканальваць сваю мову.

С $\frac{4602030000-108}{М316(03)-91}$ 122—91 ББК 81.2 Бел-4

ISBN 5-343-00761-9

*Незабыўнай матулі —*
*маёй першай настаўніцы —*
*прысвячаю*

# *Падзяка*

*Я вельмі ўдзячны прафесару Фёдару Янкоўскаму, які, на вялікі жаль, гэтак заўчасна пакінуў нас, — хроснаму бацьку маёй працы. Менавіта ягоныя публікацыі па культуры мовы абудзілі ў мяне цікавасць і заахвоцілі ўзяцца за яе. Дзякуючы яго прынцыповым заўвагам, зычліваму стаўленню і падтрымцы пачатковы матэрыял мог увасобіцца ў гэтае выданне.*

*Шчыра дзякую шаноўным рэцэнзентам спадарам Янку Саламевічу і Алесю Каўрусу за каштоўныя заўвагі і парады, якія значна палепшылі рукапіс, дазволілі ўнікнуць некаторых хібаў і памылак.*

*Вялікую дапамогу і маральную падтрымку ўвесь час адчуваў я ад майго сябра і паплечніка ў справе адраджэння роднае мовы Алеся Разанава. Мне прыемна адзначыць гэта і выказаць яму шчырую падзяку.*

*Называючы тых, хто спрычыніўся да выхаду гэтае кнігі, не магу не сказаць пра чалавека, без якога стварэнне яе было б увогуле немагчымае. Гэта мая жонка Наталя. Толькі дзякуючы яе самаахвярнасці, дзякуючы створанай ёю атмасферы душэўнай цеплыні і ўтульнасці я змог пры крайняй нястачы вольнага ад службы і грамадскіх абавязкаў часу зрабіць гэтую працу. Яна пераклала на свае кволыя плечы цяжар клопатаў па гаспадарцы і ўзгадаванні дзяцей. Яна ж была першым маім крытыкам — строгім і зычлівым.*

# *Прадмова*

Багацце і непаўторнасць гучання кожнае мовы шмат у чым вызначаюцца прымаўкамі, прыказкамі і фраземамі (фразеалагізмамі). Пераклад жа іх — справа вельмі няпростая. Па сутнасці, гэта павінны быць нават не пераклад, а падбор адпаведнікаў, г. зн. адпаведных выслоўяў, з іншае мовы. Літаральна ж перакладзеныя, скалькаваныя фраземы (як і прымаўкі, прыказкі) звычайна не становяцца набыткам мовы, арганічна не ўваходзяць у яе.

Тут я цалкам падзяляю думку прызнанага аўтарытэта ў галіне беларускае фразеалогіі Ф. Янкоўскага пра неабходнасць "адмежавацца ад былой практыкі падачы фразеалагізмаў, сляды якой сустракаюцца і ў апошніх перакладных слоўніках, дзе беларуская фразеалогія прыводзіцца часам не на матэрыяле картатэкі, не на фактах самой мовы, а на літаральным перакладзе, на калькаванні фразеалагізмаў са слоўнікаў другой мовы"*. Гэтая практыка, зазначу, склалася не стыхійна, яна была рэальным увасабленнем цяпер ужо, дзякаваць Богу, здадзенай у архіў канцэпцыі збліжэння й зліцця моваў.

Жывая народная мова вельмі багатая на выслоўі, якія, на жаль, яшчэ не знайшлі належнага выкарыстання ў беларускай літаратурнай мове і адпаведнага адлюстравання ў перакладных слоўніках. Слабое асваенне літаратурнаю моваю скарбаў народнае фразеалогіі і парэміялогіі непазбежна стварае цяжкасці пры перакладзе з іншых моваў на беларускую, штурхае на калькаванне, на ўжыванне нефраземных словазлучэнняў, што збядняе мову, не спрыяе паўнакроўнаму яе развіццю і функцыянаванню. Яно ж спрычыняецца й да таго, што людзі, якія сёння далучаюцца да беларускай мовы, не могуць на-

* *Янкоўскі Ф.* Беларуская мова. 3-е выд., дапрац. Мн.: Вышэйш. шк., 1978. С. 95.

поўніцу адчуць яе адметнасць, вобразнасць і хараство.

У гэты слоўнік увайшлі найбольш ужывальныя рускія прымаўкі, прыказкі і фраземы (вядома, тыя, якім аўтар знайшоў беларускія эквіваленты). Па–за слоўнікам, як правіла, засталіся выслоўі (агульнаславянскія або агульнаўсходнеславянскія), што маюць аднолькавы кампанентны склад у рускай і беларускай мовах. Такі падыход абумоўлены абмежаваным аб'ёмам і практычным прызначэннем кнігі. Дзеля зручнейшага карыстання слоўнікам, больш эфектыўнага пошуку чытачом патрэбнага матэрыялу блізказначныя моўныя адзінкі аб'яднаны ў сінанімічныя рады праз пазнаку *Гл.* ды іх парадкавыя нумары.

Што да беларускае часткі слоўніка, то я свядома імкнуўся не абмяжоўвацца адным адпаведнікам і там, дзе гэта магчыма, падаваў іх некалькі, спадзеючыся, што гэта дазволіць чытачу выбраць выслоўе з найбольш прыдатнай экспрэсіўна–стылёвай танальнасцю. Іншым разам беларускі адпаведнік можа падацца залішне аддаленым ад аналагічнага рускага выслоўя ці семантычна звужаным у параўнанні з ім. Але ў пэўным кантэксце ён паспяхова выконвае ролю эквівалента, у чым няцяжка пераканацца.

Беларускія адпаведнікі ў межах слоўнікавага артыкула аддзеленыя адзін ад другога знакам роўнасці (зразумела, што гэтая роўнасць умоўная). У дужках падаюцца варыянты. Часам, калі гэта апраўдана, у якасці адпаведніка да рускай фраземы дадаткова прыводзіцца нефраземнае словазлучэнне або нават адно слова (звычайна гэта дзеяслоў), але гэтакіх выпадкаў няшмат.

Пераважная колькасць беларускага фразеалагічнага і парэміялагічнага матэрыялу ўзятая з запісаў фалькларыстаў М.Федароўскага, І. Насовіча, А. Сержпутоўскага, Я. Ляцкага, Я. Тышкевіча, У. Дыбоўскага, Е. Раманава, П. Шпілеўскага, У. Дабравольскага, Ф. Янкоўскага і іншых. Параўнальна невялікая частка яго пачэрпнута з твораў мастацкай літаратуры, а таксама запісана мною ад сваіх бацькоў Хведара Санько і Зоні Кіршчэні. Звесткі пра асноўныя скарыстаныя крыніцы й даследаванні падаюцца напрыканцы кнігі.

«Першае цялятка — шчанятка», — сведчыць народнае выслоўе. Наколькі яно датычыць гэтае кнігі, няхай мяркуе чытач. Аўтар жа, разумеючы, што першая спроба не можа быць бездакорная, просіць дасылаць заўвагі ды прапановы, каб скарыстаць іх у далейшай працы.

*Зьміцер Санько*

Частка I

# *Прыказкі і прымаўкі*

**1. Атаманом артель красна** — Хвала ваяводзе, што войска у згодзе = У хвацкага атамана і я не паганы = У добрага атамана ўсе хлопцы смелыя (дужыя) = За ваяводам гожым усё зможам = За добраю радай красуе грамáда = Без правадыра войска гіне. *Гл. 157*

**2. Баба с возу — кобыле легче** — Баба з калёс, а каня як чорт панёс = Баба з калёс — каню свята (калёсам лягчэй)

**3. Бабушка надвое сказала** — Бабка надвое варажыла = "Можа" надвое варожа = Надвое бабка варажыла, а ў вадно месца палажыла = Надвое бабка варажыла: ці памрэ, ці будзе жыва. *Гл. 179*

**4. Барин — лыч замаран** — Паніч — свіны лыч = Пан — саломаю напхан = Вялікі пан: падраны (дзіравы) жупан = Гэтакія паны — па тры (пары ) ў штаны = Такі пан, што ў саломе спіць, а зубамі блохі б'е

**5. Беда всему научит** — Бяда вымучыць і вывучыць = Бяда хоць мучыць, ды жыць вучыць = Бяда ды мука — тая ж навука = Галеча ды голад пагоняць на холад. *Гл. 322*

**6. Бедность — не порок** — Сярмяга — не знявага, а жупан — не вялікі пан = Бяднейшы — не канечне дурнейшы = Латаная світка не загана = Беднасць не адбярэ ні чэсці, ні розуму

**7. Без труда не вытащишь и рыбку из пруда** — Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці = Трэба нахіліцца, каб з ручая напіцца = Каб вады напіцца, трэба ёй пакланіцца = Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбы не зловіш не памачыўшыся = Па дарозе ідучы, грыбоў не набярэш. *Гл. 436*

**8. Без хозяина дом сирота** — Двор без гаспадара плача = Без гаспадара і грошы — чарапкі = Няма Саўкі — няма ўпраўкі = Як гаспадар ёсць у хаце, дык усё будзе добра дбаці

**9. Береги платье снову, а честь смолоду** — Шануйся зама-

ладá — не напаткае бяда = Шануй рапуху ў садзе, а сябе ў грамáдзе = Шануй сябе, то й людзі шанаваць будуць

**10. Береженого и бог бережет** — Сцеражонага (сцеражкога, асцярожнага) бог сцеражэ = Хто сам сябе сцеражэ, таго й бог беражэ

**11. Берут завидки на чужие пожитки** — Чужая доля (яму) пад бокам коле = Ласы на чужыя каўбасы = На чужое дабро вочы гараць = На чужое дабро лапкі ліжа = Мае смак бы да коней ваўкалак = Кожны гад чужому грошу рад. *Гл. 61*

**12. Бестолковая голова ногам покоя не дает** — За дурной галавой нагам неспакой (бяда, гора) = За дурною галавою і нагам няма спакою = Скупы двойчы плоціць, а дурны двойчы ходзіць = Галава нагам зладзей

**13. Богат Ермошка: завел кота да кошку** — Багаты Хадот: сабака ды кот = У вераб'я багатая сям'я: у кожнага верабейкі па тры капейкі

**14. Богатому черти деньги куют** — Багатаму чорт дзеці калыша (а беднаму з калыскі выкідае) = Багатаму і чорт у кашу маслам кідае = У каго дабро вядзецца, у таго й певень нясецца = Як вядзецца, то і на трэску прадзецца = У багатай хаце і куры часцей нясуцца = Багатаму скрыпка сама грае, а мая і смыкам не хоча. *Гл. 401*

**15. Богач удивляется, чем голь пробавляется** — Багатыр дзівіцца, чым худак жывіцца = Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, а бедны смяецца, дзе ў багатага дзяецца = Багаты не ведае, чым бедны абедае

**16. Бог видит, кто кого обидит** — Бог не цяля, бачыць (пазнáе) круцяля = Бог не Мікітка, павыламіць лыткі = Бог бачыць з неба, што каму трэба = Бог ведае, хто што робіць і хто як абедае = Бог не гуляе, шмат палатна мае ды багатым торбы нагатаўляе

**17. Бог дает — и дурак берет** — Даў бог дурню хлеба, ды той не ўмеў спажыць як трэба = Што бог ні даў, усё ў торбу = І Халімон танцуе, калі яму шанцуе = Калі папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца

**18. Бог не выдаст, свинья не съест** — Бог не папусціць, свіння не ўкусіць = Калі бог не дасць смерці, дык не возьмуць і чэрці = Як бог дапусціць, то й святыя не абароняць

**19. Бодливой корове бог рог не дает** — Ведаў бог, што не даў свінні рог = Не дай бог свінні рог = Бачыў бог, што не даў свінні рог, бо ўвесь свет спарола б. *Гл. 148*

**20. Будет и на нашей улице праздник** — Прыйдзе, тата, і наша свята = Будзе і на нашай вуліцы кірмаш = Будзе і на маім рынку торг (кірмаш). *Гл. 21*

**21. Будет и наше время** — Загляне сонца і ў наша ваконца = Калісь засвеціць сонца і ў наша ваконца = І наша сонца ўвойдзе ў ваконца = Прыйдзе тая нядзеля, што будзе й маё вяселле = Калісьці й наш бог праспіцца. *Гл. 20*

**22. Будешь сладок — живьем проглотят, будешь горек — проклянут** — Не будзь горкі — праклянуць, не будзь салодкі — пракаўтнуць = Будзешь горкі — праплююць, а салодкі — праглынуць = Не будзь салодкі, бо пераліжуць; не будзь горкі, бо пераплююць

**23. Была бы шея, а ярмо найдется** — Быў бы араты, будзе й прыганяты = Былі б дурні, а паны знойдуцца = Абы спіна — пуга знойдзецца = Быў бы азадак, а лазы хопіць = Быў бы лоб, а горб будзе

**24. Был бы хлеб, а зубы сыщутся** — Быў бы хлеб, а мышы збягуцца = Абы хлеб быў, а нахлебнікі будуць = Абы было ў торбе, то з'ем і на горбе = На воўну авец знойдзецца й кравец = Абы падла — вароны назлятаюцца = Быў бы куст, а варона знойдзецца = Абы тавар — купец будзе

**25. Был конь, да изъездился** — Быў конь, ды з'езджаны, быў хлеб, ды з'едзены = Быў ляснічым, а цяпер нічым = Быў піўнічым, а застаўся нічым = Быў калісьці Яўхім, ды цяпер чорт яго ўхапіў

**26. Было дело, да не было деда** — Быў квас, ды не было вас = Быў квас, ды не было вас; а як сталі квасіны, тады і вас чэрці ўзнасілі

**27. В гости со своим самоваром не ходят** — У студню вады не ліюць, а ў лес дроў не вязуць = У крыніцу не носяць вадзіцу

**28. Век долог — всем полон** — Век звекаваць — усяго спазнаць = На год сем прыгод, а на вяку — без ліку́ = Трапіцца на вяку варыць капусту і ў гляку = Здараецца на вяку і па спіне і па баку = На вяку, як на палосцы-шнурку, усяго трапляецца — і кукалю, і пшаніцы = На вяку ўсяго трапіцца = Жывучы, усяго давядзецца. *Гл. 120*

**29. Век живи, век учись** — Што жывем, то вучымся = Будзем вучыцца, пакуль смерць лучы́цца (налучыцца) = Колькі робіш, столькі вучыся

**30. Велика Федора, да дура** — Вырас пад неба, а дурань як трэба = Байбусам вырас, ды розуму не вынес = Да званіцы

падняўся, а без розуму застаўся = Рост чалавечы, а розум авечы. *Гл. 178*

**31. Весна красна цветами, а осень — плодами** — Багата вясна кветкамі, а восень палеткамі = Вясна кветкамі багата, а восень з пірагамі ў хату

**32. Взялся за гуж — не говори, что не дюж** — Узяўшыся за гуж, не кажы, што нядуж = Калі ўлез у дугу, не кажы "не магу" = Калі даўся запрэгчы, то дайся й паганяць. *Гл. 215*

**33. Видит око, да зуб неймет** — Бачыць вока, ды ляжыць (вісіць) высока = Хочацца, ды не даскочыцца = Вочкі глядзяць, ды трасцы з'ядзяць = Бачыць карова, што на павеці салома = Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не доў (не даў). *Гл. 70*

**34. Видна птица по полету** — Відаць сокал па палёту, а сава па паглёду = Відаць (знаць) пана па халявах = Па пер'і птушку пазнаюць = Знаць жабу па пліганні (а сокала па палёце)

**35. Визга много, а шерсти нет** -- Не столькі той брагі, колькі звягі = Шмат дзіва, але мала мліва = Не столькі піва, колькі дзіва = На грош піва, на ўсё сяло дзіва = Не столькі таго мёду, колькі смуроду

**36. В каждой шутке есть доля правды** — Няма байкі без праўды = Жарты нічога не варты, але часам праўдзяцца = Часам жарты выходзяць на праўду

**37. В ногах правды нет** — Сядзь, няхай полы не вісяць = Ногі для дарогі = Сядзьма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе. *Гл. 129*

**38. В огороде бузина, а в Киеве дядька** — Гэты пра воз, а той пра коз = Хто пра хату, а хто пра лапату = Я яму пра абразы, а ён мне пра гарбузы. *Гл. 478*

**39. В одно ухо вошло, а в другое вышло** — Адным вухам слухае, а другім выпускае = У адно вуха ўпусціў, а ў другое выпусціў

**40. Волка бояться — в лес не ходить** — Баючыся ваўкоў, застанешся без грыбоў = Баяўшыся трэску, і ў лес не трэба хадзіць = Хто ваўкоў баіцца, па ягады не ходзіць = Баючыся воўка, у лес не ісці

**41. Волка ноги кормят** — Ваўка ногі жывяць (гадуюць) = Пасланцамі воўк не сыты = Старца кій корміць

**42. Вольному воля, спасенному рай** — Вольнаму воля, шалёнаму поле = Шырокае поле: ідзі, куды воля

**43. Вор ворует не для прибыли, а для своей погибели** — Калі хочаш прапасці, пачні (ідзі) красці = Хто хоча прапасці, няхай вучыцца красці = Як украў, то і прапаў = Крадзеным падавішся. *Гл. 44*

**44. Воровское стяжанье впрок не пойдет** — Чужое не тучыць, бо сумленне мучыць = Чужое дабро вылазіць праз рабро = Крадзеным сыты не будзеш = Крадзенае не ідзе ў карысць = Ад зладзейства не разжывешся. *Гл. 43*

**45. Ворон ворону глаз не клюет** — Драч драчу́ не дзярэ аччу = Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе = Гад гада не джаліць = Вужака вужаку не джаліць = Крук крука за чуб не бярэ = Воўк ваўка нідзе яшчэ не з'еў

**46. Все кузни исходил, да не кован воротился** — Вакол крам ды зноў к нам = Пахадзіў ля лому і назад дадому = Ад кута ў кут і зноў тут

**47. Все люди, как люди, один черт в колпаке** — Усе бабры дабры, адно выдра — ліха яе бяры = Усе бабры дабры, адна выдра ліхая

**48. Всем сестрам по серьгам** — Кожнай сястрыцы па завушніцы = Кожнаму сыну хатуль за спіну = Кожнаму брату па дукату = Кожнай сяброўцы па залатоўцы = Кожнаму старцу па ста́ўцу = Усякаму сваяку хоць бы па медзяку

**49. Всему свое время** — На ўсё свой час = Без часу не будзе квасу = Без пары няма і травы = Усё свой час мае = Дзяры лыка, як (пакуль) дзярэцца: бо прысохне — не ўдзярэш = Сей у пару — збярэш хлеба гару. *Гл. 94*

**50. В семье не без урода** — Няма роду без выроду = У балоце не без чорта, а ў роду не без выроду = У кожнай чарадзе авечку з матыліцамі знойдзеш = І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца = І ў добрай сям'і вырадак бывае = Няма лесу без воўка, а сяла без злодзея

**51. Все хорошо, что в меру** — На ўсё ёсць мера = Усё добра, што ў меру, а што зашмат, тое не ў лад = Праз меру і свінні не ядуць = Што занадта, тое і свіння не есць = Лішняя нітка палатну завада = Шырокая лыжка рот дзярэ = З вялікае яды няма наўды: не забагацееш, а апузацееш = Што задужа — не здарова

**52. Всякий купец хвалит свой товар** — Кожны стралец сваю стрэльбу хваліць = Кожны цыган сваю кабылу хваліць = Кожны пастух сваёй пугай хваліцца = На кірмашы і бык цельны = Не ганячы, не купіш, не хвалячы, не прадасі. *Гл. 53*

**53. Всяк кулик свое болото хвалит** — Дзе хвоя ні стаіць, а ўсё сваайму бору шуміць = Жыве кулік, дзе прывык, і кожны роднае балота хваліць = Жаба квокча, сваё балота хваліць. *Гл. 52*

**54. Всяк молодец на свой образец** — У кожнага кавалера свае манеры = Кожны кравец сваім кроем, кожны кеп сваім строем = Кожны кравец сваім кроем крое = Усялякі гад на свой лад = Усякі чалавек сваім стылем жыве. *Гл.57*

**55. Всякому овощу свое время** — Свой час ягадзе, свой час баравіку = Будзе пара, вырасце трава = Будзе час — будзе і квас, не ўсё за раз = Парою сена косяць = Усё добра ў пару

**56. Всяк петух смел на своей навозной куче** — У сваім гародзе роўны ваяводзе = На сваім падворку і сабака адважнейшы = І верабей на сваім падворку спраўны = На сваім сметніку і верабей гаспадар = На сваім сметніку і певень смелы (смялейшы). *Гл. 98*

**57. Всяк по–своему с ума сходит** — Як хто хоча, так па сваім бацьку плача = Кожны па–свойму дурнее = Розум на розум не выпадае = Кожная галава свой розум мае = У каго якая натура. *Гл. 54*

**58. Всяк сверчок знай свой шесток** — Ведай, каток, свой куток = Калі ў кепскім кажусе, не садзіся на куце = Ёсць у каліце — сядай на куце, а на плячах хатуль — пытаюць: "Адкуль?" = Не лезь, куды галава не лезе. *Гл. 383*

**59. В тесноте, да не в обиде** — Дзе цесна, там пацешна = Цесна сядзець, ды добра глядзець = Дзе збяруцца, там смяюцца = Цяснота — не крывота

**60. В тихом омуте черти водятся** — У ціхім балоце чэрці растуць = І чорт ціхманам быў = Хто ціха ходзіць, той густа месіць = Ціхая свіння глыбока рые = Ціхая вада грэблю рве. *Гл. 336*

**61. В чужих руках ломоть шире** — У чужых руках пірог вялікі = На чужое дабро вочы гараць = У суседа ўсё лепшае = Мая грыўна ўсім дзіўна = Чужыя жоначкі як перапёлачкі = Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалою. *Гл. 11*

**62. В чужой монастырь со своим уставом не ходят** — З сваёю цаною на кірмаш не едуць = У чужую парафію са сваім звычаем не прыходзь = У чужой бажніцы свечкі не папраўляй

**63. В чужом глазу сучок видит, а в своем бревна не замечает** — Чужыя грахі перад вачыма, а свае за плячыма = Чужое бачыць пад лесам, а свайго не бачыць і пад носам = У чужым

воку і парушынку ўгледзім, а ў сваім і калоды не пабачым = Свайго горба ніхто не бачыць

**64. В чужом пиру да похмелье** — Ад чужога шалу ў галаве круціцца = Хто піў, а ў каго галава баліць = Паны пілі, а ў нас галовы баляць = За чужыя грахі пакута = Хто саграшыў, а хто пакутуе

**65. Выше головы не прыгнешь** — Вышэй ад сваіх пят не падскочыш = Вышэй носа не пераскочыш = Звыш лобу вочы не ходзяць

**66. Где много слов, там мало дела** — Языком у Вільні, а галавою за печчу = Слоў — на мех, а спраў — на смех = Каб так смыкам, як языкам = Гультай не чалавек, балбатун не гаспадар

**67. Где силой взять нельзя, там надобна ухватка** — Трэба розумам надтачыць, дзе сіла не возьме = Дзе не можна сілаю, там бяры здогадам = Чаго не можна ўзяць рукамі, хапай галавою = Дзе сілаю не зробіш, то спосабам = Не сілаю, дык спосабам = Не сілай ухапі, а розумам

**68. Где тонко, тут и рвется, где худо, тут и порется** — Дзе коратка, там і рвецца = Дзе коратка, там рвецца, дзе балюча, там б'ецца = Дзе баліць, там і вытнешся = На балючае вока ўсё парушына ляціць = На бяду і розум адняло

**69. Глаза видали, что покупали** — Бачылі вочы, што бралі (куплялі), а цяпер плачце, хоць павылазьце = Ці міла, ці няміла, але грошы плаціла — трэба есці

**70. Глазам видно, да ногам обидно** — Блізка відаць, ды далёка дыба́ць = Блізка то блізка, але каб не было слізка. *Гл. 33*

**71. Говорят, что кур доят** — Кажуць, што і масла хлебам мажуць = Усялякае бывае: жук рыкае, а карова лятае = Людзі чаго не скажуць — і смаленую кабылу змажуць = Бывала, што й варона кувала, а цяпер і зязюля не каркае = Казалі–гаварылі, што ходзіць Базыль да Марылі. *Гл. 371*

**72. Голова — всему начало** — Розум — найлепшае багацце = І да булавы трэба галавы = У добрай галавы сто рук = Гала́ва не булава, мазгі не пілавіны

**73. Головой стены не прошибешь** — Лобам муру не праб'еш = Муру галавой не разаб'еш = Хоць лоб і медны, але ж мур каменны. *Гл. 301*

**74. Голод не тетка** — Голад не дзя́дзіна, з'ясі і крадзена = Голад не цётка, з'есць, што патрапіць = Голад не свой брат =

Галоднаму ўсё смакуе = На галодны зуб усё смачна = Галоднаму асцюкі не колюцца = Чорт з голаду й мухі еў. *Гл. 325*

**75. Голодной куме хлеб на уме** — Галоднай курцы проса на думцы = Галодны — пра хлеб, п'яны — пра хмель = Каму што, а галоднаму хлеб = Галоднаму каню авёс сніцца = Галоднаму — ежы, халоднаму — цяпла, а сытаму — музыкі. *Гл. 457*

**76. Голодному Федоту и пустые щи в охоту** — Сагнешся ў сук — з'ясі і саломы пук = З гора, з бяды пад'еў лебяды = У голад і нішчымнае смачна есці = Будзе смачна, як духі падвядзе = Галодны прысмакаў не пытае = Галоднаму жывату і пушынка па нутру

**77. Голому разбой не страшен** — Голы разбою не баіцца = Старцу пажар не страшны = Мокры дажджу не баіцца = З жабрака сарочкі не здзярэш

**78. Гора родила мышь** — З вялікага гуку не будзе чаго браць у рýку = Шырокі двор, ды невялікі збор = З вялікага грому малы дождж = З вялікае хмары малы дождж

**79. Горбатого могила исправит** — Гарбатага хіба труна выпрастае (паправіць) = Гарбатага выпрастае магіла, а ўпартага — дубіна = Крывога дрэва не выпрастаеш = З дугі аглоблі не зробіш = Калі пень, то і будзе пень. *Гл. 447*

**80. Господь терпел и нам велел** — Бог жабраваў і нам казаў = Цярпі, Зося, так прыйшлося = Цярпі, казача, не выпадае йначай

**81. Готовь летом сани, а зимой телегу** — Ладзь калёсы зімою, а сані летам = На свята думай пра будзень, а ўлетку пра зіму

**82. Грамоте учиться — всегда пригодится** — Вучыся, нябожа, вучэнне паможа = Навука хоць намучыць, але жыць навучыць = Што замаладу навучышся, на старасць як знойдзеш = Навуку за плячыма не носяць

**83. Грехи любезны доводят до бездны** — Не заглядайся на чужых жонак: не скасееш, дык здурнееш = Сам сябе загубіш, як чужую жонку прыгалубіш = Што цела любіць, тое душу губіць = Не кладзіся каля чужой жонкі — адаб'юць пячонкі

**84. Гром не грянет — мужик не перекрестится** — Не прыйдзе трывога — не ўспомніш і бога = Як трывога, тады да бога = Пакуль пярун не грымне, чалавек яму не пакloніцца = Пакуль не загрыміць, мужык не перахрысціцца

**85. Гулять смолоду — помирать под старость с голоду** — Хто замаладу не працуе, той на старасць жабруе = Хто гуляе

змоладу, той памрэ з голаду = Гульня ў маладосці дае хваробу на старыя косці = Змоладу банкетавалі, а пад старасць жабравалі = Змоладу балі спраўлялі, пад старасць галышамі сталі = Не хочаш у маладосці працаваць, будзеш на старасці з торбачкай танцаваць

**86. Гусь свинье не товарищ** — Мядзведзь карове не брат = Воўк сабаку не радня = Качар курыцы не пара = Воўк казе не таварыш = Раўня як свіння да каня = Свіння каню не таварыш = Багатыр беднаму не брат = Сыты галоднаму не раўня

**87. Дал слово — крепись, а не дал — держись** — Слова давай, дык яго і трымай = Што сказаў, тое святое = Будзь свайму слову гаспадар

**88. Даром и чирей не сядет, а все прежде почешется** — Дарма хадзіць — ногі адбіць = Дарэмна і каза не спела = Каза ваўку дарма не скача = Дарма і каза цераз плот не скача = Дармавога нічога на свеце няма. *Гл. 141*

**89. Даст бог день — даст и пищу** — Дасць бог дзень — дасць і спажытак = Дасць бог хлеба — дасць і да хлеба = Даў бог стан — дасць і жупан

**90. Дают — бери, бранят — беги** — Калі вераць, не бажыся, калі б'юць, не прасіся = Што кажуць — рабі, што даюць — бяры (еш) = Не ймуць веры — не бажыся, а б'юць — не маліся = Хоць няшмат даюць — бяры, хоць недалёка шлюць — не йдзі

**91. Двое дерутся — третий в выигрыше** — Дзе двух звадy вядзе, там трэці крадзе = Дзе двох сварыцца, там трэці карыстаецца = Дзе двух б'юцца, там трэці карыстае = Тады багатыя рады, калі ў бедных пайшлі звады

**92. Двум смертям не бывать, а одной не миновать** — Што будзе, то будзе, а дзве смерці не будзе = Не бываюць дзве смерці, а раз трэба памерці = Раз радзіла маці, раз трэба паміраці = Калі павесяць, дык не ўтопяць = Два разы не паміраць, а раз давядзецца = Адна казе смерць. *Гл. 285*

**93. Делай дело не спеша, была бы слава хороша** — Не глядзі, каб скора, а глядзі, каб добра = Скора каты робяцца, ды сляпыя родзяцца = Што хутка робіцца, то сляпое родзіцца = Завіхайся, але не спяшайся. *Гл. 316*

**94. Делу — время, потехе — час** — Перш папрацуй, а тады й патанцуй = Была нядзеля — і мы дудзелі, цяпер серада — працуй, грамада = Калі — на лянок, а калі — у танок = Гульня, ды не штодня = Годзе цалавацца, пара і на хлеб старацца. *Гл. 49*

**95. Десятая (седьмая) вода на киселе** — На адным сонцы

анучы сушылі = Пень гарэў, а чорт ногі пагрэў, іскра пала — і радня стала = Адзін пень гарэў, а другі спіну грэў = Сваякі гарбузовыя, жывуць цераз дарогу наўпрысядкі. *Гл. 229*

**96. Дешево и сердито** — Хітра, мудра, невялікім коштам = Хітра-мудра і нядорага = І танна, і хітра

**97. Долг платежом красен** — Што вінен, аддаць павінен = Умеў узяць — умей і аддаць = Любіш браць — любі і аддаць = Пазычай — як умееш, аддавай — хораша = Прыйшоў з мехам, не адбудзеш смехам = Круці не круці, а што трэба заплаці

**98. Дома стены помогают** — У сваёй хаце і вуглы памагаюць = У сваёй хаце і качарга помач = У сваёй хаце і дзіркі грэюць. *Гл. 56*

**99. Дом невелик — гулять не велит** — Сямейка малая — (усім) работы хапае = Гурт невялічкі — гуляць няма звычкі = Былі бы мы сямёра, змаглі б усё ўчора

**100. Дорога ложка к обеду** — Дарагое яечка да Вялікадня = Дождж у пару, што золата = Усё добра ў пару = Дарагая помач у свой час = Не ў час лыжка па абедзе

**101. Дорог не обед, а привет** — Не дарага ежка, дарага пацешка = Даражэйша не сняданне, а прывітанне = Не частуй (мяне) ні піўцом, ні вінцом, а прывітай шчыранькім слаўцом = Піццё — смяццё, пасядзёнка дарага = Ці з перцам, ці не з перцам, абы са шчырым сэрцам

**102. Дорого, да мило, дешево, да гнило** — Прыгажэйшае — даражэйшае, а што заганнае, тое таннае = Ёсць загана — купіш танна = За тавар гнілы і грош малы = Якія грошы, такі і тавар = Таннае мяса сабакі ядуць (цягаюць)

**103. До свадьбы заживет** — Пакуль жаніцца, загаіцца = Пакуль шлюб браць — нічога не знаць

**104. Доход не живет без хлопот** — Хто дбае, той мае = Гаспадарка — клапатарка = Хто полю годзіць, у таго жыта родзіць = Дзе гаспадар ходзіць, там ніўка родзіць = Пільнуй гаспадаркі — будуць у гаршку скваркі. *Гл. 293*

**105. Друзья познаются в беде** — Зычлівага прыяцеля ў няшчасці пазнаюць = Прыяцеля ў няшчасці пазнаеш = Хто ў бядзе не быў, той праўдзівых прыяцеляў не знае

**106. Дуракам закон не писан** — Дурны законаў не чытае, ды свае мае = Для вар'ята няма свята = Дурны сабака і на гаспадара брэша

**107. Дурака пошлешь, а за ним и сам пойдешь** — Пашлі дурнога, а за ім другога = Паслаўшы дурнога, за ім пашлі

другога = Пашлі асла, а за ім пасла = Пайшоў Апанас па квас, дык ні Апанаса, ні кваса = Пашлі Ціта па сіта — няма сіта, няма Ціта = Паслалі сабаку па табаку — ані табакі, ані сабакі

**108. Дураков не сеют, они сами родятся** — Дурняў не сеюць і не жнуць, яны самі растуць = Дурань не родзіцца, а сам знаходзіцца = Добрую траву чалавек сее, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца

**109. Душка не сосед, есть хочет** — Душка не птушка, мякінаю не адбудзеш = І мая душа не з клочча, таго самага хоча = Душа не камень, есці хоча = Без хлеба й вады з душою бяды. *Гл. 382*

**110. Дыма без огня не бывает** — Дзе не гарыць, там і не курыць = Дзе дым, там і полымя = Адкуль дым, адтуль і полымя = Дзе сунічнік, там і суніцы = І сабака на́пуста не забрэша = З пальца не выссуць людзі = Не дарма людзі гавораць = Без прычыны і хвост не матляецца

**111. Если б знал, где упадешь, то соломки б подостлал** — Каб чалавек ведаў, дзе спатыкнецца, дык абышоў бы тое месца = Каб ведаў, дзе яма, то пераступіў бы = Каб ведаў, дзе павалішся, лепей бы там сеў (лёг) = Калі б ведаў, дзе павалішся, то абышоў бы

**112. Если бы да кабы выросли во рту грибы** — Каб на хмель не мароз, ён бы тын перарос = Каб на дзятла не стралец, быў бы дзяцел маладзец = Каб не плеш, дык і лысы не быў бы = Кап, кап — ды не цячэ = Не здарылася б бяды, каб конь не быў худы = Што пра тое гаварыць, што не мае быць

**113. Если кажется, нужно перекреститься** — "Мусіць" за вуха ўкусіць = Здаецца, што й певень смяецца = Няхай не здаецца дурной авечцы = Як здаецца, то хрысціся = Перахрысціся, калі здаецца

**114. Есть в мошне, так будет и в квашне** — Калі маеш грошы, то не будзеш хадзіць босы = Калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку = Без нястачы пражывеш, калі грошай нажывеш

**115. Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами** — Памаўчы, язычок, калі ясі, а не памаўчыш — трасцу з'ясі = Трымай язык на прывязі = Маўчы дый мак таўчы = Маўчы як жаба ў карчы = Маўчы, а то будуць таўчы = Маўчы і дыш, дык будзе барыш = Маўчы ды патаквай

**116. Ешь — потей, работай — мерзни** — На яду мастак, а на работу сяк-так = Рабіць наш Васіль не мае сіл, а на клёцкі ў малацэ — за чацвярых валачэ = Як да чаркі — скоры, як да працы — хворы = На рабоце "ой" ды "ох", а за сталом адзін за

трох = Есць за вала, робіць за камара = Есць за двух, а не зробіць за аднаго

**117. Еще такой не родился, кто бы всем сгодился** — Яшчэ гэткі не спаткаўся, каб усім ён спадабаўся = І бог усім не дагодзіць. *Гл. 211*

**118. Жди у моря погоды** — Сядзі ў будзе і чакай, што будзе = Сядзі ды на неба глядзі

**119. Жив Курилка** — Жыве наш тата і без свята = Хоць пацеем, але не мадзеем = Нашто той вох, калі мы ўтрох

**120. Жизнь прожить — не поле перейти** — Век звекаваць — не пальцам паківаць = Век зжыць — не мех сшыць = Жыццё пражыць — не песенку спець = Жытку пражыць — не люльку выкурыць. *Гл. 28*

**121. За битого двух небитых дают** — За аднаго бітага двух нябітых даюць, ды не бяруць = Адзін біты дзесяцёх нябітых каштуе (варты) = За аднаго вучонага сем слепакоў даюць, і то не бяруць

**122. Загуляла булка с квасом, простокваша с молоком** — Танцавала рыба з ракам, а пятрушка з песцярнякам = Бычкі йграюць у лучкі, а цёлкі у свісцёлкі, а бараны у арганы, а коні у гармоні = Нам вяселлейка бог даў, ажаніўся мех — торбу ўзяў

**123. За двумя зайцами погонишься — ни одного не поймаешь** — Хто зашмат жадае, той нічога не мае = За сем работ бярэцца, а ні адна не ўдаецца = Хто два зайцы гоніць, ніводнага не здагоніць = Разам дзвюх сарок за хвост не ўтрымаеш. *Гл. 187*

**124. За деревьями леса не видит** — Па хаце ходзіць, а дзвярэй не знаходзіць = Па гары ходзіць і сонца не бачыць = За хвойкаю лесу не бачыць

**125. Закон, что дышло: куда повернул, туда и вышло** — На рынку долі не купіш, а ў судзе праўды не знойдзеш = Каму за штуку прымуць, а каму за тое ж скуру здымуць = У каго капшук паўнейшы, у таго і суд спраўнейшы = Была б спіна — знойдзецца віна

**126. За мое же добро переломили ребро** — За маё жыта ды мяне ж біта = Прыйшлі ў маю хату і б'юць майго тату = Маёй пугай ды па маёй жа кабыле = Маім салам ды па маёй скуры

**127. За морем телушка полушка, да рубль перевоз** — За морам валы дарам = За морам вол па грошу. *Гл. 392*

**128. Запас карман не дерет** — Вялікая куча не надакучыць = Запас бяды не чыніць = Запас месца не пралежыць =

Няхай будзе — есці не просіць = Хто жыве без запасу, той гіне без часу = Добра, у каго запас на ліхі час. *Гл. 283*

**129. За постой денег не платят** — Сядзь, даражэй не заплоціш = За пастаянку даражэй не плоцім — сядзь = Прысядзь, госць будзеш. *Гл. 37*

**130. За посул денег не дают** — Ад абяцанкі не патаўсцееш (не разжывешся) = Абяцанкамі сыты не будзеш

**131. Запретный плод всегда слаще** — Калі кажуць "не", то хочацца ўдвайне (смачней удвайне) = Дзе плот ды дзядуля, там смачныя дулі = За высокім частаколам слівы смачнейшыя = Чаго не вольна, таго і карціць

**132. За свой грош всюду хорош** — За свае грошы хоць дзе харошы = Хто мае грошы, той добры й харошы = З грашамі і копшы дагодзіш = З грашыма ўсюды добра = Абы грошы, усё будзе

**133. За спрос не бьют в нос** — За папытанне не даюць ні ў каршэнь, ні снядання = За запытанне не страціш ні абеду, ні снядання = Хто пытае, той многа знае. *Гл. 313*

**134. Заставь дурака богу молиться — он и лоб расшибет** — Скажы дурному паклоны біць, то ён і лоб паб'е = Дурань і мяла зломіць = Разумны работу зробіць, а дурань і мяла зломіць = Дай дурню брытву, то ён зарэжацца = Не хадзіў шалудзька богу маліцца, а як пайшоў, дык і лоб разбіў = Дурань і молячыся лоб паб'е

**135. За что купил, за то и продаю** — Што на язык, то і з языка = Што бачыў, тое кажу = Што купіў, тое й прадаў = Што пачуў, тое й сказаў

**136. Золото и в грязи блестит** — Золата і ў попеле (і ў за́цемку) свеціцца (пазнаць, відаць) = Золата і на сметніку відаць

**137. И волки сыты, и овцы целы** — І козы сытыя, і сена цэлае = І воўк сыты, і козы цэлыя = І бога не гнявіць, і чорту дагадзіць

**138. Из грязи да в князи** — Як з пана пан, то аддасць валы, а як з мужыка пан, то здзярэ пасталы = Як з мужыка зробіцца пан, то колам галавы не дастаць = Не дай бог з гною пірог, а з мужыка пан = Не дай бог свінні рог, а мужыку панства = Сто коп не грошы, мужык не пан

**139. Из огня да в полымя** — З агню ды ў прысак (ў полымя) = З гаручага ды ў балючае = З пекла ды ў агонь = З холаду ў мароз = З дажджу пад рыну = Ад воўка ўцякаўшы, на мядзведзя наско-

чыў = Уцякаў ад пана, а трапіў да войта = Ад бяды ўцёк, ды ў гора трапіў

**140. Из песни слова не выкинешь** — З песні слова не выкідаюць: як спяваюць, так спяваюць = З мора вады не выбераш, з песні слова не выкінеш = З мора вады не выліць, з песні слова не выкінуць = З песні слова не выкінеш, а плачучы рота не паправіш

**141. Из спасиба шапки не сошьеш** — Дзякуем не адбудзеш = Дзякаю (падзякаю) сыты не будзеш = За дзякуй футра не справіш = За дзякуй пірага не купіш = Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш = Дзякуй не з'ясі. *Гл. 88*

**142. Или полковник, или покойник** — Ці пан, ці прапаў = Ці паскачаш, ці паплачаш

**143. И мы когда-то были рысаками** — Быў час, калі дзеўкі любілі і нас = Было, што й мы навыперадкі рвалі = Бывала, буяла, а сягоння й рыкаць не хоча

**144. И мы не лыком шиты** — І мая доля не шчарбатая = І мой квасок не з трасок = І мы не з гліны злепленыя = І мая душа не ў пні = І мы не абораю хлеб кроім = І ў мяне рукі ёсць = Або мой грош дзіравы? = І мая ж душа не лішняя = І мая хата не карчма

**145. И на старуху бывает проруха** — І хітры ліс у пастку трапляе = І на дзеўку грэх бывае = І ў цесце можна палец вывіхнуць = Конь на чатырох, і той спатыкаецца = І на гладкай дарозе прыпадак можа стацца

**146. И хочется, и колется** — Смачная кашка, ды зарабіць цяжка = Калючы ёрш, але юшка смачная = Хочацца, ды не даскочыцца = Хочацца, але страшна = Адсюль гара́ча (горача), а адтуль баля́ча (боляча)

**147. Кабы не дыра во рту — жил бы жил, ни о чем не тужил** — Каб не ежка ды не адзежка, дык была б грошай поўная дзежка = Хадзіў бы ў злоце, каб не дзірка ў роце = Каб не піў ды не еў, то залатога б каня меў = Каб не елі, не пілі, то б у золаце хадзілі

**148. Кабы свинье рога, всех бы со свету сжила** — Каб свінні рогі, нікому б не было дарогі = Каб свінні рогі, не сышла б з дарогі = Каб свінні рогі, арала б дарогі = Дай свінні рогі, дык набок з дарогі. *Гл. 19*

**149. Каждой твари по паре** — Кожная пачвара мае сваю пару = Кожнай пачвары па пары

**150. Как аукнется, так и откликнется** — Як гукнеш, так і адгукнецца = Як клічуць, так і адклікаюцца = Як вы нашым,

так мы вашым = Як баба да дзеда, так і дзед да бабы = Як мы да людзей, так і людзі да нас = Як у лес, так і з лесу. Гл. 154

**151. Как бедному жениться, так ночь коротка** — Сіраціне і ўзімку дзень доўгі = Як нам жаніцца, то й ноч малая = Калі нам жаніцца, то і ночка кароткая (пакарацела) = Каму месяц свеціць, а ад сіраты хаваецца = Беднаму і вецер у вочы

**152. Какова пава, такова ей и слава** — Які Рыгорка, такая пра яго й гаворка = Якая дзеўка, такая ёй і прыпеўка

**153. Какова погудка, такова и пляска** — Якая песня, такія і скокі = Як будуць граць, так будзем скакаць = Як граюць, так і танчаць

**154. Каков вопрос, таков и ответ** — Якое пытанне, такое адпавяданне = На добрае запытанне добрае і адпавяданне. *Гл. 150*

**155. Каков Дема, таково у него и дома** — Які пан, такі і жупан = Якая Агатка, такая ў яе і хатка = Якія мы гаспадары, такія й нашыя двары = Які пан, такі і жупан. *Гл. 314*

**156. Каково семя, таково и племя** — Якое карэнне, такое і насенне = Які куст, такі і парастак = Які род, такі і плод. *Гл. 472*

**157. Каков поп, таков и приход** — Якая рада, такая і грама́да = Які пастух, такая й чарада. *Гл. 1*

**158. Кашу маслом не испортишь** — Патравы любяць прыправы = Салам (маслам) кашы не змарнуеш (не сапсуеш) = Калі ёсць сала, то і грыб патрава

**159. Клин клином вышибают** — На крутое дрэва трэба круты клін = Клін кліна паганяе (выбівае) = Церахам на клін. *Гл. 288*

**160. Кому до чего, а кузнецу до наковальни** — Каму што, а млынару вецер = Каму што, а пеўню бойка = Каму што, а курыцы проса = Каму што, а Сымону селядца = Каму што, а Барысу ладкі = Хто пра што, а цыган пра сала = Каму што, а Ганці кубел = Каму што, а галоднаму хлеб

**161. Копейка рубль бережет** — Зерне да зерня, будзе поўная мерня = Колас да коласа — сноп будзе = Рубель з граша паходзіць = Па кропельцы — рэчка, па травінцы — копка, а па копцы — стог = З малога дойдзе да вялікага

**162. Коса — девичья краса** — Дзявоцкая краса — запле-ценая каса і руцьвяны вяночак = Дзеўка без касы не мае красы

**163. Кошке игрушки, а мышке слезки** — Катку смех, а мыш-

цы смерць = Кату забаўка (жарцікі), а мышцы згуба = Каралю смачна, а нам горка = Калі пан пяе, то мужыка трасца трасе = Каму бяда, каму смех

**164. Красна изба не углами, а красна пирогами** — Хата слаўная гаспадыняю = Слаўная хата не вугламі, але пірагамі (кнышамі) = Якая ў гаспадыні страва, такая ёй і слава = Без гаспадынькі хата, што дзень без сонца

**165. Кто вино любит, тот сам себя губит** — Хто па гарэлку часта ходзіць, той сам сабе шкодзіць = Хто п'е, той доўга не жыве = Гарцы ўвядуць у старцы = П'янства розум з'ела = Чарка і сварка да добрага не давядуць = Чорту душу аддаў, бо часта ўгару заглядаў = Вада жывіць, а гарэлка губіць. *Гл. 299*

**166. Кто в лес, кто по дрова** — Хто ў плот, а хто ў агарод = Хто ў боб, хто ў гарох = Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў саладуху (а ты ў сачыўку) = Хто ў мох, хто ў алешнік

**167. Кто вчера солгал, тому и завтра не поверят** — Хто раз схлусіў, таму ніколі веры няма = Болей не ашукаеш, як толькі раз = Ад хлусні не мруць, толькі веры болей не даюць = Адзін раз зманіш — другі не павераць = Манюку і праўды не павераць

**168. Кто ищет, тот найдет** — Хто пытае, той не блудзіць, хто шукае, той знаходзіць = Каму ў голаў зайдзе, той і за печчу знайдзе = Пашукай, як трэба, і знойдзеш, што трэба = Хто моцна жадае, той і мае = Шукай, дык знойдзеш = Не шукаючы, не знойдзеш. *Гл. 473*

**169. Кто сам себя хвалит, в том пути не бывает** — Хто сябе хваліць, няхай таго пярун спаліць = Пахвальба — малайцу згуба = Чужая пахвала як гром грыміць, а самахвальства смярдзіць = Не хвалі сябе, няхай людзі пахваляць

**170. Кто спит весной, плачет зимой** — Хто ўлетку балюе, той узімку галадуе = Хто ўлетку цяньку шукае, той узімку галадае = Калі ўлетку на сонцы не папячэшся, то ўзімку з холаду натрасешся = Хто не дбае, той трасцу мае

**171. Кто чужого желает, скоро свое потеряет** — Хто чужога жадае, часта сваё пакладае = Не ганіся за чужым, не трэба будзе плаціць сваім = Чужое ўзяць — сваё згубіць = Не бяры чужога: аддасі сваё = Ты па чужое, а чорт па тваё. *Гл. 226*

**172. Куда конь с копытом, туда и рак с клешней** — І жук, і жаба, і чорт, і баба = Каваль каня куе — і жаба нагу дае = Як каня куюць, то й жаба нагу настаўляе

**173. Куй железо, пока горячо** — Касі, каса, пакуль раса =

Гні галінку, пакуль маладзенькая = Гні дрэўца, пакуль гнецца = Дзяры лыка, як дзярэцца: бо прысохне — не ўдзярэш = Ідзі, пакуль дзверы адчыненыя (бо потым рады не дасі) = Куй жалеза, пакуль гарачае, як астыне — не ўкусеш

**174. Курица не птица, баба не человек** — Грошы не мякіна, баба не мужчына = Рак не рыба, кажан не птушка = Курыца не птушка, гультай не чалавек, балбатун не гаспадар = Сыр не закуска, кум не сваяк = Лахман не адзежа, зацірка не ежа = Рубель не грошы, а гад не брат

**175. Легок на помине** — Пра цыганá гаманá, а ён і тут = Мы пра цыганку, а яна на ганку (а яна за клямку) = Пра воўка памоўка, а ён на парог = Пра каго звоняць, таго чэрці гоняць

**176. Лентяй за дело — мозоль на тело** — Як прывык да лянoсці, то ад працы баляць косці = Як з мілым пастаяць, то ручанькі не баляць = Людзі жыта жаць, а ў нас мазалі баляць = Гультай за работу — мазоль за руку = У няўмекі рукі калекі

**177. Лес рубят — щепки летят** — Дзе дровы сякуць, там трэскі лятуць = Дзе п'юць, там і льюць = Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць

**178. Летами ушел, да умом не дошел** — Барада па пояс, а розуму ні на волас = Век зжыў, а розуму не нажыў = Галава пасівела, а розуму не набрала = Ужо сівы, а ў галаве пуста = Стары, а дурны. *Гл. 30*

**179. Либо дождик, либо снег, либо будет, либо нет** — Ці цот, ці лішка, ці Лявон, ці Грышка = Або сяк, або так, або блін, або праснак. *Гл. 3*

**180. Лиха беда начало** — Цяжка пачаць, ды лёгка канчаць = Найцяжэй, пакуль з месца = Як ёсць пачатак, будзе й канчатак = Без зачатку і канца не было б = Без падпалу дровы не гараць. *Гл. 425*

**181. Лоб широк, да ума мало** — Галава з лубку, а розуму з бубку = Лоб вялікі, ды мазгоў мала = Галава бы кацёл, а розуму няма = Вялікая галава, ды малы розум = Галава вялікая, ды пустая = Лоб што лапата, ды розуму небагата

**182. Ложка дегтя портит бочку меда** — Кропля смуроду псуе гарнец мёду. *Гл. 292*

**183. Ложь не живуща, вранью короткий век** — Хлусня як алей — выйдзе наверх = Хлуслівага лягчэй злавіць, як кульгавага. *Гл. 466*

**184. Лошади чужие, хомут не свой — погоняй не стой** —

Ні бацька купляў, ні сын едзе = Ні бацька спраўляў, ні сын паганяе (ні сын носіць)

**185. Лучше плохо ехать, чем хорошо идти** — Хоць дрогка, ды нагам лёгка = Хоць натрасешся, пакуль данясешся, затое ногі не прыстануць з дарогі

**186. Лучше по миру собирать, чем чужое брать** — Лепей жабраваць, чым красці = Лепш папрасі, а так не нясі = Тое не ўстыд, што дадзена, а тое ўстыд, што крадзена = Лепей дадзенае, чымся крадзенае. *Гл. 429*

**187. Лучше синица в руках, чем журавль в небе** — Лепш верабей у руцэ, чым жораў пад небам = Лепш верабей у руцэ, як голуб на даху (на страсе) = Лепей варона злоўленая, чым сокал пад небам = Лепей мала, чым нічога. *Гл. 123*

**188. Любишь кататься — люби и саночки возить** — Любіш паганяць, любі і каня гадаваць = Любіш гасцяваць, любі і гасціну вітаць = Любіш ездзіць, любі і саначкі цягаць = Любіў цалаваць — любі і калыхаць (любі і палюляць) = Умеў гуляць — умей і дзіця забаўляць

**189. Любопытной Варваре нос оторвали** — Цікаўнай Амілі нос прышчамілі = Цікаўная Тэкля палезе і ў пекла = На цікаўныя вочы парушынкі падаюць = Цікавы, як Марцін да кавы

**190. Ма́ленькая собачка до старости щенок** — Мале́нькі сабачка да веку шчаня (цюцька) = Мале́нькі сабачка ў шчанятках састарэўся

**191. Ма́ленький, да удаленький** — Хоць мале́нькі, але ўдале́нькі = Хоць малая, ды ўвішная = Хоць караткаваты, ды вузлаваты = Хоць малы, ды вялікаму лапці падпляце = Невялікая мурашка, а горы капае = Мале́нькая ку́лька мядзведзя валіць. *Гл. 192*

**192. Мал золотник, да дорог** — Конік маленькі, але даражэнькі = Талер маленькі, а даражэнькі = Маленькі, ды залаценькі = Грош маленькі, ды вялікія справы робіць. *Гл. 191*

**193. Малые дети — малая печаль, большие дети — большая печаль** — Малыя дзеткі — малыя і бедкі = Малыя дзеці — галава баліць, вырастуць — сэрца = Малыя дзеці — рукі баляць, вялікія — сэрца баліць = Малыя дзеці — малы клопат, большыя дзеці — большы клопат

**194. Медведя не убил, а шкуру запродал** — Мядзведзь у лесе, а ён скуру прапіў (а скура прададзеная) = Яшчэ не злавіў, а ўжо скубе = Жарабя ў мяху, а ўжо хамут шыюць =

Рэчкі не пераплыў, а панчохі ўжо сушыць = Калі мядзведзь у лесе, то скуры не дзяруць

**195. Мели, Емеля, твоя неделя** — Мялі, васпане, пакуль язык не прыстане = Мялі, Апанас, цяпер твой час = Мялі, крывая, твая радавая = Мялі, Іване, дакуль ветру стане

**196. Милые бранятся — только тешатся** — Хто каго любіць, той таго чубіць = Хто любіцца, той чубіцца = Хто каго кахае, той таго й чапае

**197. Мир — велик человек** — Грамада — вялікі чалавек = Моцны статак чарадою, а людзі грамадою

**198. Много будешь знать — скоро состаришься** — Меней будзеш ведаць — даўжэй будзеш спаць = Меней ведаеш — лепей спіш = Шмат будзеш ведаць — галава аблезе

**199. Много выбирать — женатым не бывать** — З вялікага гурту выбраў сабе курту = З вялікай выбірачкі выбіраюць гарачкі = З вялікай перабірачкі дастанеш балячкі = Дзе вялікія выборы, там пасталы і аборы = За пераборы — лапці ды аборы = Пераборны заўсёды галодны = Не перабірай, а то скулу схопіш

**200. Много желать — добра не видать** — Хто зашмат жадае, той нічога не мае = Вялікая (шырокая) лыжка рот раздзірае (дзярэ) = Дай кішцы волю, дык сам будзеш у няволі

**201. Молодец против овец, а против молодца и сам овца** — Зух супраць мух, а супраць зуха і сам муха = Зух з калом да мух = Герой з калом да жабы = Герой бабы старой

**202. Молодо — зелено** — Маладосць — усё дурносць = Маладосць — буйносць = Маладое піва яшчэ шуміць = Малады розум — палявы вецер: бяжыць і гудзіць

**203. Москва не сразу строилась** — Не за дзень Вільня станавілася = Не адразу Вільню пабудавалі = Не разам на гару: паціхеньку, памаленьку = За адным цягам дрэва не ссячэш = Будзе час — будзе й квас, не ўсё за раз = Вялікае дрэва паволі расце

**204. Моя хата с краю — ничего не знаю** — Не маё гарыць — не мне тушыць = Твая бяда — твая нуда = То не мая кароўка ўгрузла = Не над маім каркам = Я не я і хата не мая = І я не я і рука не мая = А мне да таго ні спераду, ні ззаду = Гэта мне ані баліць, ані свярбіць

**205. Муж и жена — одна сатана** — Мужык і жонка — найлепшая суполка (сполка) = Гаспадар і баба — адна рада = Антось ды Тадора — што лапаць ды абора = Які Хомка, такая і

жонка = Які едзе, такую вязе = Чорт сем пар лапцяў стаптаў, пакуль гэтакую пару дабраў

**206. Мягко стелет, да жестко спать** — Добра гаворыць, ды нядобра творыць = Мякка сцеле, ды мулка спаць = Лёстачкамі дух займае, а чорта думае = На вуснах — мёд, а на сэрцы — лёд = У вочы ліском, а за вочы пяском = У вочы "саколю", а за вочы соллю = У вочы катком, а за вочы варком = У вочы з мілым тварам, а за вочы крутым варам = Вуснамі мёд разлівае, а за пазухай камень трымае

**207. На бедного Макара все шишки валятся** — На каго людзі гавораць, на таго і свінні рохкаюць = Над пешым арлом і варона з калом = На каго бог, на таго і людзі = На пахілае дрэва і козы скачуць = Ну, пайшло на Малахаву галаву. *Гл. 224*

**208. На безрыбье и рак рыба** — Як няма мяса, то і грыб закраса = Калі няма рыб, добры і грыб = На бязлюддзі і мы людзі = На бязлюддзі і дзяк чалавек = Упоцемку і гніляк свеціць = І месяц свеціць, калі сонца няма

**209. На бога надейся, а сам не плошай** — Божа памажы, але й сам падбяжы (але і сам не ляжы) = Памажы божа, але й ты не ляжы, нябожа = На бога спадзявайся, але і сам старайся Працуй, нябожа, то і бог паможа = Чакай збавення з неба, а тым часам хлеба трэба

**210. На, боже, что нам негоже** — На табе, нябожа, што мне нягожа = Вазьмі, Даніла, што мне няміла

**211. На весь мир не угодишь** — Адзін усім не ўласціць (не дагодзіць) = Не сонца — усіх не сагрэеш = Кожнаму чорту не дагодзіш. *Гл. 117*

**212. На вкус и цвет товарищей нет** — Дзеду міла, а ўнуку гніла = Каму — як балота, а каму — як залота = Хто каб салоўку паслухаць, а хто дзеркачовай (драчовай) песні рады = Хто любіць гарбуз, а хто агуркі = Адзін хоча сёе, другі — тое

**213. На воре шапка горит** — Хто парася ўкраў, таму ўвушшу вішчыць = Хто куры краў, у таго й рукі трасуцца = Хто сала краў, таму ў вочы дым ідзе = Відаць па вачах, што ходзіць па начах. *Гл. 267*

**214. На всякий чих не наздравствуешься** — На кожны гук не адгукаешся = На кожнае чханне не наздароўкаешся

**215. Назвался груздем — полезай в кузов** — Калі з роду баравік, то лезь, браце, у кошык = Калі падмеўся грыбам, то лезь у кошык = Абазваўся грыбам — лезь у гаршчок. *Гл. 32*

**216. На зеркало нечего пенять, коль рожа крива** — Не нара-

кай на люстэрка, калі нос крывы = Не наракай на люстэрка, калі зморшчкі пад вокам = Паглядзіся ў воду, якога ты роду

**217. На миру и смерть красна** — На людзях і плакаць лягчэй = На людзях і памерці не страшна = А памрэ Аўдзей, дык жа між людзей

**218. На нет и суда нет** — Як няма, то й дарма = Калі ёсць — разыдзецца, а няма — абыдзецца = Як няма, дык няма = Калі не, дык і не

**219. На пузе шелк, а в пузе — щелк** — На назе бот рыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць = Боты новыя, а пяты голыя = Каўнер шырокі, а пяты голыя = Хоць і пусты мех, ды золатам шыты = Хоць без цукру, але ў сподачку = Голы як бізун, востры як меч

**220. На сваху нечего пенять, что не цела пришла** — Матка вінавата, што дачка чаравата = Хата вінавата, што ўпусціла Кандрата = Ігнат не вінават і Аўгіння не вінна, вінавата хата, што пусціла Ігната

**221. На семь дворов один топор — и тот без топорища** — Сем сёл, адзін вол і той гол = Сем паноў, двое штаноў; хто раней устаў, той штаны ўзяў = Сем вокнаў і адна шыба

**222. Насильно мил не будешь** — Не памогуць і чары, як каму хто не да пары = Упрошваючы не намілуешся = Даганяючы не нацалуешся = Сілаю не быць мілаю

**223. На то и щука в море, чтобы карась не дремал** — На тое і каты́, каб мышы лататы́ = На тое і сабака, каб зайца ганяць = На тое і зязюля, каб кувала і куранят крала

**224. На убогого всюду каплет** — Сіраціне заўсёды вецер у вочы = Беднаму ўсюды цесна (бедна) = У беднага і ў кашы косці = Каму месяц свеціць, а ад сіраты хаваецца = Чалавек убогі, як конь бязногі. *Гл. 207*

**225. На урода все неугода** — Благой благаце дрэнна і на куце = Кепскаму (лядашчаму) ўсюды кепска = Ліхому нічым не дагодзіш = Што ні зрабі — усё кепска = Колькі ні гадзі, а раз не дагодзіш — і ты паганы

**226. На чужой каравай рот не разевай** — Не будзь ласы на чужыя каўбасы = Не руш чужога і не бойся нікога = Не гняві бога, не жадай чужога = Не руш чужых груш. *Гл. 171*

**227. На чужой роток не накинешь платок** — Няма тае хусты, каб завязаць людзям вусты (вусны) = Чужы роцік не каўнерык — яго не зашпіліш = Людзям губы не завяжаш = Людзям языка не прывяжаш = Чужы рот не хлеў — не зачыніш

**228. Нашел — не радуйся, потерял — не тужи** — Не

смуціся, страціўшы, не цешся, знайшоўшы = Не радуйся, што забагацеў, не смуціся, што збяднеў = Згубіш — не шкадуй, знойдзеш — не радуйся = Згубіўшы, не тужы, знайшоўшы, нікому не кажы

**229. Нашему слесарю двоюродный кузнец** — Стрэчнай бабкі родны Хведар = Андрэй (Саўка) Кузьме родны Хведар = Анціп — нашаму брату Міколка = Нашаму парабку кумаў сват. *Гл. 95*

**230. Нашла коса на камень** — Абое лукі, абое тугі = Заехаў на пнюшок сівы жарабок = Трапіўся востры на шылаватага = Цюк на крук = Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам = Чорт на нячысціка наскочыў = Трапіў чорт на паганага = Каса на камень наскочыла (трапіла)

**231. Наш пострел везде поспел** — Наш гарэза ўсюды пралезе = Абы скварка й чарка, дык будзе там і наш Марка = Дзе з малаком каша, там міласць ваша = Дзе гам, і я там = Тут наш Грышка першы з лыжкай

**232. Не боги горшки обжигают** — Не святыя гаршкі лепяць = Не бог пашыў боты — шаўцовай работы

**233. Не было печали, так черти накачали** — Не мела баба клопату, купіла парася = Купіў дуду на сваю бяду = Не было дуды — не было й бяды = Не меў Саўка клопату, дык жонку ўзяў

**234. Не верь глазам своим** — Не заўсёды вер воку = Не вер вачам: вазьмі ды памацай = Як не верыш вачам, то памацай сам = Пажар тушы знізу, на рэчы глядзі зблізу

**235. Не вздыхай тяжело, не отдадим далеко — хоть за курицу, да на свою улицу** — Не ўздыхай глыбока, не аддамо далёка — хоць за курапатку, ды ў сваю хатку = Хоць за варонку, ды на сваю старонку = Хоць за Лыску, абы блізка

**236. Не в свои сани не садись** — Не лезь на чужое седала = У чужыя сані не садзіся = Не ў сваё карыта не лезь = Не ў свае штаны не ўбірайся

**237. Не все золото, что блестит** — Не ўсё тое смачна, што ўзрачна = Не ўсё тое золата, што свеціць = Не ўсё мёд, што салодкае = Не кожная бліщчастая стрэльба добра страляе

**238. Не все коту масленица** — Не заўсяды як на Дзяды = Мінуўся той час, што з мёдам (з салам) варыў квас = Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі = Не ўсё ж мігдаламі карміць

**239. Не всяк тот кусает, кто усом потрясает** — Не кожны

куслівы, хто звяглівы = Не ўсе старыя шчупакі карасёў хапаюць

**240. Не гони кнутом, а гони овсом** — Кармі мукою, дык пойдзе рукою = Каня не дагледзіш — далёка не заедзеш = Давай каню не пугу, а сена з лугу = Каб конь добра вёз — давай яму авёс

**241. Не до жиру, быть бы живу** — Не да каляды, калі поўна хата бяды = Стала не да юру, абы вынесці скуру = Не да пацераў, калі хата гарыць = На пажары харом не размалёўваюць = Якія тут святкі, калі лупяць падаткі

**242. Незваный гость хуже татарина** — Прыйшоў нязваны і йдзі нягнаны = Няпрошанаму госцю лыжкі няма = Няпрошанага госця за парог выводзяць = З няпрошаным госцем не рукаюцца = Няпрошанаму госцю месца пад сталом

**243. Не имей сто рублей, а имей сто друзей** — Чалавек без сяброў, што печ без дроў = Няма грошай — не бяда, як сяброў грамада = Лепш сто сяброў, чым сто рублёў

**244. Не место человека красит, а человек место** — Не чын чалавека падвышае, а чалавек чын = Не адзежа здобіць (харашыць) чалавека, а чалавек адзежу = Не чын паважаюць, а чалавека па яго праўдзе

**245. Не мил свет, когда милого нет** — Без сонейка свету не быць, без мілага нельга жыць = Цяжка ўздыханне — далёка каханне

**246. Не мытьем, так катаньем** — Не кіем, дык палкаю — адной паганялкаю = Не кіем, то паленам — усё ж тым самым дрэвам = Калі не дубчыкам, то бізунчыкам = Ці гэблем, ці скобляю — усё адно = Не стрый, дык дзядзька = Той самы чорт — хоць сабака, хоць хорт. *Гл. 451*

**247. Не откладывай на завтра то, что можно сделать сегодня** — Адклад не йдзе ў лад = З адкладу няма ладу = Лепей цяпер, чым у чацвер = Сон на заўтра адкладзі, а справу сёння давядзі. *Гл. 279*

**248. Не ошибается тот, кто ничего не делает** — Той не памыляецца, хто ад працы хіляецца = Хто не йдзе (хто сядзіць), той не спатыкаецца = Хто бяжыць, той і спатыкаецца

**249. Не плюй в колодец — пригодится воды напиться** — Не плюй у крыніцу: прыйдзеш па вадзіцу = Не плюй у вадзіцу, давядзецца ж напіцца = Не плюй у карытца — мо, здарыцца (трапіцца) напіцца = Прыйдзе каза да ваза (коза да воза)

**250. Не по голове шапка** — Не па Юрку (Саўку, Хомку)

шапка = Не па рэпачцы націнка, не па дзевачцы дзяцінка = Не па носе кветачка, не па хлопцу дзевачка. *Гл. 273*

**251. Не подмажешь — не поедешь** — Хто шмаруе, той і едзе = Не мазаўшы, не паедзеш = Без сівухі і суддзі глу́хі = Без падмазкі і блін не адстане = Сухая лыжка рот дзярэ = Сухі гарох да сцяны не ліпне

**252. Не подстегнешь — не поедешь** — Што ўбіў, то ўехаў = Што нукнеш, то і ўедзеш = Не сцёбнеш — не пацягне

**253. Не пойман — не вор** — Не трапіўся ў хапку́, не злодзей = Не той злодзей, на каго казалі, а той, каго злавілі = Не ўзяў за руку — не кажы: злодзей = Не кажы "злодзей", пакуль не ўхопіш

**254. Не по хорошу мил, а по милу хорош** — Не прыгожая прыгожа, а каханая прыгожа = Не тое хараша, што хараша, але тое, што каму даспадобы

**255. Не родись красивым, а родись счастливым** — Не радзіся красны, а радзіся шчасны = Як бог красу дзяліў — спала, як бог шчасце дзяліў — устала

**256. Не рой другому яму — сам в нее попадешь** — Хто на другога яму капае, сам часта ў яе ўпадае = Хто яму капае, той сам туды трапляе = Не капай на каго ямы, бо сам увалішся (упадзеш) = Не гатуй людзям пятлі: сам павесішся = Не рабі каму бяды, бо сам яе сустрэнеш = Не бі чужога цела — будзе сваё цэла

**257. Не смейся, горох, не лучше бобов** — Не смейся з людзей, ты сам смяшней = Не смейся, квас, не лепшы за нас = Пасмяяўся лысы з пляшывага = Насмяяўся гаршчок (чыгун) з катла: абодва чорныя. *Гл. 437*

**258. Не смейся чужой беде, своя нагряде** — Не радуйся чужой бядзе, бо свая ззаду йдзе = Не цешся з чужое бяды: свая за гоні ад барады = Не смейся, рабе́, будзе і табе = Не смейся, бру́дзе, бо й табе будзе = Хто з каго смяецца, таму не мінецца = Хто з чужой бяды смяецца, таму галава завінецца = Не зыч ліха другому, каб не давялося самому = Прыйдзе да цябе чарада — сустрэне цябе бяда

**259. Не суй нос не в свой вопрос** — Не твая палоса — не сунь носа = Дзе сава і сыч, там носа не тыч = Дай спакой рэчы такой, то суседская справа = У чужое проса не тыч (не ткні) носа = Не руш, не чапай, не твая тут справа = Не лезь, куды цябе не клічуць = Не лезь туды, дзе табе не трэба = Схавай свае тры грошыкі (грошы). *Гл. 260*

**260. Не твоего ума дело** — Не твайго носа палоса = Не тваім зубам гэта кусаць = Не тваім носам дзяўбаць = Што табе за справа: не твой хлеб есць, не тваю сарочку носіць. *Гл. 259*

**261. Не тогда собак кормить, как на охоту идти** — Не тады хартоў кормяць, як у ловы едуць = Не тады карову карміць, калі трэба даіць = Не тады студню капаць, як трэба смагу праганяць

**262. Не только свету, что в окошке** — Не ўсё тое сонца, што глядзіць у ваконца = Не адзін сабака Лыска = Толькі й розуму, што ў цябе = Не адзін Гаўрыла ў Полацку = І за Гомлем людзі ёсць

**263. Нет худа без добра** — Ліха без дабра не бывае = Няма нічога ліхога, каб на добрае не выйшла = Няма такога зла, каб з яго камусь не выйшла дабра = Ліха перамелецца — дабро будзе = Будзе добра, як ліха пераміне

**264. Не ты первый, не ты последний** — Не ты першы, не ты рэшні (не ты астатні)

**265. Не учи ученого** — Не вучы акуня (качаня) плаваць = Не вучы кульгаць: і так ногі баляць = Не вучы аратага араць, касца касіць, а сейбіта сеяць = Не вучы старога ката смятанку злізваць (з печы саскокваць) = Краўца не вучы, без цябе скрое = Не сягоння (я) стаў каля лаўкі хадзіць

**266. Не хвались замужеством третьего дня, а хвались третьего года** — Не хвалі каня, запрагаючы, а дзеўку — выбіраючы = Не хвалі нявестку ў тры серады, а пахвалі ў тры гады = Лён хвалі ўвосень, а дзеўку — замужам = Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам. *Гл. 441*

**267. Нечистая совесть спать не дает** — Чорнаму сумленню качарга шыбеніцай здаецца = Чужое не тучыць, бо сумленне мучыць = Злодзей спіць і дрыжыць = Грахі спаць не даюць. *Гл. 213*

**268. Новая метла по-новому метет** — Новы гаспадар — і новы парадак = Новы венік чыста мяце

**269. Нужда закон ломает** — Бяда свае законы піша = Голад хлусіць і красці мусіць

**270. Нужда скачет, нужда пляшет, нужда песенкі поет** — Абадранцы пайшлі ў танцы, галабокі пайшлі ў скокі = Бяда скача, бяда плача = Гора плача, гора скача, гора й песенькі пяе = Нашы старцы пайшлі ў танцы = Паздароў, божа, паноў, што ў нас няма ні коней, ні кароў; цяпер нам добра пагуляць, бо няма чаго заганяць

**271. Обещанного три года ждут** — Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць = Панская абяцанка на здохлым кані едзе = Абяцаная шапка вушэй не грэе (на вушы не лезе) = Чакалі, пачакалі і пачаканкі з'елі = На слова — як стой, а па слове — пастой = Дасць на лета, але не на гэта = Дадуць, як штаны ападуць = Аддам на святы Адам = Ці даў, ці не даў, абы абяцаў = Часта абяцаюць, але рэдка датрымаюць

**272. Обжегшись на молоке, будешь дуть и на воду** — Апарыўшыся малаком і на ваду падзьмухаеш = Апарыўшыся на гарачым, то й на халоднае дзьмухаеш = Два разы ашукаўшыся і на зімную ваду дзьмухаць трэба = Апёкся на параным малацэ і ваду студзіць = Апарыўся на капусце ў гаршку, то і на гародзе дзьмухаў. *Гл. 327*

**273. Овес не по коню** — Не па кату сала = Не па сабаку костка = Не па каню хамут = Краска (кветка) не для твайго носа. *Гл. 250*

**274. Овчинка выделки не стоит** — Вычынка даражэйшая за аўчынку = Апуха не варта кажуха = Скурка не варта вычынкі

**275. Один в море не рыбак, а без артели не моряк** — Адзін дасужы, ды не дужы = Адзін дуб у полі — то не лес = Адна пчала мёду не наносіць = Адным пальцам вузла не завяжаш = Адна галавешка і ў печы не гарыць (а дзве і ў полі не тухнуць) = Добра там жывецца, дзе гуртам сеецца і жнецца

**276. Один с сошкой, а семеро с ложкой** — На сем прыганятых адзін араты = У калгасе добра жыць: адзін косіць (робіць), сем ляжыць (а як сонца прыпячэ, дык і гэты ўцячэ) = Калі мужык здароў, дык у яго сем паноў = На аднаго мужыка злыдняў талака = Сем сёл, адзін вол, а дзесяць прыганятых

**277. Одна кобыла всех заманила** — Аднаго Юрку ўпусцілі, а ўся хата заюрылася = Як адна сарока хвост задзярэ, то за ёю ўсе

**278. Одна ласточка весны не делает** — З адной краскі вянок не саўеш = Першы шпак (першая ластаўка) вясны не робіць

**279. Одно нынче лучше двух завтра** — Сёння зробіш — заўтра як знойдзеш = Што зробіш сёння, не трэба будзе рабіць заўтра = Яду (абед) на вечар адкладзі, а бульбу сёння пасадзі. *Гл. 247*

**280. О покойниках плохо не говорят** — Пра нябожчыкаў лепей маўчаць = Нябожчыкі ўсе добрыя = Што зямлёю пакрыта, няхай будзе забыта

**281. От добра добра не ищут** — Не гані бога ў лес, калі ў хату ўлез = Праз хлеб хлеба шукаць не трэба = Ад добрага лепшага не шукаюць = Шукаючы пірага, і хлеб згубіш = Цераз хлеб крошак не шукай

**282. Отольются кошке мышкины слезки** — Адрыгнуцца ваўку авечыя (каровіны) слёзы = Будзе й на крапіву мароз = Колькі б воўк ні валок, павалакуць і воўка = Няхай паны не радуюцца — прыйдзе й на іх радуніца = Цяпер нас катуеш, можа, калі і сам патанцуеш = Сірочыя слёзы дарма не мінуцца = Тое з вадою не збяжыць

**283. От прибыли голова не болит** — Грошы цела не пякуць = З прыбытку бяды няма = З прыбытку галава не баліць. *Гл. 128*

**284. От смерти не посторонишься** — Смерці не заперці, калі трэба памерці = Ад смерці не выкруцішся, не вымалішся = Ад смерці не адкупішся і не адпросішся = Смерць не ручаіна — не пераскочыш = Ад смерці ніхто не збароніць = Смерці ў бутэльку не заткнеш. *Гл. 362*

**285. От смерти нет зелья** — Не дапамогуць лекі, калі прыйшло навекі = Ад старасці і смерці няма лекаў на свеце = Хоць доктар з неба, а памерці трэба = Як не грэе дух, то не сагрэе кажух = На смерць няма зелля = Ад смерці нікога не вылечыш = Ад смерці доктара няма = Ад смерці не адперці. *Гл. 92*

**286. От трудов праведных не наживешь палат каменных** — Мазалёваю працай не збудуеш палацаў = Не ўзяўшы на душу, не хадзіць у кунтушу = І так бывае: хто працуе, той не мае = Працуем, гаруем і нічога не маем

**287. От тюрьмы да от сумы не отрекайся** — Ад астрогу няма перасцярогу = Хваробы бойся, астрогу сцеражыся, а торбы не цурайся = Ад бяды кіем не абаронішся = Багата жыві, жабраваць не заракайся

**288. От чего заболел (чем ушибся), тем и лечись** — Што зашкодзіла, няхай тое і паможа = Што зашкодзіла, тым і лячыся (тым і памагаць трэба) = Заразу заразаю выганяюць = Аб камень ступіш (вытупіш), аб камень і навострыш. *Гл. 159*

**289. Охота пуще неволи** — Дай душы волю, то сам будзеш у няволі = Дай сэрцу (ахвоце) волі — завядзе да няволі

**290. Палка о двух концах** — У кіі два канцы і абодва б'юць = Грошык такі: у ім два бакі = Мае манета і той бок, і гэты = Такая справа — і ўлева, і ўправа

**291. Пар костей не ломит** — Ад цяплосці не баляць (не гнуцца) косці

**292. Паршивая овца все стадо портит** — Праз аднаго Іванка ўсім заганка = Праз аднаго барана ўвесь статак паганы = Дурны баран усю чараду збянтэжыць. *Гл. 182*

**293. Пашню пахать — не руками махать** — Араць — не ў дуду іграць = Гаспадарку весці — не штанамі трэсці (не торбаю трэсці). *Гл. 104*

**294. Пень колотить — день проводить** — З кута у кут — і вечар тут = Абы дзень да вечара, а там печ увечары = Туды цень, сюды цень, абы перайшоў дзень

**295. Первый блин комом** — Першае цялятка — шчанятка = Першыя каты за платы = Першы плод за плот = Першую работу за плот выкідаюць = Першы блін сабаку

**296. Перед смертью все равны** — Зямля святая ўсіх (нас) зраўняе = На тым свеце ўсе роўныя будзем = Хто піша, хто арэ, хто баранує — зямелька ўсіх раўнує = Магіла ўсіх памірыла (зраўніла) = Магіла ўсіх прымае (зраўняе) = Усе людзі роўна родзяцца і роўна паміраюць. *Гл. 375*

**297. Петр кивает на Ивана, Иван кивает на Петра** — Благі з ліхім знаюцца, адзін на другога спасылаюцца = Мікіта на Гаўрылу, Гаўрыла на Тамаша, то будзе жыцце кепска наша

**298. Пир на весь мир** — Банкет на ўвесь свет = Пацеха як на святога Вайцеха

**299. Пить да гулять — добра не видать** — Балі ды гулі ў лапці абулі = Балявалі, гулялі, пакуль голыя не сталі = За баляваннем бывае галадаванне = Хмель не вада — чалавеку бяда = Гарэлка да добрага не давядзе = Гулі да дабра не давядуць = Гулі і пана разулі. *Гл. 165*

**300. Пить — ум пропить** — Ад гарэлкі розум мелкі = П'янства розум з'ела = Гарэлкай розуму не прамыеш = Пі — дурнейшы станеш

**301. Плетью обуха не перешибешь** — Пугаю кавадла не рассячэш = Стралою камень не праб'еш. *Гл. 73*

**302. Плыви, мой челн, по воле волн** — Будзем жыць, як набяжыць, а памрэцца — ўсё мінецца = Трэба жыць, як набяжыць (усё роўна будзем гніць)

**303. Повадился кувшин по воду ходить — там ему и голову сломить** — Да пары збан ваду носіць = Да пары сіцечка сее = Панадзіўся журавель да нашых канапель — паспытае аглабель = Гарцаваў, гарцаваў, пакуль карку не зламаў = Дахадзіўся, што й хваста пазбыўся = Унадзілася свінка ў ніўку: ці ніўку сажні, ці свінку забі

**304. Повинную голову меч не сечет** — Павіннай галавы не сцінаюць = Павіннай галавы і меч не ймець = Пакорнага і меч не сячэ = Як прызнаўся, то й расквітаўся

**305. По два горошка в ложку** — Крупіна за крупінаю ганяецца з дубінаю = Крупка крупку гоніць, ажно шыю ломіць = Жар гарыць, вада кіпіць, ды няма чаго варыць

**306. Под лежачий камень и вода не течет** — Ляжачыя і грошы ржавеюць = Пад ляжачы камень вада не бяжыць (не падплыве)

**307. Пожалел волк кобылу — оставил хвост да гриву** — Злітаваўся рак над жабаю дый вочы выдраў = Злітаваўся так, як над жабаю рак = Любіў рак жабу, аж вочы высеў = Пашкадаваў воўк казла: пакінуў ногі ды хваста = Ад панскай дапамогі не пацягнеш ногі

**308. Поживем — увидим** — Пажывем далей, угледзім болей = Пажывем, пабачым больш = Хто дажыве, той паглядзіць = Што было, то бачылі, а што будзе — пабачым. *Гл. 416*

**309. Позднему гостю — кости** — Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць = Апошняму госцю лыжка ў качарэжніку = Астаўцу з аўцу або ніяк = Апошняму ці многа, ці нічога = Хто позна прыязджае, той косці агрызае = Спазніўся пан да абеда, а вячэра не зараз

**310. Пока трава зазеленеет, кобыла околеет** — Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць = Пакуль тое настане, калом спіна стане = Пакуль да бога, то чорт душу выйме = Пакуль тое настане, шмат вады сплыве

**311. По одежке встречают, по уму провожают** — Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку = Не пазнаюць, то папытаюць = Не адзежа здобіць (харашыць) чалавека, а чалавек адзежу = Лыкам чалавека не мераюць = Не ўсё тое кепска, што на пагляд = Не глядзі, што на галаве, а паглядзі, што ў галаве

**312. Попался, который кусался** — Трапіў, жучку, у панскую ручку = Трапіў, дзедку, у клетку

**313. Попытка не пытка, а спрос не беда** — Спроба не хвароба = Купіў не купіў, а патаргаваць можна = Дагнаў — не дагнаў, а прабегчы можна. *Гл. 133*

**314. По Сеньке и шапка, по Еремке — колпак** — Па Саўку (Хомку, Юрку) шапка = Па каню і хамут = Які конь, такая й пуга = Які гаспадар, такі і тавар. Гл. 155

**315. После нас хоть потоп** — Па маёй смерці няхай хоць выюць чэрці = Па маёй смерці хоць плот мною падперці =

Што там па смерці: хоць плот падперці = Дзеля мяне, няхай хоць воўк траву есць = Пасля нас не будзе нас

**316. Поспешишь — людей насмешишь** — Паспех — людзям на смех = Спех — людзям смех = Хто спяшае, той пераробляе = З вялікага паспеху наробіш смеху. *Гл. 93*

**317. По труду и честь** — Якая справа, такая і слава = Не памоўка, а паробка славіць = Таго на кут, у каго мазалі цвярдзейшыя = Як дбаеш, то й павагу маеш

**318. По усам текло, а в рот не попало** — Быў на мяду, абліў мёдам бараду = Па барадзе цякло, а ў роце суха было = Па губах цякло, ды ў роце не было = Адно губы памачыў

**319. Правая рука не знает, что делает левая** — Галава не ведае, што язык апаведае = Не ведае правіца, што робіць лявіца

**320. Правда всегда перетянет** — Усё мінецца, адна праўда застанецца = Праўда спраўдзіць = Праўда як алей, выйдзе наверх = Праўду не закапаеш

**321. Правда всего дороже** — Праўда даражэйша за грошы = Матка за ўсіх мілейша, праўда за ўсё даражэйша

**322. Придет беда — купишь ума** — Бяда розуму вучыць = Бяда дакучыць ды розуму навучыць = Як бяднее, чалавек разумнее = Пасля бяды кожны разумны. *Гл. 5*

**323. При солнце тепло, при матери добро** — Птушка радая вясне, а дзіця — мамцы = Дзіця да маці, як краска да сонца = Нідзе няма лепш, як у сваёй маці = Няма лепшай хаткі, як у роднай маткі = Ніхто так не спагадае, як родная маці = Ніхто столькі жалю не мае, як родная мама = Матчыны рукі заўсёды мяккія = У сваёй маці добра і ў пасцелі паляжаці

**324. Пришла беда — отворяй ворота** — Бяда па бядзе як па нітачцы йдзе = Бяда ідзе і бяду вядзе = Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць = Бяда за бядою, як рыба за вадою = Бяда за бядою ходзіць з калядою = Бяда бяду вязе, а трэцяя паганяе = Калі бяда ходзіць, з сабою ўсю радню сваю водзіць = Гора адно не йдзе, а за сабою сем вядзе

**325. Проголодаешься — хлеб достать догадаешься** — Дасць бог бяду, і грошы знайду = Грошы не неба — дастанеш, як трэба = Голад — найлепшы кухар = Возьме голад — з'явіцца голас = Голад у свет гоніць. *Гл. 74*

**326. Простота хуже воровства** — Лішняя дабрата — дурата = Прастата — тая ж дурата

**327. Пуганая ворона куста боится** — Ратаваны з вады коні лужыны баіцца = Настрашыў мех, дык і торба страш-

ная = Напужаная варона і вераб'я баіцца = Біты сабака кія баіцца. *Гл. 272*

**328. Пустая бочка пуще гремит** — Парожняя бочка гучыць, а поўная маўчыць = Пустую бочку далёка чуваць = Колас, што зярнят не мае, угару лоб задзірае = Пустыя каласы высока трымаюцца

**329. Пустился в драку — головы не жалей** — Як пайшоў у сварку, то не шкадуй карку = На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба й свой падставіць = Дастаўшы чужога лба, трэба й свой паказаць

**330. Пусти свинью за стол, а она и ноги на стол** — Пусці свінню пагрэцца, (то і самому) не будзе дзе дзецца = Пусці свінню на ўзмежак, то яна і ў бульбу = Упрасіліся злыдні на тры дні, а за тры гады не выжывеш = Упрасіўся на парог, а і з печы не згоніш = Пусці свінню пад стол, то яна захоча й на стол

**331. Пьяница так сведет домок, что не нужен и замок** — Гаспадар у карчме п'е і скача — гаспадарка плача = Латамі трасе, а ў карчму апошняе нясе = Рыззём трасе, а пятак на гарэлку нясе = Лату на лату будзе садзіць, а капеечку на гарэлку шчадзіць = Гарцы ўвядуць у старцы = Гаспадарку збыў: у горле ўтапіў

**332. Пьяному море по колено** — П'янаму і козы ў золаце = П'яніцу і ў лужыне рай = Нап'ецца, дык з царамі б'ецца (а як праспіцца, дык і курыцы баіцца) = Для п'янай галавы ўсюды роўна, а для ног — адны ямы

**333. Работа не волк, в лес не убежит** — У бога дзён многа — паробім = Абы здароўе, работа будзе = Як будзе здаровіцца, работа (работка) паробіцца = Патрэба ў лес не збяжыць = Работа не заяц — не ўцячэ

**334. Ранняя птичка носок прочищает, а поздняя глазки продирает** — Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі ўцірае = Ранняя птушачка дзюбку калупае, а позняя вочкі прадзірае = Хто да сонца ўстае, таму бог дае = Хто рана ўстае, таму хлеба стае = Хто любіць працаваць, той не будзе доўга спаць = Рана ўстанеш — болей зробіш

**335. Рано пташечка запела, как бы кошечка не съела** — Не хапайся ўперад бацькі на шыбеніцу = Не спяшайся на шыбеніцу — яшчэ навісішся = Не спяшайся паперад бацькі ў пекла = Не кажы "гоц", калі не пераскочыў

**336. Речами тих, да сердцем лих** — Сядзіць ціха, а думае ліха = Ходзіць ціхенька, а думае ліхенька = Хто ліслівы, той

кусліва = У ногі цалуе, а за сэрца кусае = Ліхі сабака спадцішка кусае = Не бойся сварлівага, а бойся маўклівага. *Гл. 60*

**337. Ржаная каша хвалилась, что с маслом родилась** — Дарагая залатовачка: каля рубля ляжала = Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная = Ганарылася свіння, што аб панскі плот пачухалася

**338. Рука руку моет** — Нага нагу падпірае, рука руку абмывае = Рука руку мые, чорт чорта крые = Рука руку мые, каб абедзве белыя (чыстыя) былі

**339. Рыбак рыбака видит издалека** — Сарока сароку бачыць здалёку = Жабрак жабраку відаць па кійку = Свой свайго (чорт чорта) пазнаў і на піва пазваў

**340. Сам с вершок, голова с горшок** — Сам як мурашка, галава як ражка (як цэбар) = Сам з кокаць, барада з локаць = Жабе па калена, а галава з капу сена

**341. Сапожник без сапог** — Шавец у падзёртых ботах ходзіць = Каваль без сякеры, а шавец без ботаў (а шавец босы) = Ганчар у чарапку ессі варыць, а шавец у атопках ходзіць = Каваль без сякеры і нажа сядзіць

**342. Свежо предание, а верится с трудом** — Многа чуецца, ды мала верыцца = Складна кумачкі пяюць, ды ім веры не даюць

**343. Свое хозяйство милее чужого царства** — Лепш у сваёй хатцы, як у чужым палацы = Свая хатка як родная матка = Свая стрэха — свая ўцеха = Няма лепшай рэчы, як дома на печы = Дома край як рай = У сваёй хатцы добра і сабачцы

**344. Свои люди — сочтемся** — Як свае людзі, то згода будзе = Свой над вірам патрасе, але ў вір не панясе = Свае дзесяць разоў пасварацца і памірацца

**345. С волками жить — по-волчьи выть** — Шыць — з шаўцамі, а выць — з ваўкамі = Як улез у вараны, то і кракай, як яны = Сярод ваўкоў жыць — па-воўчы і выць

**346. Своя ноша не тянет** — Свая сярмяжка не важка = Свая сярмяжка нікому не цяжка = Свая табака не пяршыць

**347. Своя рубашка ближе к телу** — Бліжэйшая кашуля, чым сярмяга (як кабат, як кажух) = Кожны млын на сваё кола ваду цягне = Кожны на сваю руку цягне = Кожнаму свая болька баліць = Кожнаму свой чарвяк сэрца точыць = Кожнаму сваё мілейша

**348. Своя рука владыка** — Свая рука не ліхадзей (свая ручка не ліхадзейка) = Свая ручка не сучка = Кожныя граблі

да сябе горнуць = Сам сабе пан, сам сабе служка = Пан над самім сабою і над сваёй душою

**349. Свяжись с дураком, сам дурак будешь** — Хто з дурным задаецца, сам дурны застаецца = З дурнем счэпішся — дурнем зробішся = З дурным сварыцца, як з вадою біцца. *Гл. 359*

**350. Свято место пусто не бывает** — Варона з куста, а пяць на куст (другая на куст) = Не было б тое, было б што другое = Не будзеш ты, то будзе тры = Не было б Рымшы, дык быў бы хто іншы = Не будзе Гіршы, будзе чорт іншы = Балота не будзе без чорта = Быў бы куст, а варона знойдзецца

**351. С глаз долой — из сердца вон** — З вачэй сышоў і з памяці зваліўся = Як з вачэй, то і з думкі = І з памяці зляцеў

**352. Сделал дело — гуляй смело** — Скончыў работу — гуляй у ахвоту = Перш папрацуй, а тады й патанцуй = Службу справіў — і гуляй

**353. Седина в бороду — бес в ребро** — Волас сівее, а галава шалее = У старой печы палящь чэрці = Сівізна у бараду, а чорт у галаву

**354. Семь бед — один ответ** — Ці грэх, ці два = Адна каза смерць = Адзін раз Марку жаніць = Адзін грэх: хоць раз у лоб, хоць два

**355. Семь одежек и все без застежек** — Сем капот ды голы жывот

**356. Семь пятниц на неделе** — На адзін дзень сем перамен = Як увосень: на дзень пагод восем

**357. Семь раз отмерь — один отрежь** — Сем (дзесяць) разоў мер і то не вер = Перш правер, а потым вер = Сем разоў глядзі, а назад не вядзі = Без меры няма веры = Скажаш — не вернеш, адсячэш — не прыточыш

**358. Скажешь курице, а она — всей улице** — Калі сказаў бабцы, то як усёй грамадцы = Ні села ні пала, а ўсяму свету расказала = Ніхто не ведае: толькі дзед, ды баба, ды цэлая грамада

**359. С кем поведешься, от того и наберешься** — З якім спазнаешся, такім станешся = За пчолкаю — у мёд, за жукам — у гной = З лядашчым спазнаўся — з розуму спаўся = Ліхая хеўра на ліха выведзе = Адзін другога даводзіць да ліхога. *Гл. 349*

**360. Сколько веревочке ни виться, а конец будет** — Да

часу (да пары) штука ўдаецца = Да пары збан ваду носіць = Да пары сіцечка сее = Колькі б воўк ні валок, павалакуць і воўка = І злодзей да пары крадзе

**361. Сколько волка ни корми, все равно в лес смотрит** — Як чорта ні хрысці, усё адно: "У балота пусці" = Не чакай падзякі ад прыблуднага сабакі = Воўка ў плуг, а ён — у луг = Благога як ні кармі — благім будзе = Котку лашчыш, а яна кіпці выпускае = Воўка як ні гадуй, усё ў лес пазірае = Воўчая натура ў лес глядзіць

**362. Сколько ни жить, а смерти не отбыть** — Колькі ні красуйся, усё туды гатуйся = Як ні жывеш, а труны не мінеш = Як ні хадзі, а смерці не абыдзеш = Усё можа мінуць, толькі смерць не пераміне = Круці не круці, а трэба (мусіш) ўмярці. *Гл. 284*

**363. Скоро сказка сказывается, да нескоро дело делается** — Хутка гаворыцца, ды паціху робіцца = Лёгка сказаць, ды далёка дыбаць = Шмат вады сплыве, пакуль чалавек таго дажыве

**364. Скупой дважды платит** — Абыякі двойчы робіць, а скупы тройчы (двойчы) траціць (плоціць) = Скупому два разы баліць

**365. Скупой из блохи голенище кроит** — Скупы чарвякоў на скуру збірае = Скупы і з камара кроў высмакча = Скнарыца і за трэску пасварыцца

**366. Скупой копит, а черт мошну тачает** — Скупы скупue, а чорт дзірку гатуе = Скупы збірае, а чорт мех шые = У скупога чорт шафярам

**367. Слезами горю не поможешь** — Плач, галасі, а рады не дасі = Не лягчэй будзе жыць, калі будзеш галасіць = Слязьмі рады не дасі = Журба бядзе не памач

**368. С лица воду не пить, умела бы пироги печь** — Выбіраюць не на йгрышчы, а на ржышчы = Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а шукай у агародзе = Не глядзі на мяне, у касцёл ідучы, а глядзі на мяне, лён тручы = Жонку выбірай і вачыма, і вушыма

**369. С личка — яичко, а внутри болтун** — Прыгожы на грэх, а дурны на смех = Зверху шоўкавыя хусткі, а ў галаве пусткі = Зверху тлуста, а ў сярэдзіне пуста = Глянеш — хоць пацалуй, а прыступішся — плюнеш = Адзеўся, як пан, а дурны, як баран = Адзенецца, як пава, але благая слава = Ад дошкі да дошкі, а ў сярэдзіне ні крошкі

**370. Слово не воробей: вылетит — не поймаешь** — Конь

вырвецца — здагоніш, а слова вырвецца — не зловіш = Выказанага слова да губы не вернеш = З свайго языка спусціш — на чужым не зловіш = Слова як птушка: выпусціў — не вернеш = Сказанае слова за хвост не зловіш = Сліны не падымеш, а слова не вернеш

**371. Слышал звон, да не знает, откуда он** — Гавораць, гамоняць, ды не ведаюць, дзе звоняць = Чуе звон, ды не ведае, дзе ён = У кумы не прападзе, не прычуе, то прыкладзе = Няхай бы яшчэ гаманілі, каб ведалі, дзе званілі. *Гл. 71*

**372. Смелость города берет** — У каго адвага, у таго й перавага = Адвага — не знявага = Адважны нідзе не згіне = Адвагаю і пекла пяройдзеш = Бой адвагу любіць

**373. Смелым счастье помогает** — Смеламу бог памагае = Хто не рызыкуе, той не мае = На рахманага бог нанясе, а смелы сам набяжыць

**374. Смерть за воротами не ждет** — Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны = Смерць ускоча, калі захоча = Смерць прычыну шукае

**375. Смерть не разбирает чина** — Смерць не перабірае і не мінае = Смерць не разбірае, каго забірае = Смерць у зубы не глядзіць = Усякага адна магіла прыгорне. *Гл. 296*

**376. Смех без причины — признак дурачины** — Па латках пазнаць скупога, а па смеху — дурнога = Дурня па смеху пазнаеш

**377. С милым рай и в шалаше** — Хоць у будане жыць, абы з каханым быць = Хоць пад лаўкаю сядзець, абы на харошага глядзець = Хоць без хлеба пасяджу, але ж на любага пагляджу = Хоць у адной лёлі (сарочцы), абы па любові

**378. С миру по нитке — голому рубашка** — Крыха да крыхі — збярэцца торба = Нітка да ніткі — беднаму сарочка = Зерне да зерня, будзе поўная мерня

**379. Снявши голову, по волосам не плачут** — Як не стала хлеба, дык і нож не трэба = Дзе прапала кароўка, там няхай і вяроўка = Чорт па той траве, калі барану па галаве = Не да парасят, калі свінню смаляць = Няма чаго зубы правяраць, калі сэрца становіцца

**380. С огнем шутки плохи** — З агнём жартаў няма = З агнём ліхія жарты = З агнём не жартуй і вадзе не вер = Хто гуляе з агнём, дагуляецца да попелу = Агонь адмсціцца, як яго ўцвеліш

**381. Солдат спит — служба идет** — Кухар спіць, а суп кіпіць = Бабка спіць, а гусей пасе

**382. Соловья баснями не кормят** — Салаўі пяюць, ды хлеба не даюць = З гутаркі хлеба не наясі = Усялякая гамонка да хлеба добрая = Што па той чэсці, калі няма чаго есці. *Гл. 109*

**383. С посконной рожей в калашный ряд не суйся** — Што можна пану, то не Івану = Што дазволена ваяводу, тое не дазволена смуроду = Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць = Калі ў кепскім кажусе, не садзіся на куце. *Гл. 58*

**384. Старого воробья на мякине не проведешь** — Старога ліса не ашукаеш = Старога вераб'я на мякіну не зловіш (не падманіш)

**385. Старость — не радость, не красные дни** — Старасць — не радасць, а смерць — не пацеха = Старасць — не радасць, а маладосць не на век = Старасць — не радасць, а горб — не карысць = На старасці і ўлетку холадна = Старая баба і ў пятроўку на печы мерзне

**386. Старый конь борозды не портит** — І ў старой печы агонь добра гарыць = Дзе старыя кусты, той двор не пусты = Стары вол ніколі баразну не скрывіць (не сапсуе) = Сівы, але маю кавалак сілы = Стары гаворыць — гародзіць, ды на праўду выходзіць = Стары са шляху не звядзе

**387. Стыд не дым, глаза не выест** — Гразь — не кароста, сорам — не дым = Ад сарама карысці няма = Хоць саромна, ды скаромна = Сорам не воран — вочы не выдзяўбе = Ад сораму вочы не павылазяць = Сорам можна і ў кішэнь схаваць = Калі сорам, дык закрыйся

**388. Счастье не птица — само не прилетит** — Шчасце не конь — у аглоблі не запражэш = Шчасце не цукерка — у рукі не возьмеш = Шчасце само ў рукі не йдзе = За шчасцем не зганяешся. *Гл. 389*

**389. Счастья на деньги не купишь** — На таргу долі не купіш = У судзе праўды не знойдзеш, а на рынку долі не купіш = Без шчасця не будзе багацця, а за грошы шчасця не купіш. *Гл. 388*

**390. С чужого коня среди грязи долой** — З чужога каня злазь і ў гразь = З чужога вазка і сярод балота злазяць = З чужога коніка і ў гразі ссядаюць = З чужога воза хоць сярод дарогі злазь

**391. Сытый голодного не разумеет** — Багаты беднаму не спагадае = Сыты галоднаму не спагадае = Грашоўны (заможны)

бедаку не спагадае = Здаровы не верыць хвораму, а багаты — беднаму = Хто сам бяды не зазнаў, той беднаму веры не дасць = Багаты не ведае, чым бедны абедае

**392. Там хорошо, где нас нет** — Добра там, дзе нас няма = На Падоллі пірагі па коллі, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі = Там вароты пірагом падпёрты. *Гл. 127*

**393. Тебе и карты в руки** — Пісьменнаму й кнігі ў руку = Ты пісьменны, табе і кнігі ў рукі

**394. Терпенье и труд все перетрут** — Праца і рукі — моцныя зарукі = Праца з балота робіць залота = Рабі пільна (пільня) — і тут будзе Вільня = Круці жорны пільна, то й тут будзе Вільня

**395. Терпи, казак ,— атаманом будешь** — Цярпі гора, будзе й мёд = Цярпі, Грышка, карчма блізка = Хто цярплівы, той шчаслівы = Без цярпення няма збаўлення

**396. Тише едешь — дальше будешь** — Хто ціха ходзіць, той густа месіць = Паволі едзеш — далёка станеш = Памаленьку далей зойдзеш = Памалу едучы, далей заедзеш. *Гл. 397*

**397. Торопись не спеша** — Завіхайся, але не спяшайся = Спяшайся, але не дужа хапайся. *Гл. 396*

**398. Труд человека кормит, а лень портит** — Праца гадуе, а лянота марнуе (а гультайства марнуе) = Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота — пуста = Праца не паганіць, а корміць = Хто працуе, таму і шанцуе = Горкая часам праца, ды хлеб ад яе салодкі = Ад ляноты чакай бядоты

**399. Трусливому зайке и пенек — волк** — Зайцу і жабін скок страшны = Баязліваму і корч (і мыш) — мядзведзь = Баязліваму і свой цень страшны = Баязліўцу адзін пень за тры ваўкі здаўся = Баязліваму й капа стогам здаецца. *Гл. 414*

**400. Ты сударь, и я сударь, а кто же присударивать станет** — Усё паны ды паны, а свіней няма каму пасці = Я ва́шаць, і ты ва́шаць, а хто ж нам хлеба напашаць = Усё паны ды паны, а хлеба з торбаю не палажы, бо і хлеб з'ядуць і торбу ўкрадуць

**401. У богатого телята, а у бедного ребята** — Багатаму ў полі родзіць, а беднаму ў хаце плодзіць = Хто пануе, а хто з дзецьмі гаруе = Багаты Мацей (Аўдзей), поўна хата дзяцей. *Гл. 14*

**402. У дурака дурацкая и речь** — У дурнога пеўня дурная песня = З дурнога куста і ягада пуста = Які музыка, такое гранне

**403. У кузнеца что стук, то гривна** — У каваля рукі

ў золаце = Як на дарозе лёд, то кавалю мёд = Багаты зажабруе, а каваль запануе

**404. У ленивой пряхи и про себя нет рубахи** — Гулі, гулі, аж няма кашулі = Гулі не аднаго ў лапці абулі = Хто свята пытае, той сарочкі латае = Пачнеш ляніцца — будзеш з торбай валачыцца

**405. Улита едет — когда то будет** — Пакуль тое настане, і нас з табой не стане = Пакуль тое настане, калом спіна стане = Будзе на лета, але не на гэта = Пакуль знайдзе, дык і сонца зайдзе = Шмат вады сплыве, пакуль чалавек таго дажыве

**406. Умелые руки не знают скуки** — Хто працуе, той не сумуе = Працуем і смак чуем = Каму праца служыць, той ні пра што не тужыць = Хто працуе, той святкуе = Ад працы рукі не сохнуць

**407. Умрешь, так отдохнешь** — А памрэцца — усё мінецца = Памёр — усё гора адпёр = Памрэм — на тым свеце адпачнем

**408. Ум — хорошо, а два лучше того** — Адна рада добрая, а дзве лепей = Галава добра, а дзве лепш = Адно вока бачыць далёка, а два — яшчэ далей = Што галава, то розум

**409. У нас на Рязани и свинья в сарафане** — У роднай старонцы самі мелюць жаронцы = На Жму́йдзі і куры людзі

**410. У нас таких на пятачок пучок** — Гэты квеце па ўсім свеце = Шмат у гарнец такіх малайцоў улезе = У нас такіх сем сушаных на хунт лезе = На тым свеце знайду лепшага ў смецці

**411. Упрямый, что лукавый: ни богу свечка, ни черту кочерга** — Ганарлівы ды ўпарты — нічога не варты = Упартая каза ваўку на карысць

**412. У семи нянек дитя без глаза** — Дзе нянек многа, там дзіця бязнога = Дзе багата нянек, там дзеці бязносыя = Дзе прыглядчікаў многа, там поспеху мала = Дзе кухараў шэсць, там няма чаго есць = Дзе багата гаспадыняў, там хата не меценая

**413. Услужливый дурак опаснее врага** — Дурная помач горай за немач = Іншая рада — горай як здрада = Не карай, божа, нічым, адно сябрам ліхім (дурным) = Лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці

**414. У страха глаза велики, да ничего не видят** — Хто баіцца, таму ўваччу двоіцца = Баязліваму страх у вочы лезе = У страха вялікія вочы = У страха вочы па яблыку. *Гл. 399*

**415. Утопающий за соломинку хватается** — Калі топішся,

і за брытву хопішся (і за трэску хопішся) = Хто топіцца, той і за вострую касу хопіцца = Як топішся, то й за меч ухопішся

**416. Утро вечера мудренее** — Пераначуем, то болей пачуем = Пераначуем — лепей пачуем = Думай з вечара, а рабі з рання. *Гл. 308*

**417. Ученье — путь к уменью** — Ад навукі спрытнеюць (дужэюць) рукі = Без навук як без рук = Без навукі як бязрукі = Без навукі і пастала не сплящеш. *Гл. 82*

**418. Федот, да не тот** — Тая зязюля, ды не так кукуе = Саўка, ды не ў тых санках = Тая світа, ды налева пашыта = Той, ды не той = Тое, але не такое

**419. Хвалилась синица море зажечь** — Хваліўся дурань, што кабыле хвост адарве, а як ірвануў, дык і рот заткнуў = Хвалілася кабыла, што на грэблі гаршкі пабіла = Хваліўся дзяцел, што дзюбка доўгая. *Гл. 420*

**420. Хвастала овца, что у нее хвост, как у жеребца** — Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная = Хвалілася Ганна, што выйдзе за пана (а той не бярэ) = Хваліўся баравік шапкай, ды галавы пад ёй няма = Ганарылася свіння, што аб панскі плот пачухалася. *Гл. 419*

**421. Хвастать — не колеса мазать** — Хваліцца — не касіць, рука не забаліць = Выхваляўся пустак, ды не зрабіў ніяк = Пакуль хвалько нахваліцца, то будзько набудзецца = Брахаць — не цэпам махаць. *Гл. 476*

**422. Хлеб — всему голова** — Хлеб над панамі пан = Хлеб над усім пануе = Хлеб будзе, дык і ўсё будзе

**423. Хлеб да вода — молодецкая еда** — Хлеб, соль і вада — першая яда = Каша — пацеха наша = Абы хлеб ды вада, то няма галада = Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда = Тое не бяда, што п'ецца вада, а тое бяда, што не п'ецца вада = Еш хлеб з вадою, абы не з бядою

**424. Хорошая жена — веселье, а худая — злое зелье** — Добрая жонка — дома рай, благая — хоць ты цягу дай = Добрая жонка дом зберажэ, а ліхая рукавом растрасе = Хто жонку добру мае, той гора не знае = Там і бог раюе, дзе жонка мужыка шануе

**425. Хорошее начало — половина дела** — Добры пачатак — блізка канчатак = Які пачатак, такі канчатак = Які зацін, такі й зачын = Як ля парога, такая й дарога = Добры запеў — усяму парадак. *Гл. 180*

**426. Хорошему всюду хорошо** — Добраму чалавечку до-

бра і ў запечку, а благаце блага і на куце (а ліхаце дрэнна і на куце) = Добрая душа нап'ецца і з каўша = Добраму ўсюды добра (а кепскаму кепска)

**427. Хорош кус, да не для наших уст** — На нашыя ногі высокія парогі = Гэтыя парогі не на мае ногі = Добрая світа, ды не па мне пашыта = Не нашымі губамі гэта есці = Бачыць котка лой, ды не ёй

**428. Хорошо поешь, да где-то сядешь** — Хто высока заглядае, той нізка сядае = Вышэй паднімешся — мацней паб'ешся, як скінешся = Не ўздымайся ў жыццё высока, каб не ўпасці глыбока = Не лятай высока, бо нізка сядзеш = Не скачы на высокія горы, бо на нізкія сядзеш

**429. Хоть бедно, да честно** — Хоць у латаным, абы не ў хва́таным = Няхай сабе ў лапленым, абы не ў хапленым = Хоць рукі чорныя, ды сумленне чыстае = Хоць папросту, але ў сваім = Беднасць не адбярэ ні чэсці, ні розуму = Абы сумленне чыстае. *Гл. 186*

**430. Хоть бездворен, да везде проворен** — Хоць не багаты, але зухаваты = Хоць голы, але вясёлы

**431. Хоть горшком назови, только в печь не сажай** — Чым ні заві, абы хлебам кармі = Хоць мяне воўкам называй, толькі штодзень барана дай = Хоць гаршком называй, адно ў печ не стаўляй = Няхай бы чортам называлі, абы ў балота не гналі = Як хочаш мяне лай, адно цераз плот не перакідай = Хоць лай, хоць бай, а была б дай

**432. Хоть за козла, хоть за попа, хоть за пень березовый** — Хоць за быка, як няма маладзіка = Хоць за казла, абы замуж пайшла = Хоць за вала, абы дома не была = Хоць за старца, абы не астацца = Хадзі за казла, абы з дому спаўзла = Выйсці хоць і за лапаць, абы не плакаць

**433. Хоть лыком шит, а все же муж** — Няхай мужык як шкарпэтка, абы жонка як кветка = Хоць мужык як лапаць, абы за ім не плакаць = Мужык хай будзе як долата, абы ты за ім была як золата = Сякі-такі мужчына, абы дровы ды лучына = Мужык як варона, ды ўсё жонцы абарона. *Гл. 438*

**434. Хоть разорваться, да не поддаться** — Хоць парвуся, ды не скаруся = Хоць знябыліся, але здабыліся = Хоць нагавіцы застаўлю, а на сваім пастаўлю

**435. Хоть с корыта, да досыта** — Хоць воўна, абы кішка поўна = Хоць чорная папа, ды поўная лапа = Ўсё роўна, чым чэрава поўна

**436. Хочешь есть калачи — не сиди на печи** — На ўжыткі трэба калаціць лыткі = Калі хочаш хлеба мець, трэба зямліцы глядзець = Хто хлеба хоце (хоча), той мусіць быць у поце = Мацей, успацей, калі хлеба захацей (захацеў) = Без мазаля на руках не будзе хлеба ў зубах = Паносіш мазалёў — пад'ясі хлеба = Печаныя галубы не лятуць да губы. *Гл. 7*

**437. Хрен редьки не слаще** — І адно не мёд (не цукерка), і другое не рэдзька = Як там не смятана, так тут не сыроватка = Адно — гарачка, а другое — балячка = Лазня лазню ганіць, а абедзве ў гразі стаяць. *Гл. 257*

**438. Худ мой Устим, да лучше с ним** — Хоць лядашчы мужычок, ды затулле маё: завалюся за яго, не баюся нікаго = Які ні пенцялей, але сэрцу весялей = Хоць які целяпей, але ўдваіх ляпей = Сякі–такі, абы быў, абы хлеба зарабіў = Няхай без хлеба пасяджу, але ж на мужа пагляджу. *Гл. 433*

**439. Худ обед, когда хлеба нет** — Без кавалка хлеба кепская бяседа = Без хлеба няма абеда, без капусты жываты пусты = Слова да слова, а хлеб да абеда = Хлеба луста ды капуста — не будзе ў жываце пуста

**440. Худой мир лучше доброй ссоры** — Лепей сем разоў змарыцца, як адзін раз пасварыцца = Лепей драўляная згода, чымся залатая сварка = Святы спакою, лепей з табою = Лепш не даеўшы, ды спакойна пасядзеўшы = Хоць не пышна, абы зацішна

**441. Цыплят по осени считают** — Не лічы кветачкі ўвесну, а палічы ягадкі ўвосень = Па кветках яблыкаў не лічы = Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы = Не хваліся нажаўшы, а хваліся змалаціўшы = Не той хлеб, што на полі, а той, што ў гумне = Не хваліся травою, а хваліся сенам = Не хвалі каня трэцяга дня, а хвалі трэцяга году. *Гл. 266*

**442. Час от часу не легче** — Кепска (блага), пане Грыгоры: што далей, то горай = Далей — не лягчэй = Чым далей, тым цяжэй = Чым далей, тым галей = Бяда бяду гоніць = Было кепска, стала (будзе) горш = Было ліха, дый пагоршала = Не адно ліха, дык другое

**443. Чего сам не любишь, того и другому не желай** — Чаго не хочаш самому, не чыні другому = Што сабе (табе) не міла, таго і другому не зыч = Не рабі другому, што не люба самому = Не чыні таго другім, што табе не люба

**444. Человек предполагает, а господь располагает** — Не ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца = Ніхто наперад не знае, што каго чакае = Думаеш адно, а яно пераварнецца на дно = Чалавек думае так, а выйдзе зусім іначай =

Чалавек думае, а бог робіць = Стралец (чалавек) страляе, а бог кулі носіць

**445.** Чем богаты, тем и рады — Чым хата багата, тым і рада = Хоць я небагаты, а з гасцей рады = Што маем, тым і прымаем = Частавалі, чым мелі, весялілі, як умелі. *Гл. 453*

**446.** Чем дальше в лес, тем больше дров — Далей у лес — болей труску = Чым у лес далей, тым гусцей

**447.** Черного кобеля не вымоеш добела — Паможа вароне мыла, як памерламу кадзіла = Не паможа ні мыла, ні вода, бо такая ўрода = Які чорт да лазні, такі і пасля лазні = Варона колькі ні мыецца, усё адно чорная = Крумкачу і мыла не паможа = Чорнае белым не стане. *Гл. 79*

**448.** Чин чина почитай, а младший на край — Набок, грыбок, баравік едзе = Ведай, каток, свой куток

**449.** Что бедному собраться — только подвязаться — Голы, збірайся — голы гатоў = Усе мае зборы — пасталы і аборы (лапці ды аборы)

**450.** Что было, то сплыло — Калісь то было, ды быллём парасло = Травою зарасло і вадою сплыло = Што сталася, тое не пераменіцца = Што прайшло, таго не вернеш = Што было, даўно на мора сплыло = Што было, на мора паплыло

**451.** Что в лоб, что по лбу — Ці ад пана, ці ад ціўна, а ўсё баліць ад бізуна = Ці пень, ці калода, усё па́тарч носам = Ці савою аб пень, ці пнём аб саву (усё саве бяда) = Ці галавою аб камень, ці каменем па галаве — усё галаве баліць. *Гл. 246*

**452.** Что город, то и норов, что деревня, то обычай — Што ні край, то свой звыча́й = Што старана, то навіна = Іншы горад — іншы гонар = Кожнае сяльцо мае сваё нараўцо = Што ні хата, то свой комін

**453.** Что есть в печи, все на стол мечи — Што хата мае, хай усім прымае = Што душа мае, тым і прымае = Што маем, тым і прымаем. *Гл. 445*

**454.** Что написано пером, того не вырубишь топором — Слова — вецер, а пісьмо — грунт = Што напісана пяром, не выйме і сякера

**455.** Что ни день (час), то новость — Што гадзіна, то навіна = Што ні гадзінка, то новая прычынка

**456.** Что посееш, то и пожнешь — Кінь за сабою, знойдзеш перад сабою = Як узарэш, так і збярэш = Хто арэ ды сее, той малоціць і вее = Як дбаеш, так і маеш = Дзе пасееш густа, там не будзе пуста = Якое семя, такое і емя

**457. Что у кого болит, тот о том и говорит** — Што каму дапякае, той пра тое і гукае = Што каму рупіць, той тое жупіць = Каму баліць, той і крычыць (той і студзіць) = У каго няўдача, той і плача = Кожнаму свая бяда ў галаве = Кожная зязюлька пра сваё кукуе. *Гл. 75*

**458. Что у трезвого на уме, то у пьяного на языке** — Галава не ведае, што язык апаведае = Малое і п'янoe праўду скажуць = Што цвярозы думае, п'яны скажа

**459. Что хочу, то и ворочу** — Як хачу, так і кручу = Што люблю, тое й раблю

**460. Чужая душа — потемки** — У душу не ўлезеш = Душа як лес = Душы на далонь не вымеш ды не пакажаш = Чалавек — не арэх, не раскусіш

**461. Чужим богат не будешь** — Чужым дабром не забагацееш = Чужым багаццем сыты не будзеш = З чужога гроша не разжывешся = Чужое не цешыць і не грэе = Чужы кажух нікога не нагрэе

**462. Чужой обед сладок, да непрочен** — Чужая яечня не вечна = Чужым дабром век не пражывеш = Чужым дабром не запаможашся = У чужое шчасце не ўкупішся = На чужы каравай вачэй не парывай (свой спячы ды скачы)

**463. Чужую беду руками разведу** — Чужую бяду на пальцах развяду = Чужую бяду па валаску развяду, а да свае розуму не прыкладу = Чужую бяду зараз развяду, а на сваю бяду райца не знайду = Чужую бяду і я развяду, а сваю і возам не развязу = Чужую бяду па нітачцы развяду, а сваю і рукою не адолею

**464. Чья бы корова мычала, а твоя молчала** — Хто б і навучаў, а ты б лепей памаўчаў = Чые б цяляты рыкалі, твае хоць бы маўчалі = Не гудзі, а на сябе паглядзі = Паглядзі, сава, якая сама = Паглядзі, свінішча, на сваё відзішча

**465. Шел бы воевать, да лень саблю вынимать** — І я б добра рабіла, каб работа была міла = І я б касіў, каб чорт касу насіў = І баран бы касіў, каб хто касу насіў

**466. Шила в мешке не утаишь** — Грэх не схаваеш у мех, не ўтопчаш у балота = Лес чуе, а поле бачыць = Шыла ў мяху (у торбе) не схаваеш = Ліхое ніколі не ўтоіцца. *Гл. 183*

**467. Шишка на ровном месте** — Сядзіць як сыч і думае, што паніч = Убраўся ў жупан і думае, што пан = Пан — саломаю напхан = Не вялікі пан = За гэтакім каралём можна ўцерці нос і каўняром

**468. Шутил Купряшка, да попал в тюряжку** — Жартаваў

воўк з канём, ды ў жмені зубы панёс = Досыць кпіць — вусы паломіш = Хто з каго смяецца, таму рот па вушы раздзярэцца = Дурныя жарты плачу варты

**469. Шутки шути — а людьми не мути** — Жартаваць можна, але не калечыць бязбожна = Пасмейся з няўмекі, ды не чыні здзекі = Можна кпіць, але не калечыць

**470. Шутку сшутить — людей насмешить** — З добрага смеху добрая й пацеха = Без смеху якая пацеха = Разумныя жарты пахвалы варты = Лепей жартаваць, чымся гараваць

**471. Это цветочки, а ягодки впереди** — Гэта толькі пачынка, а будзе й цэлая аўчынка = Гэта яшчэ краса (цвет), а ягадкі будуць

**472. Яблоко от яблони недалеко падает** — Якая матка, такое й дзіцятка = Якое дрэва (які целяш, дуб, явар), такі клін, які бацька, такі сын = Якая хатка, такі і тын, які бацька, такі і сын = Які млын, такі і ставок, які бацька, такі і сынок = Яблычак ад яблыні далёка не адкочваецца. *Гл. 156*

**473. Язык до Киева доведет** — Язык Вільні (Кіева) дапытае = Хто пытае, той не блукае (той не блудзіць) = Невядомая дарога на канцы языка = Пытаючыся, дапытаешся. *Гл. 168*

**474. Язык мой — враг мой: прежде ума рыщет** — Язык у роце, як чорт у балоце = Хто язык доўгі мае, таму дрэнна бывае = Язычa, язычa, сабе дабра не зычa = Язычa, язычa, які чорт цябе кліча? = Свой язык горшы за ліхога суседа = Языку дай волю — завядзе ў няволю = Праз язык галаву сцінаюць

**475. Язык не лопатка: знает, что горько, что сладко** — Язык не калодка, ведае, што салодка = Як клёцкі ў малаку, то па дзве валаку, а як у водзе, то раз, два — і годзе

**476. Языком молоть — не дрова колоть** = Языком мянціць спіна не баліць = Языком сена не накосіш = Языковае мліва не гадзіва = Каб так смыкам, як языкам. *Гл. 421*

**477. Яйцо курицу учит** — Яйка мудрэйшае (разумнейшае) за курыцу = Не вучы старога ката смятанку злізваць = Хто б і навучаў, а ты б лепей памаўчаў

**478. Я про Фому, а он про Ерему** — Я яму пра рэч, а ён мне пра печ = Я яму пра абразы, а ён мне пра гарбузы = Яму гавары, а ён дагары = Ты яму тое, а ён другое = Кажы — стрыжана, а ён голена. *Гл. 38*

Частка II

# *Фраземы*

**479. Аршин с шапкой** — З вузел ростам = Курэц ад лапця = Жабе па калена = Стане на палена — свінні па калена. *Гл. 1015*

**480. Бабушкины сказки** — Плёткі старой цёткі = Забабоны старой жоны. *Гл. 1131*

**481. Баш на баш** — Галава на галоў = Цень на цень = Вуха на вуха

**482. Беден как Иов (как Лазарь)** — Бядою латаны = Бедны як старац (як жабрак) = Рызы ды латы = Бедны аж пакалоўся. *Гл. 614*

**483. Без задних ног** *(спать)* — Як пшаніцу (пяньку, каноплі, венікі) прадаўшы = Як пасля кірмашу = Як сноп = Як астатняе ў печ усыпаўшы = Як за сцяну заваліўся. *Гл. 857*

**484. Без малого** — Блізка што = Трахá што = Мала не

**485. Без ножа резать** — Без нажа рэзаць, без агню смаліць = Без агню пячы

**486. Без роду и племени** — Ні свата ні брата = Без роду без пароду = Без роду і плоду = Ні племя ні роду, як камень у воду. *Гл. 787, 998*

**487. Без царя в голове** — Клёку ў галаве не мае = Алею ў галаве мала = Ні за кол ні за цям = Ні за кій ні за цям = Мазгі малыя. *Гл. 615, 657, 658, 867, 1007*

**488. Белены объесться** — Блёкату (воўчага маку) аб'есціся (наесціся) = Дурнап'яну (дурцу, чэмеру) наесціся. *Гл. 1086, 1216*

**489. Беречь как зеницу ока** — Глядзець (пільнаваць, сцерагчы) як вока (ў лобе) = Шанаваць (песціць) як сваё вока = З вока не выпускаць

**490. Бить баклуши** — Лынды біць = Бібікі біць (абіваць,

перабіваць) = Тылылы біць = Гульма гуляць. *Гл. 619, 838, 1045, 1106, 1212*

**491. Бледен как смерть** — Як палатно белы = Спалатнелы як смерць = Як з таго свету ўстаў = Белы як смерць (як сцяна) = Збялелы як ліпіна (як папера, як хуста)

**492. Бог в помощь** — Памагай божа (бог) = Памажы божа = Няхай бог дапамагае = Спор у працу = Спорна вам. *Гл. 522*

**493. Бог (его) знает** — Бог святы (яго) ведае = Адзін бог ведае = Бог вед (ведама) = Ці й бог ведае = Багі яго мелі. *Гл. 1318*

**494. Бок о бок** *(жить)* — Плот у плот = Вугал з вуглом = Плячо ў плячо = У суседстве = Побач

**495. Болеть карманной чахоткой** — На кішэнь хварэць = Сабачыя грошы мець = Сухоты ў кішэнь упалі = Кішаньковыя сухоты. *Гл. 525*

**496. Бояться как огня** — Баяцца як агню (як смерці, як халеры, як гадзюкі, як кручанага сабакі, як ліхой шапкі, як ліхога шэлега, як прусак холаду, як шалёны сабака вады). *Гл. 497*

**497. Бояться как черт ладана** — Баяцца як чорт крыжа (як злога духа, як чорт грому, як чорт пасвячонай вады). *Гл. 496*

**498. Бред сивой кобылы** — Смаленая кобыла = Плот з лебяды = Казаў Халімон рабой кабыле сон. *Гл. 1159, 1263*

**499. Бросает в дрожь** — Дрыжыкі працінаюць = Дрыготка бярэ. *Гл. 500*

**500. Бросает в жар** — У жар кідае = То ў жар, то ў пот кідае = Душа трымціць. *Гл. 499*

**501. Бросать (слова) на ветер** — На ўзвей (вей) ветру пускаць = На звей (вей, узві, збой) вецер гаварыць. *Гл. 1120*

**502. Бросить на произвол судьбы** — На ласку й няласку долі аддаць = На вырак лёсу кінуць = На волю лёсу пусціць (пакінуць, кінуць) = Кінуць-рынуць (ды пайсці)

**503. Брюхо из семи овчин** — Жывот на сем столак = Трыбух на тры полкі = Жывот як торба (як кубел, як цэбар, як бочка). *Гл. 929*

**504. Будто снег на голову** — Быццам з неба спаў = Як з хмары спаў = Няйначай з неба зваліўся. *Гл. 773, 1020*

**505. Будьте здоровы** — Бывайце здаровы = Здаровы бывайце, нас не забывайце = Бывайце. *Гл. 576*

**506. Будь ты неладен** — Бадай ты скіс = А няхай ты пратані = А бадай ты прагары = Каб цябе агні высвецілі = Бадай ты праваліўся = А бадай цябе, а няхай цябе

**507. Будь я трижды проклят** — Каб маё селішча запуставала = Каб я бацькі–маткі не бачыў = Каб я сваіх дзетак не дагадаваў = Не бач я дзяцей сваіх = Дзецьмі сваімі клянуся. *Гл. 942, 1027, 1105, 1125, 1137,1269*

**508. Бухать как в бездонную бочку** — Гаціць як у прорву = Таптаць (пхаць) як у бяздонны мех = Валіць як у процьму = Кідаць як у бяздонны калодзеж = Як у сячкарню закідваць

**509. Была не была** — Хай будзе, што будзе = Што будзь, то і дзейся = Бог бацька = Было не было

**510. Быть на верху блаженства** — На святой гары сядзець = На матчыным беразе быць = Шчасцем (асалодай) упівацца. *Гл. 901*

**511. Быть на ножах** — Як агонь з вадою (жыць, быць) = Сяброўства як у рысі з мядзведзем. *Гл. 679*

**512. Быть одной ногой в могиле** — Насок паглядае ў пясок = Пара да Адама = Пара да Абрагама на піва = Час да пана бога пайсці = Адной нагой у труне (у дамавіне, у зямлі) быць. *Гл. 665, 904, 1100, 1207, 1239*

**513. Быть под каблуком** — Пад хвартухом сядзець (быць)

**514. Вагон и маленькая тележка** — Куча й горба, мех і торба = Куча і горбачка = Мех і кайстра = Два вазы і цэбар. *Гл. 654, 788, 819, 833, 945, 1013, 1050, 1301, 1304, 1305*

**515. Валиться с ног** — Кулём падаць = З капылоў далоў = Не чуць ні рук, ні ног = Хоць ногі на плечы бяры = Ледзьве ногі перастаўляць. *Гл. 592, 666*

**516. Валять дурака** *(бездельничать)* — Вуглы абціраць = Вераб'ям фігі даваць (дулі паказваць) = Сабак сцерагчы

**517. Валять дурака** *(притворяться глупым)* — Дурня строіць = Дурня паказваць = Дурня клеіць

**518. Ваша взяла** — Ваша ўзяло

**519. Вверх тормашками** — Дагары нагамі = Дагары дрыкам = Дагары дном = Стром галавою = Потырч галавою = Сторч (стоць) галавою

**520. В два счета** — Як бачыш (як бач) = Адным скокам = Хутчэй ад ведзьмінага піва. *Гл. 541, 542, 1001*

**521. В двух шагах** — Крок ступіць = Каля бока = Пад носам. *Гл. 1152*

**522. В добрый час** — Дай, божа, у добры час пачаць = Зачынайма ў божы час (як у людзей, так і у нас) = У добры час, пане Апанас. *Гл. 492*

**523. Вертеться как белка в колесе** — Кідацца як рыба ў вадзе = Круціцца як у коле вада = Круціцца як у віры = Круціцца як трэска ў палонцы. *Гл. 765*

**524. Веселиться напропалую** — На пакацістую гуляць = На ўсе за́стаўкі гуляць

**525. Ветер свистит в карманах** — Кішэнь без дна = У галаве шуміць, шуміць, а ў кішэнях ціха, ціха = Па шэлегу луста, але й шэлега пуста. *Гл. 495*

**526. Ветром шатает** — З ветру валіцца = Вецер са сцежкі здзімае = Хоць калочкам падапры = Дрыгавіца ў нагах = Хоць з ветрам пусці. *Гл. 589, 669*

**527. Взбрело в голову** — У галаву ўроілася (зайшло) = У каўтуне закруціла = У галаве закруціла = Каўтун завіў

**528. Взять в толк** — На цям узяць = Да галавы (да ладу) ўзяць = У галаву ўзяць = Скеміць (сцяміць)

**529. Взять за бока** — За ска́бы ўзяць = За каўнер узяць = За шкірку ўзяць. *Гл. 530*

**530. Взять за жабры** — За шчэлепы (за шчы́бры) ўзяць = За хіб узяць. *Гл. 529*

**531. Видал (видывал) всякие виды** — Ведае, дзе чорт начуе = Ведае, дзе кароль абедае = Не з аднае студні ваду піў = Не з аднае дзяжы хлеб еў = Не з аднае табакеркі табаку нюхаў. *Гл. 1116*

**532. Видеть насквозь** — Навылёт бачыць

**533. Видеть своими глазами** — На свае вочы бачыць

**534. Визжит как недорезанный поросенок** — Пішчыць як свіння ў плоце = Крычыць нібы з яго скуру лупілі = Крычыць як на жывот = Да неба песню цягне (як свіння ў плоце ўшчамілася)

**535. Вилять хвостом** *(угодничать)* — Лёстачкі падпускаць = Лёстачкамі слаць = Слаць як ліс хвастом = Мякка слаць. *Гл. 613, 1140, 1234, 1287*

**536. Вилять хвостом** *(хитрить)* — Бачком ехаць = Ліса фарбаваць = Хітраваць як ліс (як злодзей, як варожка). *Гл. 587, 689, 706, 729, 1121*

**537. Висеть (держаться) на волоске** — На павуцінцы ліпець = Ліпець як арэх на сухой галіне. *Гл. 643*

**538. Витать в облаках** — Пра нябесныя мігдалы думаць = Пра нябесныя ясноты марыць = У надхмар'і лунаць = У паднябессі лунаць

**539. Вить веревки** — Сырыцу выкручваць = Вады прамытае не даваць. *Гл. 1178*

**540. В конце концов** — Урэшце (нарэшце, зрэшты)

**541. В мгновение ока** — Як вокам маргнуць = Як змаргнуць = На вокамгненні = Як у воку мгненне = Як "га!" *Гл. 520, 542, 1001*

**542. В момент** — Як стой = Як табе (вам) кажу =У момант вока = У адзін момант = Маланнём змахацца = Як маланкаю спаліў. *Гл. 520, 541, 1001*

**543. В нетях быть (обретаться)** — Сабакам сена касіць = Сабакі пасвіць

**544. Во веки веков** *(всегда)* — Век-вяком = З век вякоў = З вякоў вечных = Як свет светам = Як свет стаіць. *Гл. 750*

**545. Во веки веков** *(никогда)* — Як свет светам = Як свет стаіць

**546. Во весь дух** — Чым дух = Што духу = Як ёсць духу = На ўсе застаўкі (браць) = Што моцы = Колькі змогі. *Гл. 551, 604, 736, 781, 802, 1030, 1201, 1213, 1332*

**547. Во весь рост** — На ўвесь рост = Як вялікі

**548. Во времена оны** — Не за нашым богам = Не за нашай памяццю = Як свет зачаўся. *Гл. 1102*

**549. Во все горло (во всю глотку)** — На ўсё горла = Усім голасам = Як варона на дождж = Крычаць як наняты. *Гл. 550, 793, 825, 1333*

**550. Во всю ивановскую** — На ўсе застаўкі (браць) = На ўсю (на ўсенькую) покалатку = Крычаць як у карчме. *Гл. 549, 793, 825, 1333*

**551. Во всю прыть** — Быццам вецер паімчаў = Як віхор = Як ветрам гнаны = Як маланка. *Гл. 546, 604, 736, 781, 802, 1030, 1201, 1213, 1332*

**552. Во всяком случае** — У кожным разе. *Гл. 908, 1070*

**553. В один прекрасный день** — Аднаго дня = Аднаго разу

**554. В один присест** — За адным заседам (вячэра за абедам) = За адным разам = Зара́з. *Гл. 1002*

**555. Волой не разольешь** — І вада не размые = Вада не

размые і свіння не разрые = І цапом не развядзеш = Як у адной кашулі хрышчаныя = Як прыкіпелі адзін да другога = Як галубкі ў пары = Як браты = Як спрэжаныя

**556. Воды не замутит** — Вока нікому не запарушыць = Хоць у вуха кладзі = Хоць да сэрца (да раны) прыкладай = Вады ў лыжцы не замуціць. *Гл. 865*

**557. Войти во вкус** — Смак спазнаць (адчуць) = Усмакавацца (рассмакаваць)

**558. Войти в раж** — У стос увайсці

**559. Волосы становятся дыбом** — Шапка на галаве расце = Аж шапка паднялася = Нешта за каўнер бярэ = Вочы слупа (слупам) сталі = Дрыжыкі працінаюць = З капылоў далоў. *Гл. 664, 863, 1055*

**560. Волчий аппетит напал** — Конская ежа напала = Пропасці напалі = Прогліца напала = Як не ў сябе = Як тры дні не еў = Як з галоднага краю вырваўся = Як ніколі хлеба ў вочы не бачыў = Як на голад = Есць як валоў шэсць = Не ў свой дух (не ў свае духі)

**561. Воротить рыло** — Нос адварочваць (вярнуць) = Носам круціць = Твар адварочваць

**562. Вот именно** — Праўда што

**563. Вот так клюква** — Вось табе і гацаца́ = Вось табе і смешкі з бабінай плешкі. *Гл. 565*

**564. Вот тебе и вся недолга** — І квіта, дзядзька Мікіта = Квіта, панс Мікіта. *Гл. 726, 731*

**565. Вот тебе и на** — Вось табе і маеш = На́ табе. *Гл. 563*

**566. Впасть в детство** — І ў лецях і ў дзецях = Здзяцінець

**567. В подметки не годится** — Падноска (вусцілкі, падэшвы) не варты = Вады падаваць не варты = Ботаў чысціць не варты. *Гл. 1129*

**568. В подпитии** — На падпітку = У жарку = Пад чаркай = У бутэльку зірнуў. *Гл. 1060*

**569. В положении** *(беременная)* — У цяжку́ (у цяжа́ры) = Пры сабе (хадзіць) = Дзіцем хадзіць = З жыватом (з чэравам). *Гл. 905*

**570. Время от времени** — Час ад часу = Калі-нікалі = Зрэ́дчас = Часамі (часам). *Гл. 1026*

**571. Врет как сивый мерин** — Хлусіць як captured наня́ты = Хлусіць не падсяваючы = Брэша, што сліна да губы прынясе = Маніць

і не пасміхнецца = Брэша як лён чэша (як клін чэша) = Так маніць, што не пралезеш

**572. В самом деле** — Сапраўды́ = Папра́ўдзе = Дапра́ўды = Напра́ўду

**573. В самую пору** — Са́ма раз = Са́ма што. *Гл. 1258, 1264*

**574. Всем миром** — Усёй грамадою

**575. Все равно** — Усё адно = Усё роўна. *Гл. 999*

**576. Всех благ** — На ўсё добрае = Усяго добрага = Усяго найлепшага = Бывайце здаровы, жывіце багата = Усяго. *Гл. 505*

**577. В скором времени** — Па хуткім (нядоўгім, скорым) часе = Па малой гадзіне = Неўзабаве

**578. В случае чего** — Калі што якое

**579. Вставать (становиться) на дыбы** *(противиться)* — Дыбка́ (дубака́) станавіцца = На дыбкі станавіцца (падымацца) = У дубкі ісці

**580. Вставлять палки в колеса** — Дарогу перасякерваць (перасякаць, заступаць) = Шостку падкідаць = На перашкодзе стаяць

**581. Встать с солнцем** — З зарою ўстаць = Раннюю расу абагнаць = Як свет сонцам (устаць)

**582. Вступать в возраст (в лета)** — У гады ўбірацца = Пад людзі падысці = У пер'е брацца (убірацца, абрастаць) = Жаўткі ўбіраць (ўвабраць) = Сталець

**583. Вступить в брак** — Шлюб узяць = Шлюб (шлюбу) шлюбаваць = Пабрацца

**584. Всыпать горячих** — Даць гарту = Бізуна ўліць = Дыхту даць = Даць як каню сечкі. *Гл. 624, 694, 1222*

**585. Всякая всячина** — Збор каляда = Усё ўсялякае = Усялякае рознае

**586. Втереться в доверие** — У ласку ўбіцца

**587. Втирать очки** — Акуляры настаўляць. *Гл. 536, 689, 706, 729, 1121*

**588. Входить в силу** — У сілу (у сілачку) ўбірацца = На ногі (на ножкі) падымацца (паўставаць) = У пер'е брацца = Пер'е абтрэсаць

**589. В чем душа держится** — Кісялёвыя ногі = Жыццё на нітку павесіў = Хоць калочкам падапры. *Гл. 526, 669*

**590. В четырех стенах** — Між чатырох сцен

**591. Выбить (вышибить) дурь** — Матыліцу выгнаць (з галавы) = Дурыкі выгнаць (выбіць) = Атосы падцягнуць

**592. Выбиться из сил** — З духу выбіцца = З сілы выбіцца = Язык высалапіць = Язык набок = Язык на бараду высунуць = Аж душа вылазіць = Без рук астацца = Рукі адрабіць = Знемагчыся = Знябыцца = Знясілець (знясіліцца). *Гл. 515, 666*

**593. Выеденного яйца (ломаного гроша) не стоит** — Выскваркі не варты = Зломанага шэлега не варты = Гарэлага шэлега не дам = Тры грошы не варты

**594. Выйти боком** — Праз бок вылезці = Вомегам вылезці

**595. Выкрасить да выбросить** — На лапату ды за хату = Узяць венік ды на сметнік = Толькі на трэску дый вон

**596. Выматывать кишки** — Вантробы ад'ядаць (пераядаць) = Нутро паліць = Кішкі пераядаць = Гізу́нты выцягваць = Вантробы выцягваць (даставаць). *Гл. 670, 1265*

**597. Выносить сор из избы** — Смецце (бруд) на вуліцу выносіць = Сваё смецце на чужы сметнік выносіць = Смецце з хаты выносіць (на чужы падворак)

**598. Вынуть (вышибить) душу** — Душу дастаць = Духі дастаць = Цела з душою разлучыць. *Гл. 1023, 1146, 1163, 1180, 1217, 1273*

**599. Вынь да положь** — З калена вылямі = З пальца вылямі = Хоць радзі, а падай = Хоць рыгні, а мусіш = Хоць ялаўка, а цяліся = Хоць ты дой быка, але дай малака

**600. Высасывать кровь** — Кроў смактаць (ссаць) = Смактаць як вуж = Высмактаць як расянка камара. *Гл. 655, 1266*

**601. Выскочить (вылететь) из головы** — З галавы выйсці (выпасці) = З думкі вылецець = З памяці зляцець (зысці) = З памяці спусціць

**602. Высосать из пальца** — З языка высмактаць (выссаць) = З-пад кіпця выкалупаць

**603. Высохнуть как щепка** — На трэску (на дошку, на костку) выпетраць = Высахнуць як таран (як былінка, як сугак, як мядзведжая лапа) = На гарохаву лапатку высахнуць = Стаць як цень. *Гл. 1221*

**604. Высунув (высуня) язык** — Язык высалапіўшы = Язык на плячо = На ўсе жылы. *Гл. 546, 551, 736, 781, 802, 1030, 1201, 1213, 1332*

**605. Вытаращить (выпучить) глаза** — Вочы вырачыць (паставіць, вышаліць, утаропіць, вылупіць) = Бельмы выкаціць

(вылупіць) = Вочы ў лоб кульнуліся = Вырачкі прадаваць = Утаропіцца. *Гл. 941, 1208*

**606. Вышел сухим из воды** — Пабыў у вадзе і не мокры нідзе = Дарма прайшло. *Гл. 1219*

**607. Глаза бы мои не смотрели** — Брыдка глядзець = На вочы б не бачыць = Гадка пазіраць

**608. Глазам своим не верить** — Вачам веры не даваць

**609. Глаз не сомкнуть** — Вачэй (вока) не злажыць = І на волас не задрамаць = Ні на макавае зернейка не заснуць

**610. Глас вопиющего в пустыне** — Марны лямант

**611. Глуп как пробка (как пень, как сивый мерин)** — Дурны, як даўбешка (як доўбня, як пень, як авечка, як цецярук, як баран, як свіння, як пута, як халява, як хамут, як бязмен) = Абух абухом = Тупы як абух (як боўтка)

**612. Гнуть свое** — У сваю дуду дзьмуць = Сваё правіць (сваё права правіць) = На сваё наважваць = На свой капыл гнуць (рабіць)

**613. Гнуться в дугу** — Крукам гнуцца = Гнуцца як ангéльскі цюцька. *Гл. 535, 1140, 1234, 1287*

**614. Гол как сокол** — Голы як бізун (як палец, як костка, як стары венік) = Голы як стой = Гол як кол = Голы гальцом = Салому сячэ, пірагі пячэ, сенам падмазвае. *Гл. 482*

**615. Голова садовая** — Галава малінавая = Галава капусця́ная. *Гл. 487, 657, 658, 867, 1007*

**616. Гоняться за двумя зайцами** — На сем сукоў садзіцца = Дзвюх сарок за хвост трымаць = Два зайцы гнаць

**617. Горе луковое** — Гора чубатае = Згарода няшчасная = Няздара нейкая

**618. Гори синим огнем** — Гары яно гарам = А няхай яно дымам возьмецца = Хай яго агні высмаляць = Хай яно перуном (пылам) пойдзе = Няхай тут усё дымам сядзе = Каб яно дагары з дымам пайшло = Бадай ты без агню згарэў = А няхай ты згары = Каб ты ўпапялееў = Каб цябе агонь спаліў = Агнём цябе запалі. *Гл. 962, 1110, 1315, 1323, 1328*

**619. Груши околачивать** — Вуглы абціраць = Мухі лавіць = Па завуголлі туляцца. *Гл. 490, 838, 1045, 1106, 1212*

**620. Давать голову на отсечение** — Руку (рукі) на адцён даваць = Галаву (руку) на страце́нне даваць = Рукі па локаць даваць адцяць = Родам і плодам клясціся

**621.** Давать на чай — Гасцінца даваць

**622.** Давать (задавать) стрекача — Лататы даваць = Хадала даваць = Дзеркача (дзерака) даваць = Цягу даваць. *Гл. 691, 1069*

**623.** Дать (сунуть) барашка в бумажке *(дать взятку)* — Руку застраміць (заскабіць) = У лапу даць = Цюку ў руку

**624.** Дать березовой каши *(сильно избить)* — Лазы даць = Кія ўсыпаць = Дубца даць (ўліць) = Пугі ўліць = Кулакамі пачаставаць. *Гл. 584, 694, 1222*

**625.** Дать дуба — Старчом стаць = Душою рыгнуць = Бараду задзерці = І кокашы задзерці = Жаба цыцкі дала. *Гл. 704, 1016, 1024, 1088, 1096, 1115, 1214, 1249*

**626.** Дать (задать) жару *(отругать, наказать)* — Пытлю даць = Зы́ра даць = Лазні даць = Фа́еру даць = Лу́пня (лу́пцаха) даць. *Гл. 630, 695, 1211*

**627.** Дать маху — Пу́дла даць = Не на тую нагу бот надзець = Схібіць = Спудлава́ць

**628.** Дать повольку — Лейцы папусціць = Папу́ску даць = Патолю даць = Распусціць як дзедаву (цыганскую) пугу

**629.** Дать по шее — Каўнер (каўняра) памацаць = Па шыі накласці = У каўнер наўскладаць (налажыць) = Па карку заехаць = Каўша даць. *Гл. 888, 890, 1043*

**630.** Дать прикурить — Гароху засыпаць (троху) = Па пер'і даць = Салёнкі даць = Лупакоў надаваць. *Гл. 626, 695, 1211*

**631.** Два сапога пара — Абое рабое = Роўны з роўнага цешыцца = Адзін аднаго (адзін другога) не перацягне = Які ехаў, такі (такую) стрэў. *Гл. 737, 892, 1003, 1004*

**632.** Делать из мухи слона — З камара каня рабіць = З блыхі (з мухі) вала рабіць = З ветру вяроўку віць = Раскажаш пра вераб'я, а перакажуць пра жураўля = Скажы на кепаць, а даложаць на локаць = Байка з камара вырасце на вала

**633.** Делить шкуру неубитого медведя — З незабітага ліса футра (кажух) шыць = На жывым мядзведзі скуру купляць = Скуру ў лесе фарбаваць (прадаваць) = Не скубі, пакуль не зловіш

**634.** Дело труба (табак) — Справа дрэнь = Паганая (кепская) справа

**635.** День-деньской — Як божы дзень = Як дзень белы = Ад світання да змяркання = Ад рання да змяркання = Ад віднога да віднога = Цалюткі дзень = Пераз цалюхенькі дзень

636. День ото дня — Што ні дзень = З кожным днём

637. Держать в узде — На аброці трымаць = На тугу трымаць. *Гл. 638*

638. Держать в черном теле — У абцугах трымать (у абцугі ўзяць) = У цвіку трымаць = У шчэпці (у ляшчоткі) ўзяць = У аглоблі загнаць. *Гл. 637*

639. Держать пари — У заклад ісці

640. Держать себя высоко — Высока галаву насіць = Шмат казюлек у носе = Без фігі не да носа = Шостам галавы не дастаць. *Гл. 696*

641. Держать (иметь) сердце — Слязу ў сэрцы трымаць = Зака́лец мець. *Гл. 745*

642. Держи карман шире — Кішэнь падстаўляй = Заўтра з мехам прыходзь

643. Держится на честном слове — Ледзьве ліпіць = Ледзь трымаецца = На жывую нітку шыта. *Гл. 537*

644. Держи хвост пистолетом — Хвост абаранкам (дугою) трымай = Нос дудою трымай

645. Длинный язык — Язык з-за зубоў выбіваецца = Язык доўгі = Язык як дзедава пуга = Язык да пят = Язык як памяло (у бабы) = Язык доўгі як у жаўны = Рот наросхрыст, язык на плячо. *Гл. 1195, 1345*

646. Для вида — Для (дзеля) прыліку = Толькі знаку = Адно знак

647. Днем с огнем не сыскать — Са свечкаю (у руках) не знайсці = І Саўка не знойдзе. *Гл. 754*

648. Довести до ручки — Да абуха́ дабіць (давесці) = Да пухі дабіць = На пусты канец звесці = На пшык звесці

649. Дойти до ручки — На пусты канец сысці (з'ехаць) = Да пустога канца дажыць (дажыцца) = На нішто з'ехаць = На пшык з'ехаць = Да пугаўя́ (да пужа́льна) дабіцца = Да няма нічога дайсці

650. До основания — Ушчэнт (дашчэнту) = Дарэшты = Да пня

651. До отвала — Як стаць = Як завязаць = Па (самую) завязку = У разорву = Аж цераз вушы = Цераз горла валіцца = Ажно кішка прутам стала

652. До последнего издыхания — Да самага скону = Да астатняга дыху

**653. До скончания века** — Па век вякоў (векаў) = Да скону свету = Пакуль свет (стаіць) = Давеку. *Гл. 1022*

**654. До черта** — Чорт колькі = Чортава процьма = Да гібелі = Да халеры. *Гл. 514, 788, 819, 833, 945, 1013, 1050, 1301, 1304, 1305*

**655. Драть шкуру** — Скуру дзерці = Дзерці як воўк кабылу = Скуру палосамі дзерці. *Гл. 600, 1266*

**656. Дрожать над каждой копейкой** — За капейку калаціцца = Крукам вісець над шэлегам. *Гл. 690, 703, 719*

**657. Дубина стоеросовая** — Варона загуменная = Доўбня (даўбешка) дурная = Цялё нялізанае = Палена дурное. *Гл. 487, 615, 658, 867, 1007*

**658. Дурак набитый** — Чысты дурань = Дурны як бот (як стаптаны бот, як бот з левай нагі) = Дурны як кавальскія гарны = Дурны як варона (як цецярук) = Як сала без хлеба = Боўдзіла дурное = Абух тупы. *Гл. 487, 615, 657, 867, 1007*

**659. Дурной (худой) глаз** — Нялюдскія (паганыя, ліхія, кепскія) вочы = Лядашчыкава вока = Нядобры на вочы

**660. Дух захватывает** — Духі (дух) займае (зацінае) = Дух забівае

**661. Духовная пища** — Духоўны пажытак = Пажытак душы

**662. Душа нараспашку.** — Душа наросхрыст (на́хлашч) = Шчырая душа = Сэрца на далоні. *Гл. 1148*

**663. Душа не лежит** — Душа не горнецца

**664. Душа ушла в пятки** — Аж душа зайшлася = І душы не было = Аж душа ў пяткі зайшла = Душа ў пяты пайшла = Душа трасецца = Пад пяты коле. *Гл. 559, 863, 1055*

**665. Дышать на ладан** — У вырай збірацца = Зямлёю пахнуць = Галасок хоць у пясок. *Гл. 512, 904, 1100, 1207, 1239*

**666. Едва ноги волочить** — Ледзьве ногі перастаўляць = Ног не змяніць = Ног змяніць не можа = Ледзь ногі совае. *Гл. 515, 592*

**667. Ей-богу** — Далібог (дальбог) = Далібог праўда = Даліпан = Даліпан праўда = Дайце веры = Богам сведчуся. *Гл. 668*

**668. Ей-ей (ей-же-ей)** — Дапра́ўды = Дадушы́ = Дадушы праўда. *Гл. 667*

**669. Еле-еле душа в теле** — Душа на нітачцы затрымалася = Дух вылазіць (духі вылазяць) = Ледзьве ногі цягае. *Гл. 526, 589*

**670. Есть поедом** — Е́жма есці = Жыўцом есці = Бакі аб'ядаць = Кішкі пераядаць = Вочы пячы. *Гл. 596, 1265*

**671. Ехать в ригу** *(блевать)* —Казлы драць = Ванітаваць

**672. Еще бы** — Дзіва што = Атож

**673. Жевать жвачку** *(надоедливо говорить)* — Каза́нь казаць = Малебны правіць = Таўчы адно = Жуйку жаваць. *Гл. 827*

**674. Животики надрывать** — Бакі рваць (зрываць, урываць) = За жывот (за жываты) брацца = Кі́шкі з рогату рваць = Ад смеху падрывацца = Порва бярэ. *Гл. 807, 1276*

**675. Живот подвело** — Духі падцягнула = Кі́шка ў кі́шку лезе. *Гл. 808, 847*

**676. Живые мощи** — Як здань з таго свету = Як з таго свету ўстаў = Як з крыжа зняты = Адно цень застаўся = Худы як смерць (як шкілет) = Косці звоняць. *Гл. 815*

**677. Жизнь бьет ключом** — Жыццё крынічыць (віруе, буяе, кіпіць)

**678. Жить в свое удовольствие** — На сваю пацеху жыць = Жыць як Адам у раі = Жыць як сад на пагодзе (як птушка на моры) = Жыць як вянкі плесці = Пяле́гавацца = Раскашаваць (раскашавацца). *Гл. 801*

**679. Жить как кошка с собакой** — Каты дзерці = Жыць (любіцца) як кот з сабакам = Сябраваць як два каты ў мяху. *Гл. 511*

**680. Жить на чужих хлебах** — На ласкавым хлебе быць = Жыць як у бога за дзвярыма

**681. Жить на широкую ногу** — Жыць як пан (як кароль) = Панам (па-панску) жыць = Жыць як золата важыць = Жыццё як мёду піццё = Жывем як песні пяем

**682. Жить по старинке** — Па-даўнейшаму жыць = Па старых звычаях жыць

**683. Жить своим умом** — Свой розум мець = Сваім одумам (сваім розумам) жыць

**684. Жребий брошен** — Выбар зроблены = Лёсы зробленыя

**685. Заблудшая овца** — Аблудная авечка

**686. Забодай тебя комар** — Бадай цябе качкі з'елі (стапталі) = Каб цябе куры затапталі = Бадай цябе кот убрыкнуў =

Каб цябе рак убрыкнуў = Каб цябе камары затаўклі = Каб цябе дождж памачыў = Каб цябе пярун калядны спаліў. *Гл. 1329*

**687. Заводить шуры-муры** — Залёты рабіць = Халяўкі смаліць. *Гл. 1052, 1057*

**688. Заглянуть в бутылку (в рюмку)** — Чарку ўзяць (кульнуць) = З шкляным богам пабачыцца (убачыцца, сустрэцца) = Шкляному богу пакланіцца = Шкло ўбачыць (пабачыць) = У бутэльку (у пляшку) зірнуць. *Гл. 866*

**689. Заговаривать зубы** — Зубы замаўляць. *Гл. 536, 587, 706, 729, 1121*

**690. Загребастые глаза** — Зямля ненаедная (ненаежная) = Зайздроснае вока. *Гл. 656, 703, 719*

**691. Задавать драла (деру)** — Драпака даваць = Лататы даваць = Цуба (цубака) даваць = Уцякаць як ад халеры (як ад заразы, як заяц ад сабакі, як чорт ад пасвячонай вады). *Гл. 622, 1069*

**692. Задавать тон** — Рэй весці

**693. Задавать храпака (храповицкого)** — На ўсе за́стаўкі храпці = Тхары капаць (дзёрці) = У сапу́ны (у сапунцы) пайсці

**694. Задать баню** — Дыхту даць = Лазні даць = На абаранкі ўскінуць (даць) = На бабку збіць. *Гл. 584, 624, 1222*

**695. Задать перцу** — Перцу ўсыпаць = Даць перцу з імберцам = Лою за скуру заліць = На хвост усыпаць. *Гл. 626, 630, 1211*

**696. Задирать (драть) нос** — Хохлікі дзерці = Лычык (грыб) задзіраць = Нос высока несці (трымаць) = У халяву ўступіць = Мухі (шэршні) ў носе завяліся = Чмялі мае ў носе = Крукам носа не дастаць. *Гл. 640*

**697. Задним умом крепок** — Па часе розум мае = У пусты след гаворыць = Розум прыходзе па шкодзе = Мудры лях па шкодзе

**698. Задрать ноги** *(о смерти животных)* — Капыты задраць = Капытамі налажыць = Хвост адкінуць. *Гл. 1114*

**699. За естественной надобностью** — Па сваёй патрэбе

**700. За здорово живешь** — З ласкі на пацеху = Без дай прычыны = Без дай ладу. *Гл. 967, 968, 985, 1162*

**701. Заклепки не хватает** — Трэцяй бэлькі нестае = Пятае клёпкі бракуе = Без пятай дошчачкі = Не тое што клёпкі, але і абруча няма. *Гл. 861, 919, 1127*

**702. Заколдованный круг** — Зачараванае кола = Заварожанае кола

**703. За копейку удавится** — За рубель жабу ў Вільню пагоніць = За капейку жабу да Барысава дубцом пагоніць = За шэлег у бажніцы плюне = За рублём павесіўся б = За рублём палез бы ў пекла = І з камара кроў высмакча (высее). *Гл. 656, 690, 719*

**704. Закрыть (смежить) глаза** — Вочы зачыніліся = На кут легчы = Рукі згарнуць = Рукі сашчапіць = Гасціны правіць, злажыўшы рукі. *Гл. 625, 1016, 1024, 1088, 1096, 1115, 1214, 1249*

**705. Заливаться соловьем** — Гаварыць як салавей з зязюлькаю = Гаворыць як крыніца булькоча = Гаворыць як у скрыпку грае

**706. Замазывать глаза** — Вочы замыльваць = Вочы сляпіць (туманіць) = Жвір у вочы сыпаць = Мазгі назад завярнуць. *Гл. 536, 587, 689, 729, 1121*

**707. Замолвить словечко** — Слова (слоўца) закінуць

**708. Заморить червячка** — Каліўца (каліва) ў рот укінуць = Каліва з'есці = Першы голад прагнаць

**709. Заплечных дел мастер** — Майстар галовы сцінаць

**710. За родительской спиной** *(жить)* — За бацькаваю галавою = За бацькавымі плячыма

**711. Зарыть носом** — Носам заараць = Зайца злавіць = Нос насталіць = З капылоў далоў = Носам у зямлю паляцець = Старча́ (старчака́) даць

**712. За семь верст киселя хлебать** — За лыжку яды сем вёрстаў хады = Сем міль еду дзеля аднаго абеду = Дзеля адной ежкі сем міль пешкі = За хунт ляпешкі дзесяць вёрстаў пешкі

**713. За словом в карман не лезет** — Слова не пазычае = Спрытны на язык = На кожнае слова адказ гатовы

**714. За тридевять земель** — За блізкім светам = За светам = За дзесятаю гарою = За вялікімі барамі, за глыбокімі вадамі. *Гл 829, 1282*

**715. За ушами трещит** — Аж нос гайдука скача = Аж нос у прысядкі гуляе (ідзе) = Аж нос угінаецца = Аж вушы трашчаць = Мала вочы не павылазяць. *Гл. 1280*

**716. За уши не оттянешь** — Паплескаю не адгоніш = Дзеркачом не згоніш (не адгоніш) = Не адцягнеш як ката ад мышы

**717. За ушко да и на солнышко** — За вуха ды туды, дзе суха = На лапату ды за хату

**718. Зашибить деньгу** — Шэлег абабіць = Капейчыну ўварваць (загрэбсці) = Капейку (якую) агараць

**719. Зимой снегу не выпросишь** — Снегу на Каляды не дапросішся = Узімку лёду не дасць = Гразі з–пад кіпця не дастаць. *Гл. 656, 690, 703*

**720. Злачное место** — Пажыўное месца

**721. Змея подколодная** — Гад падкалодны (папаўзучы) = Гадзіна праклятая = Вужака зякратая = Выпаўзень змяіны = Павук паганы = Скура вужачая = Погань чараватая

**722. Знать как облупленного** — Ведаць як аблупленую казу (кабылу) = Ведаць як аблупленага каня (сабаку) = Ведаць як ліхога шэлега (як ліхую шапку) = Яго скуру на пярэплатах пазнаю

**723. Зуб на зуб не попадает** — Зуб зуба паганяе = Аж зубы пакасцянелі = Душа заходзіцца = Дрыжыкі бяруць = Цыганскі пот праймае (бярэ, забірае) = Пасінеў (ссінеў, асінеў) як гусіны пуп = Сіні як пуп гусіны. *Гл. 846*

**724. И был таков** — Схапіў хатуль — дый быў патуль = Даганяй ветру ў полі = Толькі і чулі. *Гл. 749, 1075*

**725. Иван не помнящий родства** — Іван–бязродзіч = Бязродзіч = Іван той няпомнік

**726. И вся музыка** — І скрыпкі ў торбу = Дуды ў мех і квіта = Ду́ды ў мех і па ўсіх танцах. *Гл. 564, 731*

**727. И в ус (себе) не дуть** — Не дбаць і не шманаць = Не гнуцца й не вярнуцца = Як нічога ніякага. *Гл. 1112*

**728. Иголку некуда просунуть** — Носа не ўбіць = Шпількі не ўваткнуць = Голкаю няма дзе ткнуць (голкі не ўваткнеш) = Пальца прабіць не можна. *Гл. 1344*

**729. Играть в прятки** — У хованкі гуляць. *Гл. 536, 587, 689, 706, 1121*

**730. Играть со смертью в жмурки** — Галаву пад абух падстаўляць = На нож (на ражон, на бадаве́нь) лезці. *Гл. 839, 1154*

**731. И дело с концом** — І дуды вобземлю = Ужо і па клёцках = Дый годзе. *Гл. 564, 726*

**732. Идти (плестись) нога за ногу** — Не сваімі нагамі ісці = Як назаўтра трэба = Шоры цягнуць = Ісці як на паншчыну (як з могілак, як нявы́валака) = Цягнуцца як смоўж (як нуда, як

гад па зямлі) = Ідзе як за сабою воз цягне = Ідзе нібы спіць. *Гл. 805, 1046*

733. **Идти своим чередом** — Сваім парадкам ісці = Сваім ладам ісці

734. **Извиваться ужом** *(изворачиваться)* — Круціцца як вуж у вілах = Выкручвацца як вуж (як уюн) = Выпінацца (выкручвацца, круціцца) як скурат на агні = Выкручвацца як цыган на кірмашы

735. **Из молодых да ранний** — Малады, але спелы = Малады верабей, ды спрытны = Малое шчанё, а гаўкае

736. **Изо всех сил** — Як дуж = На ўсе жылы = З цэлай моцы = Што моцы = Як моц–сіла = Як з шыбеніцы сарваўся = Як чорт з пісьмом. *Гл. 546, 551, 604, 781, 802, 1030, 1201, 1213, 1332*

737. **Из одного теста** — Чэрці аднай шэрсці = Бліны–ляпешкі з аднае дзежкі. *Гл. 631, 892, 1003, 1004*

738. **Изо дня в день** — Дзень пры дні = Што ў бога дзень = Па што дзень = Дзень у дзень = Кожнага дня

739. **Из первых рук** — Праз першыя рукі

740. **Из–под палки** — Як з найму = З прымусу = З прынукі = Пад прыгонам = Як шарва́рку адрабляе = Як пад бізуном = Як на паншчыне

741. **Из пушки по воробьям** — За мухай з абухам = За камаром з малатком

742. **Из уст в уста** — З вуха на вуха

743. **И купит и продаст** — Прадасць і грошы палічыць = Кра́мная скура = Сабакам падшыты

744. **Иметь в виду** — Мець на ўвазе (на прыкмеце) = На воку мець = Наўвеце мець

745. **Иметь зуб** — Вока не мець = Зака́лец мець. *Гл. 641*

746. **И нашим и вашим** — Табе, божа, і табе, божа = Крышыць буракі на абодва бакі = Жыве з сарокамі, жыве і з варонамі = І бога не гнявіць, і чорту дагадзіць

747. **Искать днем с огнем** — Удзень са свечкаю шукаць = Сонца днём з агнём шукаць

748. **Искры из глаз посыпались** — Семдзесят сем агнёў убачыў = Аж зоркі ў вачах заскакалі = Свечкі ў вачах засвяціліся = Яскаркі з аччу пасыпаліся

749. **И след простыл** — І след ветрам змяло = І следу не стала = Ні пылу ні следу = Як венікам змяло = Прапаў як цень

на вадзе = Са слыхамі пайшоў = І знаку не відаць (не засталося) = Знаку аніякага (аніякенькага). *Гл. 724, 1075*

**750. Испокон века** — Спракон вякоў = Спраку (спроку) веку = З продкаў вякоў = Спрадвеку. *Гл. 544*

**751. Исчадие ада** — З пекла родам = Чортам падшыты = Чортава кодла = Анцы́пар няшчасны = Халера з-пад цёмнай хмары = Чортаў брат (сын, дух) = Чорт смалены з бурага балота = Нелюдзь нейкая. *Гл. 1244, 1320*

**752. И так и сяк** — І так і гэтак = То бокам то скокам = Скокам, бокам, павалокам. *Гл. 753*

**753. И туда и сюда** — І туды і сюды = І тудою і сюдою = І сюды Мікіта і туды Мікіта. *Гл. 752*

**754. Ищи ветра в поле** — Даганяй ветру ў полі = Прапаў як туман = Як вадой разліўся. *Гл. 647*

**755. Ищи дурака (дураков)** — Няма дурных

**756. Как аршин проглотил** — Сядзіць (стаіць) як цвік = Няйначай кол пракаўтнуў

**757. Как банный лист пристал** — Прыліп як смала (як слата, як сала да падэшвы, як муха да мёду) = Прычапіўся як п'яны да плоту (як п'яніца да бутэлькі) = Смала смалою прывязаўся = Прыліп як бярозавы ліст у лазні = Прывязаўся як чорт да старой ігрушыны. *Гл. 1103*

**758. Как будто язык проглотил** — Цяляты язык аджавалі (ад'елі) = Маўчыць як без'языкі (як воцату выпіўшы, як камень пры дарозе, як мур, як слуп, як сыч, як рыба) = Маўчыць як немы (як нямко, як анямелы)

**759. Как в аптеке** — Мера і вера = Мера — вера, а вага — праўда = Дзе мера, там вера

**760. Как варом обдало** — Як халадзёнкай аблілі = Як агнём апякло = Як прыскам сыпнулі = Як жару сыпнулі

**761. Как в воду канул** — Прапаў як у ваду ўпаў = Пайшоў як з вадою = Прапала, і пырскаў не стала = Як камень у ваду = Як кулём на дно = Як у тон утануў = Як растаў. *Гл. 795*

**762. Как в воду опущенный** — Як жыць не збіраецца = Як пад зямлёю = Як цела без душы = Ні сцяты ні павешаны. *Гл. 1155*

**763. Как ветром сдуло** — Як вецер знёс (звеяў, развеяў) = Як вада змыла = Як венікам змяло = І след ветрам змяло. *Гл. 775*

**764. Как вкопанный** — Як скамянелы = Як аслупянелы =

Як прыкуты = Як стропаны (спутаны) = Застыў як певень пасля кукарэку. *Гл. 771*

**765. Как в котле кипеть** — Круціцца як уюн на патэльні = Круціцца як голы ў крапіве (ў мурашніку) = Падскокваць як кот на гарачай блясе. *Гл. 523*

**766. Как волк на привязи** — Злосці поўныя косці = Пячонка пячэцца = Злосны як спасаўская муха = Выскаліўся як сабака ў пастцы

**767. Как говорится** — Як той казаў = Казаў той = Так бы мовіць

**768. Как гора с плеч свалилась** — Як камень з грудзей ссунуўся = Нібы гара з плячэй (спала) = Як што з плеч ссунулася = Быццам камень з сэрца спаў

**769. Как две капли воды** — Як з вока выпаў (вырваны) = Голас у голас, волас у волас = Парушынкі (бубкі) падабраў = Нават крышкі пабраў = І крышкі бацькавы (матчыны) сцягнуў (пабраў) = І мэрачкі (кропелькі, крышачкі) пабраў = Кроплі зняў = Ры́хтык (бацька, маці)

**770. Как за каменной стеной** — Як за мурам = Як за плотам = Як за каменнаю гарою. *Гл. 804*

**771. Как изваяние** — Як зачараваны = Нібы ўмураваны = Як стаўбень = Як слуп = Як пень у белы дзень = Як крыцаю сеў. *Гл. 764*

**772. Как из ведра** — Як з цэбра = Як з луба = Як з вяроўкі = Як з вядра = Як з конаўкі

**773. Как из-под земли вырос** — Выскачыў як казак з маку (як чорт з лазы, як жаба з куста) = Як з хмары спаў. *Гл. 504, 1020*

**774. Как из рога изобилия** — Як з рога дастатку = З рога ўсяго многа

**775. Как корова языком слизала** — Як вол злізаў = Як языком злізала = Як чорт хвастом накрыў = Як мышы з'елі. *Гл. 763*

**776. Как корове седло** — Як свінні завушніцы (пацеркі, набэдрыкі) = Як карове падсядзёлак (сядло, паўшоры) = Як да свінні кульба́чка. *Гл. 777, 789, 792, 800*

**777. Как мертвому припарки** — Як памерламу кадзіла = Як хваробе кашаль = Як хвароба з трасцаю. *Гл. 776, 789, 792, 800*

**778. Как муху проглотил** — Як мыла з'еўшы = Як мыш глынуўшы = Як журавін жменю глынуў. *Гл. 876, 877, 878*

**779. Как на иголках** — Як на шыле (на шылах) = Як на цвіках = Як на шпільках = Як на голках = Як на шрубах. *Гл. 782*

**780. Как на подбор** — Адзін у адзін = Каліва ў каліва (каліўца ў каліўца) = Лоб у лоб = Як на заказ

**781. Как на пожар** — Як жару (агню) ўхапіўшы = Як рыцыны глынуўшы = Як падсмалены = Як апараны = Як з жарам у нагавіцах = Як бягунка падганяе. *Гл. 546, 551, 604, 736, 802, 1030, 1201, 1213, 1332*

**782. Как на угольях** — Як падпякаюць = Як на жа́ры = Як на вуголлі = Як у пры́ску = Як скурат на агні = Як чорт перад хмарай. *Гл. 779*

**783. Как ни верти** — Круці не круці = Як ні варочай (адно за адно карочай). *Гл. 1311*

**784. Как ни в чем не бывало** — Як ніколі нічога = Як нічога ніякага = Як не лысы = Як нібы той

**785. Как об стенку горох** — Як пугаю (што кіем) па вадзе = Як з вадою біцца = Як да сцяны гаварыць = Як з кабылаю па́церы мовіць. *Гл. 1300*

**786. Какого черта** — Якой хваробы = На ліха = На якога д'ябла. *Гл. 883, 1191*

**787. Как перст** — Як зязюлька = Як месячык у небе = Як таполя сярод поля = Як былінка ў полі = Як кол пры дарозе = Як той калок = Як пень = Як колас на ржышчы. *Гл. 486, 998*

**788. Как песку морского** — Як зорак на небе = Як маку = Як пяску. *Гл. 514, 654, 819, 833, 945, 1013, 1050, 1301, 1304, 1305*

**789. Как плешивому гребень** — Як сляпому акуляры = Як сляпому люстра (люстэрка) = Як лысаму грэбень. *Гл. 776, 777, 792, 800*

**790. Как по маслу** — Як з маслам = Бы маслам памазаў = Як на мазаных колах

**791. Как последнего лишился** — Як астатняе ў печ усыпаўшы = Як астатняе спёкшы = Як зямлю прадаўшы

**792. Как прошлогодний снег** — Як у мосце дзірка = Як бочка без абручоў = Як леташні снег на градах = Як солі ў вочы = Як солі да селядца = Як гнілы корань у роце. *Гл. 776, 777, 789, 800*

**793. Как резаный** — Як зарэзаны = Як апантаны = Нібы

з яго скуру лупілі = Як за язык пачэплены = Як на гвалт = Як на жывот. *Гл. 549, 550, 825, 1333*

**794. Как с гуся вода** — Ані ў знак = Як не лысы = І ні лыс Габрусь

**795. Как сквозь землю провалился** — Прапаў як у процьму ўпаў = Як вадою разліўся = Як праз зямлю праваліўся = Як перуном спаліла = Прапаў і сонцам запаў. *Гл. 761*

**796. Как сквозь сон** — Як праз сон = Як у сне

**797. Как с козла молока** — Як ад быка малака = Ні лою ні ўдою = Карысці як з порхаўкі = Карысці як з быка: ні воўны, ні малака = Як з казла: ні руна ні малака

**798. Как с луны свалился** — Як сёння з яйка вылупіўся = Хіба (няйначай) з неба зваліўся = Быццам з неба спаў = З дуба зваліўся

**799. Как собака на сене** — І не гам і не дам = Сам не гам і людзям ( другому) не дам

**800. Как собаке пятая нога** — Як пятае кола ў возе (да воза) = Як сабаку другі хвост. *Гл. 776, 777, 789, 792*

**801. Как сыр в масле кататься** — Як сыр у смятане (як клёцкі ў масле) плаваць (жыць) = Як галушка па масле плаваць = Бы сыр у масле качацца (пялéгавацца, купацца).

**802. Как угорелый** — Як апантаны = Як ачмурэлы = Як шалёны = Як дурны = Як блёкату аб'еўшыся = Як мыш абсмаленая. *Гл. 546, 551, 604, 736, 781, 1030, 1201, 1213, 1332*

**803. Как ужаленный** — Як апараны = Як варам абліты = Як муха ўкусіла = Як ад іскры = Як заяц з–пад купіны

**804. Как у Христа за пазухой** — Як за богам = Як у божым вушку = Як у бога за плячыма = Як у бога за печчу = Як у матчыным жываце. *Гл. 770*

**805. Как черепаха (ползти, тащиться)** — Як муха па смале (на сыроватцы) = Як з гаршкамі на торг = Паўзці як вусень (як смоўж, як чарапаха) = Цягнуцца як рапуха. *Гл. 732, 1046*

**806. Кануть в небытие (в Лету)** — У нябыт адысці = У няпамяць пайсці

**807. Кататься (валяться) со смеху** — Ад смеху заходзіцца (класціся, качацца, залягацца) = Покатам класціся = З рогату паехаць = Жывыя смехі. *Гл. 674, 1276*

**808. Кишкá кишкé весть подает ( кукиш кажет)** — Кíшка з кíшкаю сварыцца = Салаўі ў жываце спяваюць = Кíшкі марша граюць. *Гл. 675, 847*

**809. Кишка тонка** — Кароткія пяты = Кароткія завароткі

**810. Класть зубы на полку** — Зубы на паліцу класці = Зубы за грады (заградкі) класці = Чакаць зіміцу, зубкі склаўшы на паліцу. *Гл. 1184, 1342*

**811. Клевать носом (дремать сидя)** — Акуні цягаць (вудзіць) = Табаку важыць = Дзяды вадзіць = Борухі вадзіць = Носам вадзіць

**812. К морковкину заговенью** — На святыя ніколі = На святыя Міколы або ніколі = На святы Адам. *Гл. 814, 1083*

**813. Ко всем чертям (к чертям собачьим)** — У балота = У аржавень = У вір = На ростані = На сухі лес = У катнія рукі = На лясы, на балоты. *Гл. 834*

**814. Когда рак (на горе) свистнет** — Як воўк шчанём будзе і брахаць хвастом будзе = Як на далоні валасы парастуць = Як будзе баба дзеўкаю = Хутчэй бусел жарабя ўродзіць = Тады, хіба, перастане, як сарока бела стане. *Гл. 812, 1083*

**815. Кожа да кости** — Ногі ды рогі = Рэбры ды скура = Адно косць ды скура = Ні духоў ні трыбухоў = Хоць рэбры лічы = Касцьмі барабаніць = Адны вочы блішчаць = Худы як дошка (як смык, як скрыпка) = Як ніколі нічога не еўшы. *Гл. 676*

**816. Козел отпущения** — Ахвярны казёл

**817. Коломенская верста** *(высокорослый)* — Пад (самае) неба = Вялікі як матавіна = Доўгі як жэрдка = Выгоністы як хвоя = Выгнала як тычыну = Вырасла як дырба

**818. Комар носа не подточит** — Камар носам не падлезе = Камар носа не падаткне

**819. Конца–краю нет** — Канца і меры няма = Канца–берагу няма (не відаць) = Ні канца ні меры. *Гл. 514, 654, 788, 833, 945, 1013, 1050, 1301, 1304, 1305*

**820. Коптить небо** — Зямлю цяжыць = Свет займаць = Свет смуродзіць = Дні церці

**821. Косая сажень в плечах** — Цэлы сажань у плячах = Плечы як засланка

**822. Кот наплакал** — З жабіны прыгаршчы = З антонаву слязу = Зайцу на закуску = У адну столку = Можна на пальцы спячы = Толькі вочы мачаць = Як вароне (сароцы) на хвасце панесці = Як кату пад'есці = Кот за адзін абед з'еў. *Гл. 1169*

**823. Красная девица** — Краса–дзеўчына

**824. Краснеть до корней волос** — Да самых вушэй чырванець = Аж спіна пачырванела = Ракі пячы

**825. Кричать не своим голосом** — Нема крычаць = Кры́чма крычаць = Немым духам (голасам) крычаць = Ліхім крыкам крычаць. *Гл. 549, 550, 793, 1333*

**826. Кровь с молоком** — Здаровы як дуб скарбовы (як рыжык баровы, як лёд, як мур) = Здаровы як дуб ды моцны як зуб = Сыр ды малако = Як перапечка = Як конь стаенны = Румяны як пернік = Маладзіца як брусніца

**827. Крутить (заводить) шарманку** — Катрынку заводзіць. *Гл. 673*

**828. Куда ветер дует** — Які вецер павее = Куды вецер, туды я = Куды ветрык вее

**829. Куда ворон костей не заносил** — Дзе зязюлі не кукуюць = Дзе камар козы пасе = Дзе саболі пасвяць = Дзе горкі перац расце = Дзе нашыя вароны не лятаюць = Дзе чорт хамуты не вешае. *Гл. 714, 1282*

**830. Куда глаза глядят** — У свет вочы = Куды вочы павядуць = За вачыма = Дзе вочы панясуць. *Гл. 831*

**831. Куда ноги несут** — Перад сабою = У белы свет = Куды ногі панясуць. *Гл. 830*

**832. Кукиш с маслом** — Гула́ смаленая (асмаленая) = Фіга на талерцы = Трасцы з макам = Хваробы з трасцаю (трасцы з хваробаю)

**833. Куры не клюют** — Грошай як трэсак (як смецця, як мякіны, як пяску, як гразі) = Грошай як у чорта = Сабакі не ліжуць. *Гл. 514, 654, 788, 819, 945, 1013, 1050, 1301, 1304, 1305*

**834. К чертовой матери (к чертовой бабушке, к черту, к лешему)** — К нячысціку = К д'яблу = К рагаціку = Да цмока = Да балотніка = Да вадзяніка = Да лесавіка = Да хатніка = Пад чортаву галаву = Пад халеру. *Гл. 813*

**835. Лакомый кусок** — Ласы (смачны) кавалак = На́дны (пана́дны) кавалак

**836. Лаптем щи хлебать** *(о некультурном, неотесанном человеке)* — Аборай хлеб кроіць = Вяроўкаю хлеб рэзаць

**837. Легок (скор) на ногу** — Хуткі на хаду = Лёгкі на ногі = Хуткі (шпаркі) як стронга = Шпаркі як бліскаўка (як маланка, як бліскавіца)

**838. Лежать на боку** — Лежні спраўляць = Бакі аціраць = Халадкі аціраць = Крыцаю ляжаць. *Гл. 490, 619, 1045, 1106, 1212*

**839. Лезть в петлю** — На шыбеніцу спяшацца = Сіло шукаць = У вяроўку лезці = Засіля́цца. *Гл. 730, 1154*

**840. Лезть из кожи вон** — Са скуры вылузвацца (выпінацца) = Са скуры лупіцца (прэгчыся). *Гл. 1143, 1267*

**841. Лезть на глаза** — Лезці як дым у вочы = Смалою (смаліцаю) лезці ў вочы = Гадам у вочы скакаць = У вочы вязацца. *Гл. 862, 1126*

**842. Лечь в душу** — К сэрцу прыпасці = У вока ўпасці. *Гл. 1095*

**843. Лить (проливать) слезы** — Пла́чма плакаць = Бярозаю (як бяроза) ліцца = Слязьмі душыцца = Плачам душыцца = Слёзы ліць. *Гл. 993, 1139, 1144*

**844. Ловить рыбу в мутной воде** — У каламу́це рыбу лавіць = У муце́ шчупакоў (рыбу) лавіць

**845. Ломиться в открытую дверь** — За пусты мех біцца = За пустое карыта сварыцца = Адамкнёныя дзверы адмыкаць

**846. Лязгать зубами** — Зубамі званіць = Дрыжыкі прадаваць = Дрыжма дрыжэць = Дрыжэць як у трасцы. *Гл. 723*

**847. Маковой росинки во рту не было** — Ні расінкі ні каліва ў роце = У роце не расілася = Расы ў роце не было = І росачкі ў губе не было = Маку́лінкі (расіначкі) ў роце не было = Не піўшы не еўшы. *Гл. 675, 808*

**848. Мал мала меньше** — Адзін пад адным = Пад адзін струп = Адно аднаго не нясе

**849. Маменькин сынок** — Сынок-пестунок = Бабін дурань = Мамін дурань

**850. Марать руки** — Рукі паганіць (паскудзіць)

**851. Мастер на все руки** — Рукі на ўсе штукі = Штукар на ўсякія штукі = Усё гарыць у руках = З рукамі = І шавец, і кравец, і каваль, і стругаль

**852. Медвежий угол** — Глухі закутак

**853. Между молотом и наковальней** — Між молата і кавадла = Паміж ліха і гора (паміж ліханька і гораньна)

**854. Менять (променять) кукушку на ястреба** — Быка на індыка мяняць (змяняць) = Галубку на саву мяняць. *Гл. 855*

**855. Менять шило на мыло** — Дуплятае на прабітае мяняць = Гаршчок на гліну мяняць. *Гл. 854*

**856. Мерить на свой аршин** — На свой капыл мераць = На сваю мерку мераць

**857. Мертвым (мертвецким) сном** *(спать)* — Хоць зубы выберы (павырывай) = Як нежывы = Як забіты = Як маку наеўшыся = Як пасля маку = Як п'яны. *Гл. 483*

**858. Метать громы и молнии** — Перуноў даваць = Фа́еру даваць

**859. Милое дело** — Любата

**860. Много мнить о себе** — Высока галаву насіць = Высока лётаць

**861. Мозги набекрень** — Мазгі без чэрапа = Кішкі ў галаве = Прусакі ў галаве. *Гл. 701, 919, 1127*

**862. Мозолить глаза** — Сляпіцаю (слепнем) ў вочы лезці = Вочы рэзаць = Рап'ём лезці ў вочы = Асвою (асою) лезці ў вочы. *Гл. 841, 1126*

**863. Мороз по коже дерет** — Аж кашуля палатном стала = Аж сарочка спалатнела = Аж кашуля да цела не туліцца = Цыганскі пот праймае (бярэ, забірае) = Мароз на скуры стаіць = Мароз па скуры ходзіць. *Гл. 559, 664, 1055*

**864. Морочить голову** — Галаву дурыць (тлуміць, чмуціць, чмурыць, зяліць). *Гл. 1160*

**865. Мухи не обидит** — Камара не заб'е = Курыцы не пакрыўдзіць = І камара не зачэпіць (не скрыўдзіць) = Пальцам не зачэпіць = Рукі не пакладзе = Гнілому цяляці хваста не адарве. *Гл. 556*

**866. Муху раздавить (зашибить)** — Кручок загнуць = У чуб укінуць = На чарвяка скінуць = На корак наступіць = З Лейзарам (з карчмаром) прывітацца = У шулумейку закінуць. *Гл. 688*

**867. Мякинная башка** — Сечка ў галаве = Амецямі (сечкай) галава напхана = Авечая галава = Мазгаўня дурная. *Гл. 487, 615, 657, 658, 1007*

**868. Набить карман** — Кішэнь напхаць = Ліхі шэлег абабіць. *Гл. 1051*

**869. Набить оскомину** — Аскомы нагнаць = Апрыкраць = Абрыднуць. *Гл. 874*

**870. Набить руку** — Руку наламаць = Навы́тырыцца

**871. На вид** — З выгляду = На пагля́д = На спазор = Пазорам

**872. На воробьиный шаг** — На жабін скок = На рыбіну нагу

**873. На днях** — Гэтымі днямі = Надоечы

**874. Надоесть хуже горькой редьки** — Апрыкраць як гор-

кая цыбуліна (як горкі яблык) = Абрыднуць як рыба гнілая = За горкую ягаду ўпекціся = Спры́крыцца як ваўкалака = Стаць горкім як чэмер = Хоць махалам гані. *Гл. 869*

**875. Надувать (дуть) в уши** — Да вушэй даводзіць (прыносіць) = Вязе́лле гнуць = Мак зялёны трэсці. *Гл. 1042, 1324, 1346*

**876. Надулся как индюк** — Надзьмуўся як сыч (як сава, як цецярук, як сурма́ч) = Нахохліўся (надзьмуўся) як індык = Натапырыўся як вожык (як верабей). *Гл. 778, 877, 878*

**877. Надулся как мышь на крупу** — Скрывіўся як серада на пятніцу = Надзьмуўся як вош на мароз = Надзьмуўся як кавальскі мех = Надзьмуўся як жаба на карчы (на купіне). *Гл. 778, 876, 878*

**878. Надуть губы** — Губы (губу) закапыліць = Лупы наставіць = Грыбы надзьмуць = Дзьмецца як не парвецца. *Гл. 778, 876, 877*

**879. На закате дней** — На схіле веку (жыцця)

**880. Найти рукавицы за поясом** — За лаваю с..керу знайсці = У зубах люльку (піпку) знайсці

**881. На каждом шагу** *(всюду)* — Што ні крок

**882. На камне голову прокормит** — Такі і на камені разрасцецца = Пройдзе поле і ног не наколе = Гэты Яўхім і з вады вылезе сухім. *Гл. 1281*

**883. На кой черт** — На чорта = На ліха = На халеру = На няшчасце = На пярун. *Гл. 786, 1191*

**884. На корню** — На пні

**885. На кривой (на козе) не объедешь** — На лапці не аб'ехаць = Не дасць сябе за вус закруціць = І ў ступе таўкачом не трапіш = Не абдурыш. *Гл. 889*

**886. Накрыть стол** — На стол сабраць (даць)

**887. Нализаться как свинья** — Набрацца як жаба твані (мулу, гразі) = Набрацца як свіння гразі (брагі) = Насцябацца (упіцца) як свіння (як вяпрук) = Кавануую свінку купіць. *Гл. 896, 899, 1128*

**888. Наломать бока** — Бакі намуляць (намацаць) = Рэбры памацаць = Кіем рэбры памацаць = У косці даць (усыпаць, увярнуць). *Гл. 629, 890, 1043*

**889. На мякине не проведешь** — На мякіне не падманіш (не зловіш) = І ў рэшаце не зловіш. *Гл. 885*

**890. Намять холку** *(нанести побои)* — У каршэнь даць (наўскладаць, налажыць) = Кухталя (кухталёў) даць = Грымака́ даць = Штурханоў надаваць = Па грыбах (па губах) даць. *Гл. 629, 888, 1043*

**891. На ночь глядя** — Проці ночы

**892. На один покрой** — На адзін капыл = Абодва (усе) роўныя = Адно васемнаццаць, а другое без двух дваццаць = На адзін лад. *Гл. 631, 737, 1003, 1004*

**893. На первый случай** — На першы абыходак

**894. На первых порах** — На першую пару = Напачатку. *Гл. 1035*

**895. На перепутье** — На раздарожжы = На ростанях = На крыжаванай (крыжавой) дарозе = На крыжавых пуцінах (дарогах) = На расходных дарогах

**896. Напиться в дымину** — Набрацца (насцябацца) як павук = Набрацца як Марцін за рубля (як Марцін мыла). *Гл. 887, 899, 1128*

**897. На пороге жизни** — Перад сваім векам

**898. На радостях** — З радасці

**899. Нарезаться в стельку** — Напіцца (набрацца) як зямля = Набрацца як бэля (бэйля) = Да божай моцы напіцца = Чары набрацца. *Гл. 887, 896, 1128*

**900. Нарываться на неприятность** — Гуза (гузякі) шукаць = Гуза на галаву (на лоб) шукаць = Шукаць як воўк даўбешкі (доўбні) = Галава гузака шукае

**901. На седьмом небе** *(быть)* — Рай адамкнуўся (адчыніўся) = На неба ўзлезці = Як на сто коней сеў. *Гл. 510*

**902. Насколько хватает (достает) глаз** — Як вокам скінуць (кінуць, сягнуць, дастаць, згледзець, схапіць) = Як вока згледзіць (схопіць, сягае, дастане, кіне) = Як глянуць = Як завідаць

**903. На скорую руку** — На хапок (на хапка) = На гарачыя губы (узяцца) = Прыхапкам

**904. На смертном одре** — На божай пасцелі = На божай дарозе. *Гл. 512, 665, 1100, 1207, 1239*

**905. На сносях** — На пары = На часах = На россыпу = На вылiўках. *Гл. 569*

**906. Натянуть (наставить, наклеить) нос** *(одурачить)* — У хадакі абуць = Боты падшыць = У пасталы (у лапці) абуць =

Лапці падплесці = На ўсе чатыры нагі падкаваць = У дурні пашыць

**907. На ходу подметки рвет** — З-пад сучкі яйка ўкрадзе = І з-пад гадзіны яйкі выбера = Усе яйкі з-пад яшчаркі падастае = Стаячаму лапці падпляце = З-пад бягучага каня падковы адрывае. *Гл. 1218*

**908. На худой конец** — На благі канец = У найгоршым разе. *Гл. 552, 1070*

**909. На чем свет стоит** — Кля́не, аж трава вяне = Аж вантробы выварочвае = Лае як рэпу грызе

**910. Наша взяла** — Наша ўзяло

**911. На языке реку переедет** — Жаба на языку не спячэцца = На языку нічога (нічогачка) не замерзне = Сем сабак не абрэша (не перабрэша)

**912. Не было печали** — Вось ліха = Не меў клопату

**913. Не в бровь, а в глаз** — Сказаў як уцяў = Як у сук улеплена (уляпіў) = Секануў як крапівою = Сказаў як звязаў = Сказана як звязана

**914. Не в духе** — Не ў гуморы

**915. Не велика беда** — Такой (малой) бяды = Клопат вялікі = Не бяды. *Гл. 1334*

**916. Не взвидеть света** *(испытать сильную боль)* — Аж сем бажніц (касцёлаў) убачыць = Думаў, неба лізну. *Гл. 979, 1302*

**917. Не видать как своих ушей** — Угледзець (убачыць) як сваю патыліцу = Угледзець як сваё вуха = Убачыць як свіння неба

**918. Не видеть дальше своего носа** — Не бачыць далей, як канец носа свайго

**919. Не все дома** — Без пятай дошчачкі = Не ўсе дошчачкі ў парадку = Не ўсе ў бердзе (яму) = Клёку ў галаве не мае = Алею ў галаве мала. *Гл. 701, 861, 1127*

**920. Не давать прохода (покоя)** — Быту (збыту) не даваць = Ступіць не даваць = Жыцця не даваць = Вочы выймаць

**921. Не давать спуску** — Літасці не даваць = Не папускаць

**922. Не дай бог** — Крый божа (бог) = Хай бог не дае = Хай бог сцеражэ. *Гл. 937, 1278*

**923. Недалеко ходить за примером** — Прыкладу шукаць

недалёка = Прыклад пад лаўкаю знойдзеш = Недалёка шукаць (шукаючы) = Недалёка хадзіць, у нас гэта самае

**924. Не к добру** — Не на добрае

**925. Не к месту** — Недарэчы = Ні ў пяць ні ў дзесяць = Ні да бока ні да вока = Як з санямі на стол. *Гл. 971*

**926. Не к ночи будет сказано** — Не проці ночы кажучы = Не перад ноччу кажучы = На заднія дні няхай будзе памянута = Заднімі днямі памянута = Не пры табе пісана, не пры мне казана = Не за хлебам памянута. *Гл. 940*

**927. Не лаптем щи хлебать** — Не абораю хлеб кроіць = Не з гліны злеплены. *Гл. 932*

**928. Не лезет в глотку (в горло)** — У рот не ўбіць (не лезе) = У душу не ўбіць (не лезе) = У душу не пускае = У роце расце = Ні да роту = Ні да зубу

**929. Ненасытная утроба** — Конская ежа = Плячысты на жывот = У кішках мазгі = Ненажэра. *Гл. 503*

**930. Не на того напал** — Са́ма той

**931. Не обращать внимания** — Не зважа́ць = Увагі не мець = Не браць да галавы

**932. Не обсевок в поле** — Не з пустога хлява затычка = Не з парожняй бочкі затычка = Не цыган душу ўлажыў. *Гл. 927*

**933. Не от мира сего** — Як не з гэтага свету = Як душа без цела

**934. Не покладая рук** — Душы́ паслуха́ючы = Душы прыслу́хаўшы (прыслуха́ючы) = Рупліва як пчала (як мурашка)

**935. Не поминай лихом** — Не спамінай ліхога = Не ўспамінай (не згадвай) благім словам

**936. Не по нраву** — Не даспадобы = Не да носа = Не ў прыкуску

**937. Не приведи господь (бог)** — Не давядзі свет = Хай бог абносіць (бароніць) = Не давядзі бог. *Гл. 992, 1278*

**938. Не разбери-поймешь** — І тут гу-гу і там гу-гу, і нічога разабраць не магу = Разбярэшся тут з табою, як у лесе з бараною: то за елку, то за хвою. *Гл. 1158*

**939. Не робкого десятка** — Не з баязлівых = Не з палахлівых. *Гл. 996*

**940. Не ровён час** — Няўрокам кажучы = Не тут кажучы = Не пры нас казана = Не ў вашай (не ў гэтай) хаце спамінаючы = Не пра нас (не пра вас) кажучы. *Гл. 926*

**941. Не сводить (не спускать) глаз** — З вока не выпускаць = З ваччу не спускаць. *Гл. 605, 1208*

**942. Не сойти мне с этого места** — Каб я з месца не ўстаў = Каб я з гэтага месца не сышоў = Каб я да гэтага месца прырос = Каб я дахаты не дайшоў = Каб я гэтак ночаньку святую пераначаваў і дзень святы даждаў (калі гэта няпраўда). *Гл. 507, 1027, 1105, 1125, 1137, 1269*

**943. Несолоно хлебавши** — Шылам патакі хапіўшы = Шылам гарачай кашы ўхапіўшы = Круп шылам наеўся = Торбу жаб прынёс (прывёз) = Быўшы, быўшы дый ідзі завыўшы = Прыйшоў, таўкача аблізаў дый пайшоў = Сліну каўтнуўшы = Як аблізаўшыся = З мілым ліхам = З квітам (з квітком). *Гл. 1011*

**944. Нести (городить) околесицу (чепуху, чушь)** — Лухту плесці (несці, малоць, вярзці) = Гарох з капустаю мяшаць = Боб з гарохам мяшаць = Мох з балотам несці = Сем карабоў наверзці = Абы-што вярзці (малоць) = Языком малоць = Не падсяваючы малоць (сыпаць) = Лухту непадсяваную лухціць = Плявузгаць. *Гл. 1081*

**945. Несть числа** — Лікам не злічыць = Ліку няма (не набрацца) = Лічбы не мець = Без лічбы = Страх глядзець = Цёмная хмара = Аж чорна = Недзе мех развязаўся = Як мурашак = Як маку = Як пчол у караніку = Зямля не падымае. *Гл. 514, 654, 788, 819, 833, 1013, 1050, 1301, 1304, 1305*

**946. Нет и в помине** — І заваду няма = І згадкі няма = І знаку няма

**947. Нет стыда в глазах** — У сабакі (у рабога сабакі) вачэй пазычыўшы = Сорам як таму цюцьку = Сораму як у пеўня мяса на шпорах. *Гл. 1087*

**948. Не тут-то было** — Ды дзе там

**949. Не укладывается в голове** — У галаве не тоўпіцца = Розуму не дабраць

**950. Не фунт изюму** — Не проста з моста = Не мех сшыць = Не пальцам пераківаць = Не люльку выкурыць = Не лапаць сплесці = Не лапці вязаць = Не абы-што

**951. Нечего сказать** — Што і казаць. *Гл. 987, 1294*

**952. Не чета** — Не раўня

**953. Нечистая сила занесла (принесла)** — Нячысцік прыгнаў = Паганая сіла прынесла = Бура прыгнала = Ліха прынесла. *Гл. 1322*

**954. Ни богу свечка ни черту кочерга** — Ні богу свечка ні

чорту галавешка (ражон) = Ні ў пір ні ў вір = Ні людзям паказаць ні сабе паглядзець. *Гл. 957, 982, 1252*

**955. Ни бум–бум** — Ні бэ ні мя, ні божае імя = Ні цэ ні бэ = Пень пнём. *Гл. 1076*

**956. Ни былинки ни травинки** — Ні сянінкі ні цавінкі = Ні скарынкі ні саланінкі = Ні крышачкі ні кропелькі = Ні былінкі ні парасінкі = Ані хлеба ані табакі (прападаем як сабакі) = Няма ні каліва = Няма ні крышкі = Хоць запалі, то не трэсне (не лусне) = Ані шэлега. *Гл. 970, 1310*

**957. Ни в городе Богдан ни в селе Селифан** — Ні к Сідару ні к Хведару = Ні да печы ні да рэчы. *Гл. 954, 982, 1252*

**958. Ни в дудочку ни в сопелочку** — Ні скакун ні граюн, а ў куточку сядун = Ні качка ні швачка = Ні млён ні таўкач. *Гл. 960, 988*

**959. Ни в коем случае** — Ні ў якім разе. *Гл. 966*

**960. Ни в куль ни в воду** — Ні ў плот ні ў азярод = Ні ў кола ні ў мяла = Ні ў плот ні ў тын, ні ў добрыя людзі = Ні ў пень ні ў калоду, ні ў плот ні ў азярод = Ні ў сеч ні ў печ = Ні ў біла ні ў мяла = Ні спору ні ўмалоту. *Гл. 958, 988*

**961. Ни дать ни взять** — Ні ўцяць ні ўзяць

**962. Ни дна тебе ни покрышки** — Трасца тваёй галаве = Каб табе на тым свеце дна не было = Каб табе заняло, каб табе зацяло = Каб табе зарвала ды залажыла = Каб ты яснага сонейка не ўбачыў (не аглядаў) = Каб табе белы свет зачыніўся = Каб цябе сонейка не грэла = Каб па табе не званілі = Каб табе тры пагібелі і адна трасца = Каб ты высах ды выпетраў = Каб цябе на сухой дарозе пабіла. *Гл. 618, 1110, 1315, 1323, 1328*

**963. Ни жарко ни холодно** — Ні свярбіць ні баліць = Ні ў пяце ні ў галаве = Ні цёпла ні халадна. *Гл. 1295, 1296, 1308*

**964. Ни жив ни мертв** — Без духу = Ні павешаны ні апушчаны = Ні жывы ні ўмерлы

**965. Ни за грош** *(пропасть)* — Ні за дзякуй = За гнілую рыбу = Як сабака (за сабаку) = Як рудая мыш (як рудыя мышы) = Як прусакі на марозе = Як рыба без вады = За гарэлы блін = За марны цень

**966. Ни за какие блага** — Ні за якія грошы = Ні за што на свеце. *Гл. 959*

**967. Ни за понюшку табаку** — Ні за панюх табакі = За няма што. *Гл. 700, 968, 985, 1162*

**968. Ни за что ни про что** — За няма што = Без дай прычыны

= Без дай рацы = Ці ёсць за што ці няма за што = Задарма. *Гл. 700, 967,.985, 1162*

**969. Ни кожи ни рожи** — Ні з стану ні з твару = Ні з гловы ні з мовы = Ні людзям паказаць, ні сабе паглядзець = Хоць аброць кладзі на морду

**970. Ни кола ни двора** — Ні хаты ні лапаты = Ні хаткі ні градкі = Ні вала ні кала = Ні плоту ні азяроду = Ні курчаці ні парасяці = Ні ў лесе ні ў небе = Ні цюк ні чым чагенька = Ні чым чаго (чагенька). *Гл. 956, 1310*

**971. Ни к селу ни к городу** — Ні да печы ні да рэчы = Ні да рады ні да звады = Ні ў тры ні ў два (згарадзіць) = Ні два ні паўтара = Ні з пушчы ні з поля. *Гл. 925*

**972. Ни мычит ни телится** — Ні трэ ні мне = Ні куе ні плешча. *Гл. 990*

**973. Ни на волос** — Ні каліва (ні каліўца) = Ні на макавае зярнятка = Ні на маку́лінку (маку́лінку) = Ні на волас. *Гл. 974, 975, 976, 977*

**974. Ни на грош** — Як у рэшаце вады = Як у жабрака грошай = Ні знаку = Ні крышкі (ні крышачкі). *Гл. 973, 975, 976, 977*

**975. Ни на капельку** — Ні крышачкі ні кропелькі = Ні на панюх табакі = Ні–ні, ні крышачкі. *Гл. 973, 974, 976, 977*

**976. Ни на малость** — Ні на сіні пазногаць (кепаць) = Ані звання = Ні на трошкі (трошачкі). *Гл. 973, 974, 975, 977*

**977. Ни на синь–порох** — Ні пораху ні сіняга. *Гл. 973, 974, 975, 976*

**978. Ни ответа ни привета** — Ні чуткі ні почуткі = І вочуткі не чуваць = І чуткі не чулі = І почуту няма = Ні адзыву ні адрыгу. *Гл. 984*

**979. Ни охнуть ни вздохнуть** — Ні дыхнуць ні зіпнуць = Хоць душу навязвай = Хоць ты сеўшы плач. *Гл. 916, 1302*

**980. Ни пуха ни пера** — Ляшчы ды акуні = Лаўцу з аўцу, братка = Дай жа, божа, нашаму лаўцу з аўцу = Дай, божа, каб было ўсё гожа

**981. Ни пуха ни пера — К черту** — Рыбна вам — Хоць не рыбна, затое юшна

**982. Ни рыба ни мясо** — Ні лой ні масла = Ні лой ні мяса, горай дурня Апанаса = Ні пражаны ні смажаны = Ні печаны ні вараны = Ні з мяса ні з пер'я = Ні ладу ні складу. *Гл. 954, 957, 1252*

**983. Ни свет ни заря** — Яшчэ й на дзень не займала = З цёмнага рана. *Гл. 1336*

**984. Ни слуху ни духу** — Ні слыху ні прослыху = Ні слыху ні дыху = І куры не шэпчуць = Ані вокам не відаць, ані слыхам не чуваць = Ні вока не бачыла, ні вуха не чула. *Гл. 978*

**985. Ни с того ни с сего** — Без нічога ніякага = Без нічога ніякага, без нічога нічагісенька = Ні села ні пала = Ні села ні пала, дай бабе (баба) сала = Ні села ні пала, давай, котка, сала = З дабраме́ру. *Гл. 700, 967, 968, 1162*

**986. Ни сюда ни туда** — Ні сюдою ні тудою = Ні сюды ні туды, мае мілыя дуды = Ні сюды Мікіта ні туды Мікіта

**987. Ничего себе** — Нішто сабе = Дарма сабе. *Гл. 951, 1294*

**988. Ни швец, ни жнец, ни в дуду игрец** — Ні шавец, ні кравец, ні каваль, ні стругаль (а проста гаварыльшчык) = Ні трэц, ні мнец, ні ў дуду ігрэц = Ні да танца ні да ражанца. *Гл. 958, 960*

**989. Ни шуму ни гаму** — Ні піску ні віску = Ні крыку ні выку

**990. Ни шьет ни порет** — Ні куе ні плешча = Ні пашые ні папора = Ні качка ні швачка. *Гл. 972*

**991. Носится как дурак с писаной торбой** — Носіцца як дурань з маляванай торбай (з мялам, са ступаю, з дзвярыма) = Носіцца як чорт з бубнам = Важдаецца як кот са здохлай мышшу = Носіцца як са скулянкаю = Дурань дзверы. *Гл. 992*

**992. Носится как курица с яйцом** — Цацкаецца як з велікодным яйкам = Носіцца (кешкаецца) як кот з салам (з селядцом) = Носіцца як курыца з першым яйкам. *Гл. 991*

**993. Обливаться (умываться) слезами** — Свет тапіць = Слязьмі (слёзкамі, слёзачкамі) заліваецца = Плакаць як бацьку (матку) пахаваўшы = Плакаць як матка па дзіцятку = Як бобам плакаць = Слёзы руча́цца. *Гл. 843, 1139, 1144*

**994. Обломать рога** — Рогі падпілаваць (спілаваць, урэзаць, падрэзаць) = Рогі прыцерці (уцяць, пазбіваць) = Рожкі зняць = Хвост уцяць

**995. Ободрать (обчистить) как липку** — Аблупіць (абабраць, абдзерці) як ліпку = Да жывога аблупіць = Ад пят да галавы абдзерці = Ні на семя ні на емя не пакінуць. *Гл. 1009, 1123*

**996. О двух головах** — Кароткія (кароткі) завароткі. *Гл. 939*

**997. Один на один** — Сам–насам. *Гл. 1168*

**998. Один–одинешенек** — Адзін душою = Адзін–аднюткі (адзін–аднюсенькі) = Адзін–адзінюткі (адзін–адзінюсенькі) = Адзін–адненькі = Адзін–адным = Адным–адзініца = Сам сабою = Сам сабе = Усяе талакі — свае дзве рукі. *Гл. 486, 787*

**999. Один черт** — Адна трасца = Адна халера = Адна вяроўка = Адно шчасце = Адзін дабрыдзень = Не Гірша, дык чорт іншы = Ці пражаны, ці смажаны — усё адно. *Гл. 575*

**1000. Одна лавочка** — Адна хеўра = З адной хеўры

**1001. Одним духом** — Чуй дух = Як слова мовіць (сказаць) = У адзін дух = Як слова вымавіць здалося. *Гл. 520, 541, 542*

**1002. Одним махом** — За адным скрыпам = За адным цягам = За адным свістам = За адным добрым днём = Адным скокам. *Гл. 554*

**1003. Одним миром мазаны** — Адзін чорт маляваў (намаляваў) = Адным грэбенем прычасаліся = Чэрці адной шэрсці. *Гл. 631, 737, 892, 1004*

**1004. Одного поля ягоды** — З аднаго гнязда птушкі = З аднаго балота чэрці = Адным возам па піва едуць = Каб павесіў, то адзін другога не пераважыць. *Гл. 631, 737, 892, 1003*

**1005. Оказать любезность** — Ласку зрабіць (учыніць) = Літасць учыніць

**1006. Окунуться (уйти) с головой** — Па вушы ўехаць

**1007. Олух царя небесного** — Асёл маляваны = Дурань малёваны = Непадсяваны дурань = Глумак глумаком. *Гл. 487, 615, 657, 658, 867*

**1008. Опустить руки** — Рукі злажыць = Крылы раскапусціць

**1009. Оставить без рубашки** — З сарочкі вывесці = Да ніткі абабраць = Ні вала ні кала не пакінуць = Ні хаты ні лапаты не пакінуць = Руб ды пярэпірка засталіся. *Гл. 995, 1123*

**1010. Оставить рожки да ножки** — Хвост і грыву пакінуць = Рогі ды ногі пакінуць

**1011. Остаться при своих интересах (козырях)** — На тым жа суку сесці = На той самай сесці = З такам пайсці (вярнуцца) = Што прынёс, з тым і пайшоў = Як прыйшлі, так і размінуліся = На тым самым месцы сесці. *Гл. 943*

**1012. Остер на язык** — З языком як з мячом = Язык як брытва = Ажно ў пяты коле = Спрытны на язык

**1013. Отбоя нет** — Хоць махалам махай = Не ababрацца. *Гл. 514, 654, 788, 819, 833, 945, 1050, 1301, 1304, 1305*

**1014. От всей души** — Ад шчырае душы. *Гл. 1029*

**1015. От горшка два вершка** — Кату па пяту = Вераб'ю па калена = Пчале па крылле = Сабаку па хвост = Раку па ву́сы = Ад зямлі не адрос = На раз аблізаць = Кавалер — кату па каўнер. *Гл. 479*

**1016. Отдать концы** — Ключыкі ў мора аддаць = Вечкам накрыцца = Век скончыць = Душа з цела выйшла. *Гл. 625, 704, 1024, 1088, 1096, 1115, 1214, 1249*

**1017. От зари до зари** — Ад відна да відна (ад віднога да віднога) = Ад зары да зары. *Гл. 1224*

**1018. Отколоть номер** — Коніка выкінуць. *Гл. 1021*

**1019. От корки до корки** — Ад дошчачкі да дошчачкі (ад дошкі да дошкі) = Ад вокладкі да вокладкі

**1020. Откуда ни возьмись** — Ні адтуль ні адсюль = Ні стуль ні ссюль = Адкуль ні возьмецца = Скуль ні ўзяўся. *Гл. 504, 773*

**1021. Отмочить штуку** — Штуку адпаліць (удзерці, укроіць, урэзаць, утнуць) = Штучку вытварыць. *Гл. 1018*

**1022. Отныне и до века** — Ад веку і да веку = Пакуль свет (стаіць). *Гл. 653*

**1023. Отправить в мир иной** — У царства нябеснае пусціць = На той свет загнаць (пусціць). *Гл. 598, 1146, 1163, 1180, 1217, 1273*

**1024. Отправиться на тот свет (к праотцам)** — На той свет падацца (пайсці) = Да бога пайсці = Да Абрагама на піва пасхаць (пайсці) = Авечкі пасвіць да Абрагама пайсці = Са свету збыцца (збавіцца) = З гэтага свету зыйсці. *Гл. 625, 704, 1016, 1088, 1096, 1115, 1214, 1249*

**1025. Отрезанный ломоть** — Адкрышаны бераг (край) = Адрэзаная луста (адкроеная скіба) = За чужым парогам

**1026. От случая к случаю** — Калі-нікалі = Сяды-тады (тады-сяды) = Гады́ ў рады́ = Мала калі = Іншым разам. *Гл. 570*

**1027. Отсохни у меня язык** — Каб мне язык адсох = Каб мне калом язык стаў (калі гэта няпраўда). *Гл. 507, 942, 1105, 1125, 1137, 1269*

**1028. Отставной козы барабанщик** — Пустога двара за́тычка = Да пустога хлява затычка = Ад пустой бочкі затычка = Ад пустой хаты затычка = Усадзіў (даў, зляпіў) бог душу ні ў пень ні ў грушу. *Гл. 1104*

**1029. От чистого сердца** — Ад шчырага сэрца. *Гл. 1014*

**1030. Очертя голову** — Як утрапёны = Як чорт падсмалены = Не гледзячы ні вока, ні бока = Як жару пад хвост насыпалі. *Гл. 546, 551, 604, 736, 781, 802, 1201, 1213, 1332*

**1031. Падать к ногам** — У ногі кідацца (падаць, каціцца, давацца) = Боты цалаваць = Па нагах поўзаць = Да рук кідацца. *Гл. 1312*

**1032. Палец о палец не ударить** — Саломку не пераламаць = За халодную ваду не ўзяцца = Ні за халодную ваду = Палец на палец не пакласці = Палкі не перакінуць = Рук не падлажыць

**1033. Пара пустяков** — Няма што = Як арэх раскусіць = Як хукнуць = Дробязь (драбяза). *Гл. 1117, 1136*

**1034. Парень хоть куда** — Да зайца стралец і да дзевак маладзец = І да волікаў пастух і да конікаў канюх = Радзіўся днём з агнём

**1035. Первое время** — Першыя часы. *Гл. 894*

**1036. Первый попавшийся (встречный)** — Першы-лепшы

**1037. Перебиваться с куска на кусок** — Хлеб ядзім траякі: чорны, белы і ніякі = Адзін дзень — мак, а другі — так = Ніколі малака з хлебам не пад'еў: увесну малако ёсць — хлеба няма, а ўвосень хлеба намалоціш — карова запусціцца. *Гл. 1038*

**1038. Перебиваться с хлеба на квас** — Тыдзень з алеем, тыдзень галеем = Дзень з алеем, а тры дні галеем = Часам з квасам, а парою з вадою = Калі праснак, а калі і зусім так = Адзін раз густа, другі раз пуста. *Гл. 1037*

**1039. Перегнуть палку** — Кій парагнуць = Меру пераб-раць. *Гл. 1284*

**1040. Переезжая сваха** — Пераезная сваццяя

**1041. Переливать из пустого в порожнее** — Зялёны мак калаціць = Бобу ў гаросе шукаць = З вадою біцца

**1042. Перемывать (мыть) косточки** — Языком абмываць = Языкамі абмывацца = Косці перабіраць = Шыпулі абіраць = Вянкі плесці = Ад пят да галоў абмаўляць. *Гл. 875, 1324, 1346*

**1043. Пересчитать ребра** — Рэбры перабраць (палічыць) = Ска́бы палічыць. *Гл. 629, 888, 890*

**1044. Песок сыплется** *(старый, дряхлый)* — Парахня сыплецца

**1045. Плевать в потолок** — Ленца важыць = Слухаць, як

свіння вухае = Зубы на сонцы грэць. *Гл. 490, 619, 838, 1106, 1212*

**1046. Плестись в хвосте** — Казу пасвіць = Цягнуцца (ззаду) як аплывýда (як жаба, як кíшка). *Гл. 732, 805*

**1047. Плыть по течению** — За вадой ісці (плысці) = Жыць, як набяжыць

**1048. Плясать под дудку** — Пад дудку скакаць = Па чужой дудцы скакаць. *Гл. 1289*

**1049. Поворачивать оглобли** — Пяткамі назад ехаць

**1050. По горло** — Як завязаць = Па (самую) завязку = Цераз горла валіцца = Процьма = Гібель. *Гл. 514, 654, 788, 819, 833, 945, 1013, 1301, 1304, 1305*

**1051. Погреть руки** — Лапкí пагрэць = Цапáдлы пагрэць. *Гл. 868*

**1052. Подбивать клинья** — Халя́ўкі смаліць = У залёты хадзіць = Улягáць. *Гл. 687, 1057*

**1053. Подбитый ветром** *(легкомысленный)* — І ад сонца і ад ветру = Завярні–галава = Шулды–булды, гарохавая каша = Фіёлкі ў галаве скачуць = Шал у галаве = Вецер у галаве

**1054. Подбитый ветром** *(об одежде)* — Ветрам шыты (падшыты)

**1055. Поджилки трясутся** — Лытка (лыткі) задрыжэла (закалацілася, затрэслася) = Сціхот бярэ = Дрыжыць як авечы хвост = Калоціцца (дрыжыць) як асінавы ліст = Дрыжыць як чорт пад крыжам. *Гл. 559, 664, 863*

**1056. Поджимать хвост** — Хвост падтульваць (падгінаць, схіляць, апускаць) = Хвост падцяць = Утуліўшы хвост схавацца пад мост = Схіліць (падцяць) хвост ды пад мост. *Гл. 1262*

**1057. Подкатывать салазки** — Стральцоў прыстаўляць = Залёты рабіць. *Гл. 687, 1052*

**1058. Подливать масла в огонь** — Саломы ў агонь падкладаць = Смалы ў агонь падліваць = Дроў у печ падкідваць = Пры́ску (жару) падсыпаць

**1059. Подложить свинью** — Вока запарушы́ць = Шостку падкінуць = Дудку падсудобіць

**1060. Под мухой** — Пад чаркай = З карчмаром прывітаўся = У чуб укінуў = Чмялі мае ў носе. *Гл. 568*

**1061. Поднимать на смех** — На смех выстаўляць = На смех (на смешкі) браць = Вочы высмейваць (выбіраць) = Вы́смешкі

(смехі, смешкі) строіць = Смешкі правіць = Смех рабіць. *Гл. 1192*

**1062. Под открытым небом** — Пад богаваю страхою = Пад голым небам

**1063. По душам** — Па шчырасці

**1064. Поймать с поличным** — На гарачым учынку злавіць = У хапку́ злавіць

**1065. Пойти насмарку** — У глум пайсці = На пшык з'ехаць. *Гл. 1066*

**1066. Пойти прахом** — З ветрам пайсці = З дымам пайсці. *Гл. 1065*

**1067. Показать, где раки зимуют** — Навучыць, дзе ўюны зімуюць = Даць перцу з імберцам. *Гл. 1068, 1111*

**1068. Показать кузькину мать** — Паказаць, дзе камар козы пасе = Паказаць, дзе горкі перац расце. *Гл. 1067, 1111*

**1069. Показывать пятки** — Пяты падмазваць = Маху даваць = У лозы даваць. *Гл. 622, 691*

**1070. По крайней мере** — Прынамсі. *Гл. 552, 908*

**1071. Положить живот** — Жыватом налажыць = На нажы скіпець (ускіпець) = Рукі сашчапіць. *Гл. 1199*

**1072. Получить кукиш с маслом** — Дулю з'есці = Трасцу (трасцы) схапіць

**1073. Получить по шее** — Па карку схапіць (дастаць) = Лу́пня зарабіць = На абаранкі зарабіць = Лазню дастаць = Дразда паскакаць (заскакаць)

**1074. По милости** — З ласкі = Праз ласку

**1075. Поминай как звали** — Ужо і па клёцках = Толькі і чулі = І следу не стала. *Гл. 724, 749*

**1076. Понимать как свинья в апельсинах** — Знацца як свіння на саладзінах (на перцы, на пастах, на бязмене) = Разумець як баран на біблії. *Гл. 955*

**1077. Попасть в опалу** — У няласку (у няміласць) трапіць = Ад ласкі аддаліцца. *Гл. 1085*

**1078. Попасть в переплет (в переделку)** — У нерат трапіць = У балота ўскочыць = Семдзесят сем агнёў пабачыць = Уліпнуць як муха ў саладуху (як цюцька ў гразь) = Ублытацца як муха ў павуцінне = Трапіць як мыш у пастку (як верабей у шапку, як прусак у саладуху) = Улезці як сучка ў збан (як шчупак у нерат, як муха ў смалу, як прусак ў рошчыну)

**1079. Попасть впросак** — У прычыну ўпасці = Пашыцца ў дурні = Сораму набрацца = Укляпацца

**1080. Пора и честь знать** — Трэба й меру ведаць = Хопіць піць, хопіць дурыць, ці не час нам пакаяцца, пайсці дамоў параіцца, што заўтра рабіць

**1081. Пороть (нести) ахинею (вздор, ерунду, галиматью)** — Грушы на вярбе вярзці = Смалянога дуба плесці = Мех з кайстраю плесці = Казу лабатую плесці = З дуба вецце збіраць (хапаць, плесці) = Кашалі з лапцямі (кашалі без дужак) плесці = Рабой кабыле сон расказваць = Пра жураўля на хвойцы расказваць. *Гл. 944*

**1082. Порочный круг** — Заганнае кола

**1083. После дождичка в четверг** — На тое лета, пасля абеда, гэтакаю парою = Заўтра ў тую пару, калі рак паляціць з вады ўгару. *Гл. 812, 814*

**1084. Потерять из виду** — З вока спусціць = З вачэй згубіць

**1085. Потерять расположение** — Ласку страціць. *Гл. 1077*

**1086. Потерять рассудок** — Ад розуму адысці = Розуму крануцца. *Гл. 488, 1216*

**1087. Потерять стыд (совесть)** — Сара́ма пусціцца = Сумленне страціць = У сабачую скуру ўшыцца (пусціцца) = Вочы заплюшчыўшы (рабіць). *Гл. 947*

**1088. Почить вечным сном** — На вечны спакой сысці = Навекі заснуць = Светам загавець. *Гл. 625, 704, 1016, 1024, 1096, 1115, 1214, 1249*

**1089. По щучьему велению** — На шчупакова казанне

**1090. Превзойти самого себя** — Самога сябе перасягнуць

**1091. Предать забвению** — На забыццё аддаць = У няпамяць пусціць = Адшкадаваць

**1092. Привести в порядок** — Да ладу давесці = У лад увесці = Папарадкаваць

**1093. Прижать (прищемить) хвост** — Крылы прыцяць = На хвост наступіць

**1094. Прийти к шапочному разбору** — У свіныя галасы прыйсці = Прыйсці (прыехаць) свечкі тушыць

**1095. Прийтись по нраву (по нутру)** — Даспадобы прыпасці (прыйсціся). *Гл. 842*

**1096. Приказать долго жить** — Душою загавець = Зла-

жыўшы рукі гасціны правіць = Пад абараце́нь паехаць. *Гл. 625, 704, 1016, 1024, 1088, 1115, 1214, 1249*

**1097. Прикусить язык** — Зубы сцяць = Губы стуліць = Язык зашыць = Язык на прывязі трымаць = Язык зубамі прышчаміць = Гаў дый зубы сцяў = Язык завязаўся

**1098. Принимать (близко) к сердцу** — Да душы вельмі браць (прымаць) = Да галавы браць. *Гл. 1099*

**1099. Принимать участие** — Браць удзел. *Гл. 1098*

**1100. При последнем издыхании** — Тры чвэрці да смерці (тры чвэрткі да смерткі) = Адну пятніцу жыць засталося = Пара да двара = Пара да Адама. *Гл. 512, 665, 904, 1207, 1239*

**1101. При случае** — Пры аказіі = Іншы раз

**1102. При царе Горохе** — За дзедам шведам = За каралём Гарохам = За каралём Гарохам, як людзей было троху = Пры цары Гарошку, як было людзей трошку = Пры цары Гароху, як людзей было троху і як былі драўляныя рублі і жалезныя капейкі = За царом кесаром, як свет гарэў, а саломаю тушылі. *Гл. 548*

**1103. Прицепился (пристал) как репей** — Прычапіўся як ваўчкі да кажуха (як клешч да сабачага хваста) = Прыліп як пчала да смалы (як смоўж, як кароста) = Прыкінуўся як баба з яешняю = Прывязаўся як назола якая. *Гл. 757*

**1104. Пришей кобыле хвост** — З пустога хлява пустое цяля = Пятае кола ў возе = Гарэлы блін. *Гл. 1028*

**1105. Провалиться мне сквозь землю** — Каб я праз зямлю праваліўся = Няхай я скрозьдонна правалюся = Каб я гэтак жыў (калі няпраўду кажу) = Каб я так дыхаў = Каб я так здаровы быў = Каб я так сонца аглядаў. *Гл. 507, 942, 1027, 1125, 1137, 1269*

**1106. Продавать глаза** — Ветрам гандляваць = Вераб'ям фігі даваць (дулі паказваць). *Гл. 490, 619, 838, 1045, 1212*

**1107. Прожужжать (протрубить) уши** — Вушы адзваніць

**1108. Проложить себе дорогу** — След (троп, дарогу) сабе працерабіць = Дарогу працерці

**1109. Пронзить взглядом** — Вокам працяць (пранізаць, пракалоць)

**1110. Пропади ты пропадом** — Каб на цябе згуба прыйшла = А няхай яно выпрахне (затане) = Прападзі ты за гарэлы блін = Прападай ты і з дабром сваім = Згінь–прападзі праз боскую моц = Каб ты душою загавеў = Каб цябе вецер развеяў = Бадай

ты свету не бачыў = Не ведаць табе свету белага. *Гл. 618, 962, 1315, 1323, 1328*

**1111. Прописать ижицу** *(проучить, наказать)* — Порткі скроіць = Гароху засыпаць (троху). *Гл. 1067, 1068*

**1112. Пропускать мимо ушей** — Між вушэй прапускаць = Паўз вуха пускаць (прапускаць)= Не зважаць. *Гл. 727*

**1113. Про себя** *(читать)* — Сам сабе

**1114. Протянуть лапки** *(о животных)* — Ногі выпруціць = Рогі скласці = Капытамі налажыць (навярнуць) = На пашу пайсці. *Гл. 698*

**1115. Протянуть ноги** — Ногі выпрастаць (выправіць) = Уздоўж лаўкі выпрастацца = Лыткі стуліць (злажыць) = Рукі выпрастаць (злажыць) = Зубы сцяць. *Гл. 625, 704, 1016, 1024, 1088, 1096, 1214, 1249*

**1116. Прошел огонь, воду и медные трубы** — Пабыў на кані і пад канём = Быў у кузні і ў млыне = Быў і ў коле і ў мяле = Быў на возе і пад возам = Быў на лаве і пад лаваю. *Гл. 531*

**1117. Проще пареной репы** — Як абаранак з'есці = Як хлеба з маслам з'есці = Як сабаку муху схапіць = Як лапаць сплесці. *Гл. 1033, 1136*

**1118. Птичьего молока только нет** — Толькі (адно) смажанага лёду нестае = Адно птушынага малака нестае

**1119. Пугало гороховое** *(смешно, некрасиво одетый)* — Хоць у каноплі стаўляй = Патароча салапатая

**1120. Пускать по ветру** — З ветрам пускаць = На сметнік выкідаць. *Гл. 501*

**1121. Пускать пыль в глаза** — Туману ў вочы пускаць = Жвір у вочы сыпаць = Чмуту ў вочы пускаць = Ману ў вочы пускаць. *Гл. 536, 587, 689, 706, 729*

**1122. Пустить на дым** *(сжечь)* — З дымам (з агнём, з ветрам) пусціць

**1123. Пустить по миру** — Да торбы давесці = У ста́рцы пусціць = Да пугі давесці = У лапці абуць. *Гл. 995, 1009*

**1124. Пуститься в пляс** — У скокі пайсці = У танок пайсці = У чаравік (у абцасы) даць

**1125. Пусть у меня рука отсохнет** — Каб мне рукі адсохлі = Рукі даю на адцён (калі гэта няпраўда) = Каб я сабе ногі паламаў (калі не папраўдзе кажу) = Каб мне колам ногі сталі. *Гл. 507, 942, 1027, 1105, 1137, 1269*

**1126. Путаться под ногами** — Пад нагами таўчыся = Пад рукі лезці = Смалою дакучаць. *Гл. 841, 862*

**1127. Пыльным мешком стукнутый** — Розум свінні з'елі = Лядашчык (лядашчік) пераляцеў (яму) = Кішкі ў галаве = Гірусакі ў галаве. *Гл. 701, 861, 919*

**1128. Пьян как сапожник** — Хапіў з дзежкі, што не бачыць сцежкі = Сягоння не адзін, з свіннёю = П'яны́ як дурны = П'яны як рамізнік (як шавец, як каморнік) = П'яны як гразь (як твань, як зямля) = Напіўся чырвоніцы як ягада. *Гл. 887, 896, 899*

**1129. Пятки не стоит** — Пяты не варт = Нагі не варты = Ме́зеніка (мезенага пальца) не варты = Гарэлага бліна не варты. *Гл. 567*

**1130. Работать спустя рукава** — Па канец рук працаваць = Рабіць як мокрае (мерзлае) гарыць = Шарварку адрабляць = Рабіць як не сваімі рукамі = Завіхацца як поп у талацэ = Вочы заплюшчыўшы (рабіць). *Гл. 1268, 1313*

**1131. Развесистая клюква** — Грушы на вярбе = Шышкі на вярбе = Смаляны (смаловы, смольны) дуб. *Гл. 480*

**1132. Развязывать кошель *(раскошеливаться)*** — Кішэнь (кішанёй) трэсці

**1133. Раз, два, взяли** — Трэцім разам, лепшым часам (трэцім разком, лепшым часком)

**1134. Разевать рот** — Рот разяўляць. *Гл. 1248*

**1135. Раз за разом** — Раз-пораз (раз-поразу)

**1136. Раз плюнуть** — Як слова мовіць (сказаць) = Як пе́рыну (як пе́рынку) асмаліць (спаліць) = Як арэх раскусіць = Што папяросу скурыць = Як нагу ў бот уставіць = Адной левай (адным левым) = Як волас перапаліць. *Гл. 1033, 1117*

**1137. Разрази меня гром** — Хай мяне пярун спаліць (заб'е) = Каб мяне чэрці парвалі = Каб мне пярун хату запаліў = Каб я свае гаспадаркі не аглядаў = Няхай я заўтрашняга дня не дачакаюся = Сонцам праведным клянуся. *Гл. 507, 942, 1027, 1105, 1125, 1269*

**1138. Раскидывать умом (мозгами)** — Розум па галаве пускаць = Галавою варушыць. *Гл. 1337*

**1139. Распускать нюни** — Ру́мы папускаць = Кі́зі (кі́зікі) распускаць (папускаць) = Сліну папускаць = Плакаць як дзіця = Вочы (вочкі) на кулак праціраць = Румзаць. *Гл. 843, 993, 1144*

**1140. Рассыпаться бисером (мелким бесом)** — Дробным

макам рассыпацца = Языком слаць = Словамі як пер'ем слаць. *Гл. 535, 613, 1234, 1287*

**1141. Расти как на дрожжах** — Расці на лес гледзячы = Расці як грыбы (як тапо́ля)

**1142. Расходился как холодный (горячий) самовар** — Раскалыхаўся як брацкі звон = Усхадзіўся (расхадзіўся, разбушаваўся, збурыўся) як маладое піва = Разышоўся як Ігналя на вечарынцы = Усхадзіўся (раздурэўся) як свіння на дождж

**1143. Расшибиться в лепешку** — На блін (на блінец) расплюскацца = Расплюскацца як праснак = На нітку выцягнуцца. *Гл. 840, 1267*

**1144. Реветь белугой** — Плакаць як бабёр = Плачам (ад плачу) заходзіцца = У голас кідацца = Галасам галасіць = Крыкам (ад крыку) заходзіцца. *Гл. 843, 993, 1139*

**1145. Резать правду** — Праўду ў вочы кідаць (церабіць)

**1146. Решить (лишить) жизни** — Жыццё адабраць = Ад жыцця пазбавіць = Цела з душою разлучыць. *Гл. 598, 1023, 1163, 1180, 1217, 1273*

**1147. Родимое пятно** *(пережиток)* — Радзімы знак = Радзімая зна́тамка = Чорны знак

**1148. Рубаха-парень** — Душа-хлопец = Хлопец зух. *Гл. 662*

**1149. Рука об руку** — Рука ў руку = Плячо ў плячо = Поруч

**1150. Руки в брюки** — Рукі спусціўшы = Абы дзень да вечара

**1151. Руки опускаются** — Рукі ападаюць = Аж рукі апалі = З рук валіцца

**1152. Рукой подать** — Рукою дастаць = Крок ступіць = Хоць (як) рукою дастаць = Непаводдаль = Паблізу. *Гл. 521*

**1153. Рыльце в пушку** — Смятанка на ву́сах = У памаўзлівага ката смятанка на вусах

**1154. Рыть себе яму (могилу)** — Вяроўку на сябе сука́ць = На сябе нож вастрыць = Пятлю шукаць. *Гл. 730, 839*

**1155. Сам не свой** — Сам не ў сабе = Як не свой. *Гл. 762*

**1156. Сам себе хозяин** — Сам пан = Сам сабе пан, сам сабе служка = Пан над самім сабою і над сваёй душою = Нікому ні ў шапку = Сам вялікі

**1157. Сам черт голову сломает** — Чорт ногі паломіць

**1158. Сам черт не разберет** — Чорт піва зварыў дый саладзін адрокся = Сам чорт піва рабіў і саладзіць адрокся. *Гл. 938*

**1159. Сапоги всмятку** — Снег саломаю тушыць = Кісялём бліны мазаны, на паркане сушацца = Грушы (грушкі) на вярбе. *Гл. 498, 1263*

**1160. Сбивать с толку** — З тропу збіваць = З поля зводзіць = З ладу (з толку) збіваць = Са штыху збіваць. *Гл. 864*

**1161. Сбиться с толку (с дороги)** — З ладу (з толку) збіцца = З тропу збіцца = З розуму збіцца

**1162. С бухты-барахты** — Проста з моста = Проста з моста, тарчма галавою = Не сабраўшы розуму. *Гл. 700, 967, 968, 985*

**1163. Свернуть башку** — Галаву скруціць (зламаць). *Гл. 598, 1023, 1146, 1180, 1217, 1273*

**1164. Свести концы с концами** — Канцы стачыць

**1165. Свести на нет** — На нішто звесці = На адзін канец звесці

**1166. Свести счеты** *(отомстить)* — Квітам паквітацца = Пірагі адпячы = Хлеб аддаць

**1167. Свести счеты** *(рассчитаться)* — Доўг паквіта́ць (сквітаць) = Парахава́цца

**1168. С глазу на глаз** — На чатыры вокі = Сам-насам. *Гл. 997*

**1169. С гулькин (воробьиный) нос** — Камарова жменя = З вераб'ёву душу = З камарову дзюбу (лытку) = З курачу галаву = З макавае зярнятка = Кату на адзін зуб = Вераб'ю раз дзеўбануць = Як вераб'ю дзеўбануць = Як камаровы насок. *Гл. 822*

**1170. Сделай милость (одолжение)** — Зрабі ласку = Будзь ласка́вы = Калі ласка

**1171. Седая старина** — Сівая мінуўшчына (даўніна) = Старасветчына

**1172. Седой (белый) как лунь** — Сівы як голуб (як лунь, як яблыня, як зайчык)

**1173. Семи пядей во лбу** — Чэрап густа варыць = Сем пядзяў лоб = Моцная галава = З двума віхрамі. *Гл. 1275*

**1174. Сердце замирает** — Душа млее

**1175. Сердце кровью обливается** — Крывёю сэрца абягае (зацякае) = Душа крывёю залятае = Душа чарнее. *Гл. 1176*

**1176. Сердце разрывается** — Сэрца рвецца = Сэрца краецца = Сэрца на штукі распадаецца (кроіцца). *Гл. 1175*

**1177. Сесть в калошу** — Макам сесці = У лужыну (у калюжыну) сесці

**1178. Сесть на шею** — На карак уссесці. *Гл. 539*

**1179. С жиру беситься** — Лой скуру пад'ядае = Бы́та бакі рве = Бы́та бакамі прэ = Ад сыці (з раскошы) шалець = Наеўся пуп круп, дык жарствы захацеў

**1180. Сжить со света** — Са свету прыбраць (збыць, звесці, перавесці, збавіць, сагнаць, збаёдаць). *Гл. 598, 1023, 1146, 1163, 1217, 1273*

**1181. С иголочки** *(новый, очень хорошо сшитый)* — Як з голкі зняты

**1182. Сидеть в печенках** — У знакі (у знак) дацца = У косці ўесціся = У печані ўесціся = Вантробы ад'есці (адсадзіць). *Гл. 1237*

**1183. Сидеть на корточках** — На кукішках (на почапках, на чупачках, на воспінках, на колечках) сядзець

**1184. Сидеть на пище святого Антония** — Святым духам жыць = На мякіне сядзець. *Гл. 810, 1342*

**1185. Сидеть на шее** — На карку сядзець = На ласка́вым хлебе быць

**1186. Сильные мира сего** — Уладныя людзі

**1187. Сильный пол** — Дужы пол

**1188. Сказать не к месту (невпопад)** — Выскачыць як піліп (як шляхціч, як певень) з канапель = Боўтнуць як жаба ў калодзежы = Не пажаваўшы (не перажаваўшы) пляснуць = Ляснуць як пярун у заце́рку = Пляснуць як пранікам па вадзе = Ляпнуць як з пастала = Лапцем па вадзе ляпнуць = Як чорт у лужыну плюнуў

**1189. Сказать по совести** — Шчыра кажучы

**1190. Сказка про белого бычка** — Казаная казка = Дакучная байка = Старая показка (байка) = Несканчоная песня

**1191. С какой стати** — З якой ласкі = З якой рацыі = Дзеля чаго. *Гл. 786, 883*

**1192. Скалить зубы** — Зубы сушыць = Зубы прадаваць = Скалікі строіць = Зубы галіць (лупіць) = Выскаляцца. *Гл. 1061*

**1193. Скатертью дорога** — З лёгкім ветрам

**1194. Скорчить рожу** — Міну састроіць = Крывую міну зрабіць = Гімору састроіць

**1195. Слаб на язык** — Языком меле як хвастом целе = Язык як мянташка = Язык ходзіць як мянташка па касе = Язык лёгкі = Малатарня пустая. *Гл. 645, 1345*

**1196. Слабый (прекрасный) пол** — Далікатны пол = Чароўны пол

**1197. Слава богу** — Дзякуй богу = Дзякаваць богу

**1198. С легким паром** — Лёгкі дух = Шаўковы венік, лёгкі дух = З добраю параю = Прыемнае пары

**1199. Сложить голову** — Галавою налажыць (накласці) = Галаву пакласці = Горла палажыць = З магілай ажаніцца = З зямелькаю пабрацца. *Гл. 1071*

**1200. Сломать себе шею** — Карак сабе скруціць (зламаць)

**1201. Сломя голову** — На скрут (на злом) галавы = На зламанне карку = Як з ланцуга сарваўшыся = Як ачумелы. *Гл. 546, 551, 604, 736, 781, 802, 1030, 1213, 1332*

**1202. Слухом не слыхал** — Чуць не чуў = Чуць не чуў і бачыць не бачыў

**1203. Смести (стереть) с лица земли** — Са свету згладзіць (прыбраць) = У нівéч абярнуць = З мапы (з карты) выкасаваць = З зямлёю знодаць = Дашчэнту знішчыць. *Гл. 1235*

**1204. Смех да и только** — Смех дый годзе = Смеху варта = Пацеха дый годзе = Пацеха з меха

**1205. Смешинка в рот попала** — Подмазку з'еў = Пусты падпаў

**1206. Смотреть бирюком** — Сугнеем глядзець = Рубам паглядаць = Глядзець як сыч = Пазіраць з-пад лоба як воўк = Ваўкавата глядзець

**1207. Смотреть в могилу (в гроб)** — На паповы сані глядзець = Хацець да бога = Дамоў збірацца (пара) = У зямельку прасіцца = Дýды ў мех складаць (збіраць). *Гл. 512, 665, 904, 1100, 1239*

**1208. Смотреть в оба** — На ўсе вочы глядзець = Пільна глядзець. *Гл. 605, 941*

**1209. Смотреть как баран на новые ворота** — Глядзець як баран у біблію = Глядзець як гусь на бліскавіцу = Пазіраць як дурны баран на ваду = Вырачыць вочы як вол (як бык) на новае шула = Вочы вылупіць як дурны баран

**1210. Снимать пенки** — Вяршкі збіраць (злізваць)

**1211. Снять стружку** — Прачуха́нкі (прачуха́нца) даць = Пы́тлю даць = Навуку (навучку) даць. *Гл. 626, 630, 695*

**1212. Собак гонять** — Сабак сцерагчы = Сабак дражніць = Сабакі біць. *Гл. 490, 619, 838, 1045, 1106*

**1213. Со всех ног** — На ўсю нагу = Адно пяткі бліскацяць = Аж пыл куры́ць = Аж зямля закурэла = Аж пяты забрашчалі (заблішчэлі) = Як ганчак = Як заяц. *Гл. 546, 551, 604, 736, 781, 802, 1030, 1201, 1332*

**1214. Сойти в могилу** — З зямелькаю пабрацца = З пясецкім (з магілай) ажаніцца = З сырой зямлёю шлюб узяць = З зямлёю ды з магілаю ажаніцца. *Гл. 625, 704, 1016, 1024, 1088, 1096, 1115, 1249*

**1215. Сойти на нет** — На нішто з'ехаць = На адзін канец (на адзін бок) з'ехаць

**1216. Сойти (спятить) с ума** — З глузду (з глуздоў) з'ехаць (злу́знуцца, выйсці) = З розуму спа́сціся (выбіцца) = Кашулі (сарочкі) свае забая́цца = З ляда́шчыкам спазнацца = Ускруціцца = Здурнець. *Гл. 488, 1086*

**1217. Сорвать голову** — Галаву (з плячэй) знесці = Канцы зрабіць. *Гл. 598, 1023, 1146, 1163, 1180, 1273*

**1218. Сорви-голова** — Завярні-галава = Зламі-галава = Кату хвост завяжа = З касцёла галку здыме. *Гл. 907*

**1219. Сошло с рук** — Дарма прайшло = З вадою збегла = Так мінулася. *Гл. 606*

**1220. Спасения (спасу) нет** — Няма рады = Няма ратунку (паратунку) = Рады (радачкі) не даць

**1221. Спасть с тела** — У целе ўпасці = На адзін канец (на адзін бок) з'ехаць = Бокі ўвабраць = У смык вырабіцца = Вуды падцягнуць = Перапасціся як мядзведжая лапа = Стаць як матавіла = Зрабіцца як хорт (як скаба́рдзіна) = На ірху́ вырабіцца = Злядашчаць. *Гл. 603*

**1222. Спустить шкуру** — У скуру зжарыць = Сем шкур здзерці (зняць, сагнаць) = На горкі яблык збіць = У кіслы яблык сцерці = На порхаўку збіць = Жыўцу дастаць = На штукі пасекчы. *Гл. 584, 624, 694*

**1223. Сравнил божий дар с яичницей** — Прыраўняў свінню к каню = Прыраўняў казулю да зязюлі = Прыраўнавалі бота да лапця

**1224. С рассвета до темна** — Ад світання да змяркання = Ад рання да змяркання. *Гл. 1017*

**1225. Ставить во главу угла** — У аснову класці (браць)

**1226. Ставить в один ряд** — Нароўні ставіць = У адзін шэраг стаўляць (станаўляць). *Гл. 1228, 1241*

**1227. Ставить вопрос ребром** — Рубам пытанне ставіць

**1228. Ставить на одну доску** — На адну роўніцу ставіць (станавіць). *Гл. 1226, 1241*

**1229. Ставить на попа** — Старчаком (старчма) станавіць (ставіць)

**1230. Старая карга** — Порхаўка старая = Старога лесу качарга = Корга (коржа) старая

**1231. Старая песня** — Старая показка (байка) = Спяваная песня

**1232. Старый хрыч** — Псюк стары = Ёлупень стары = Мухамор стары = Корч стары

**1233. Стать притчей во языцех** — Пагалоскай стаць = На языках панесціся (панесці) = Пусцілі пагалоску на ўсю вёску = Погаласка (памоўка) пайшла = На языкі ўзялі

**1234. Стелиться под ноги (под сапог)** — Лістам слацца (слаць) = Лістам падаць = Бярэзінкаю слацца = Языком бы лістам сцеле. *Гл. 535, 613, 1140, 1287*

**1235. Стереть в (мелкий) порошок** — У кулеш сцерці = У кіслы яблык сцерці = З зямлёю змяшаць = На чорную зямлю скапытаваць. *Гл. 1203*

**1236. Столкнуть лбами** — У рожкі звесці = Хахлы звязаць = За чубы звязаць = Вузлік (вузлікі) завязаць

**1237. Стоять костью в горле** — Вомігаю сядзець у горле = Калом у грудзях стаяць = Ражном (калом) у горле стаяць = Хрэнам у горле стаяць (сядзець). *Гл. 1182*

**1238. Стоять над душой** — Над каркам вісець = Крукам стаяць

**1239. Стоять на краю могилы** — Краем магілы хадзіць = Зямлёю пахнуць = Нагою над магілаю стаяць = Век скончыўся = Капцы прыйшлі (капец прыйшоў). *Гл. 512, 665, 904, 1100, 1207*

**1240. Стреляный воробей** — Біты воўк = Стары кот

**1241. Стричь под одну гребенку** — Пад адзін капыл падганяць = Пад адзін грэбень раўнаваць (часаць). *Гл. 1226, 1228*

**1242. Строить на песке** — На лёдзе хату будаваць

**1243. Судить да рядить** — Рады радзіць = Рады (раду) браць

**1244. Сукин сын** — Гад печаны (смалены) = Чорт лазаты = Чортам падшыты = Няўлюддзе паганае = Воўчая натура = Вылупак бяздушны = Косць паганая = Перагрызак сабачы = Вужава кроў = Прабыдла нейкае = Выжла праклятая. *Гл. 751, 1320*

**1245. Сума переметная** — Павей–вецер = Пярэварацень

**1246. Сунуться со своим носом** — Нос уваткнуць (уторкнуць, увапхнуць, усадзіць) = З цікавым носам лезці = Свае тры грошы ўваткнуць = Тры грошыкі прыткнуць = З языком выткнуцца (улезці)

**1247. Счастливого пути** — У добры час = Гладкае вам дарожкі = Пухам дарожка = Калясом дарога = Сакалінага лёту = Каб вас ліха ў дарозе мінавала = Асвяці божа = Шчасць божа па дарозе

**1248. Считать ворон** *(быть рассеянным, ротозейничать)* — Варон (галіц) страляць (лавіць) = Жураўлёў страляць = Мухі лавіць. *Гл. 1134*

**1249. Сыграть в ящик** — На вяроўках загуляць = Вечкам накрыцца = Душою рыгнуць. *Гл. 625, 704, 1016, 1024, 1088, 1096, 1115, 1214*

**1250. Таким образом** — Такім чынам (спосабам, робам) = Такім парадкам = Такім разам = Гэтак

**1251. Такой–сякой** — Такі і гэтакі (такі ды гэтакі)

**1252. Так себе** *(сносно)* — Пасаліўшы, можна есці = Прысмаліўшы, прыхваліўшы, можна й з'есці = Ні тое ні сёе, ні ў смак ні ў знак = Ні тое ні сёе, як гарэлы блін. *Гл. 954, 957, 982*

**1253. Так сказать** — Так бы мовіць = Маўляў

**1254. Типун тебе на язык** — Цыпун (ціпун) табе на язык = Скулу табе на язык = Стрык табе на язык = Кірдзюк табе на язык = Ліхое слова пракаўтні = Твае кляты ды табе ў пяты = На асінавы кол брашы

**1255. Тихий ангел пролетел** — Ціхан нарадзіўся = Хоць мак сей = Як мак засеялі

**1256. То–то и оно (в том–то и дело)** — То ж бо то

**1257. Точить лясы (балясы)** — Блынды правіць = Андрыдулы несці = Анцыбуры несці. *Гл. 1259, 1261*

**1258. Точь–в–точь** — Якраз як = Як лёду. *Гл. 573, 1264*

**1259. Травить баланду** — Ваду малоць = Пустое малоць = Лады разводзіць = Рот халадзіць. *Гл. 1257, 1261*

**1260. Трепать нервы** — Нервы тузаць = Вантробы ад'ядаць (пераядаць) = Вантробы выцягваць (даставаць) = Духі даставаць

**1261. Трепать (чесать) языком** — Языком мянціць (малоць, пляскаць) = Язык аб зубы біць = Язык каля зубоў біць = Языком лапці плесці = У званы біць. *Гл. 1257, 1259*

**1262. Труса праздновать** — У кусты пазіраць (глядзець) = Зубамі званіць. *Гл. 1056*

**1263. Турусы на колесах** — Журавель на хвойцы = Мох с балота = Лухта непадсяваная = Смаляны (смаловы, смольны) дуб. *Гл. 498, 1159*

**1264. Тютелька в тютельку** — Цот у цот = Як тут і было = Якраз. *Гл. 573, 1258*

**1265. Тянуть (выматывать) ду́шу** — Духі вымаць = Сэрца ад'ядаць (кроіць, пераядаць) = Душу́ напякаць = Душу́ (душачку) атруціць (ад'ядаць) = Смактаць як вуж = Сэрца як нажом (без нажа) кроіць. *Гл. 596, 670*

**1266. Тянуть жилы** — Жылле выцягваць = Жылы даставаць. *Гл. 600, 655*

**1267. Тянуться из последнего** — Жылы напінаць (выпінаць, пяць). *Гл. 840, 1143*

**1268. Тяп да ляп (тяп–ляп)** — Абы–як = Сяк–так, абы далей = Абы з рук (збыць) = Стук, грук, абы з рук = Чапаніна–лапаніна = Бокам–скокам (скокам–бокам). *Гл. 1130, 1313*

**1269. Убей меня господь** — Каб я ўдоўж лаўкі выпрастаўся = Каб мне бог не памог = Каб я свету не бачыў = Каб я сонца не бачыў = Каб я да заўтра не дажыў = Няхай у мяне духу не будзе = Каб я з духам быў (калі гэта праўда). *Гл. 507, 942, 1027, 1105, 1125, 1137*

**1270. Ударить лицом в грязь** — У гразь ляснуцца (пляснуцца) = Плясь у гразь

**1271. Удариться (войти) в амбицию** — У хамут даць = У халяву ўступіць = Клямка запа́ла = Свой гонар паказаць

**1272. Уличить во лжи** — На хлусні злавіць = Хлусню выкрыць (высвечыць)

**1273. Уложить в гроб** — У магілу (у зямлю) ўвагнаць =

У труну загнаць = У чорную зямлю ўлажыць = На драўнянага (на цуднага) каня ўссадзіць. *Гл. 598, 1023, 1146, 1163, 1180, 1217*

**1274. Ума не приложить** — Ладу не дабраць = Тропу не ўхапіць (не ўзяць) = Глузду не прыставіць = Рады (сабе) не даць = На цям не йдзе (не прыходзе). *Гл. 1277*

**1275. Ума палата** — Моцная галава = Мазгі густыя = Не ўсе ўкупімся (змесцімся) ў той розум = Розуму багата. *Гл. 1173*

**1276. Умирать со смеху** — З рогату канчацца = Ад смеху заходзіцца (лопаць) = Са смеху кіснуць (лопаць, здыхаць). *Гл. 674, 807*

**1277. Уму непостижимо** — Розумам не дастаць (не сягнуць) = Розум не йме = У розум не ўзяць. *Гл. 1274*

**1278. Упаси (избави) бог** — Барані божа = Хавай божа = Хай бог ратуе = Няхай бог крые. *Гл. 922, 937*

**1279. Упасть как подкошенный** — Пакаціцца (паваліцца, кульнуцца) як сноп = Кулём легчы

**1280. Уплетать (уписывать) за обе щеки** — На два бакі есці = На поўную губу (поўнаю губой) есці = На поўны жывот (на поўны рот) есці = Есці як не ў сябе = За абедзве шчокі перці = Як у церніцу церці = Па поўніцы есці = Малоць як у прорву = Мяць як мя́ліца. *Гл. 715*

**1281. У черта блины поест** — У чорта малітву дастане = І бога ашукае, і ў чорта адхопіць. *Гл. 882*

**1282. У черта на куличках** — У віру́ на калу́ = У віра́х на юра́х = У чортавых зубах = Проці ліха на ўзгорку, дзе пень на калоду брэша = Проці ліха на ўзгорачку (шукай ды трымай) = У лясу на верасу. *Гл. 714, 829*

**1283. Ушки на макушке** — Слых на семярых = Вушы наставіць (паставіць, натапырыць)

**1284. Хватить (перехватить) через край** — Цераз (праз) меру ўзяць = Меру перабраць. *Гл. 1039*

**1285. Хлеб насущный** — Хлеб надзённы

**1286. Хлопать глазами** — Вачыма лыпаць = Лыпаць вачыма як баран (як цюцька)

**1287. Ходить на задних лапках (на цыпочках)** — На цырлах хадзіць (клыпаць) = На дыбачках хадзіць = На пальчыках хадзіць = Па адной маснічыне (дошчачцы) хадзіць. *Гл. 535, 613, 1140, 1234*

**1288. Ходить по миру** — Па людзях хадзіць = З торбаю хадзіць = Жабраваць. *Гл. 1290*

**1289. Ходить по струнке** — Па дроце хадзіць = Па адной дошчачцы скакаць. *Гл. 1048*

**1290. Ходить с протянутой рукой** — З прыполам хадзіць = На хлеб спяваць = З рук глядзець = Сядзець на бруку, паглядаць у ру́ку. *Гл. 1288*

**1291. Ходить ходуном** — Ходырам хадзіць

**1292. Хождение по мукам** — Блуканне па пакутах

**1293. Хорош гусь** — Дабёр бабёр = Добрая цаца = Добрая вуда

**1294. Хорошенькое дело** — Добры гандаль. *Гл. 951, 987*

**1295. Хоть бы хны** — І ні лыс = Хоць бы дзічкі = Ні ў вуху вада. *Гл. 963, 1296, 1308*

**1296. Хоть бы что** — І не шум баравы = Хоць бы цвік = Хоць мак сей. *Гл. 963, 1295, 1308*

**1297. Хоть в омут головой** — Хоць ты сеўшы плач = Хоць кулачок пад бачок = Хоць тапіся = Хоць у пельку (у вір) галавою =Хоць у палонку. *Гл. 1299*

**1298. Хоть глаз выколи** — Хоць у хованкі гуляй = Хоць пальцам у вока = Хоць на воўка ўзлезь (лезь, ўссядзь) = Хоць паўзі = Цёмна як у коміне (як у труне, як у магіле) = Каб хто вытнуў, то не ведаў бы з кім сварыцца

**1299. Хоть караул кричи** — Хоць гвалт крычы = Хоць крыкні "ратуй" = Хоць крычы гвалту і плач. *Гл. 1297*

**1300. Хоть кол на голове теши** — Хоць у лоб страляй = Хоць лапатку адпары = Хоць (перад ім) дробным лістам рассыпся = Затупяніўся як бык = Упёрся як чорт у грэблю = Заціяўся як камень = Упіраецца рагамі і нагамі = Як певень наравісты = Б'е як дурны ў дзверы = Ні блізка, а не то туды = Клец баранавы. *Гл. 785*

**1301. Хоть косой коси** — Хоць касу закладай = Хоць граблямі заграбай = Хоць касі = Як ігліцы (шыльніку, шыголля) ў бары = Як насеяна = Як насаджана. *Гл. 514, 654, 788, 819, 833, 945, 1013, 1050, 1304, 1305*

**1302. Хоть ложись да помирай** — Хоць жывому ў зямлю сырую лезь = Хоць на сценку лезь = Гатоў патануць (памерці, парвацца). *Гл. 916, 979*

**1303. Хоть лопни** — Хоць у печ крычы = Хоць покні = Хоць ты што = Ці плач, ці скач, нічога не паможа. *Гл. 1306*

**1304. Хоть отбавляй** — Хоць дарма аддавай = Хоць каўшом бяры = Аж занадта = Аж цераз вушы = Праз вушы лезе. *Гл 514, 654, 788, 819, 833, 945, 1013, 1050, 1301, 1305*

**1305. Хоть пруд пруди** — Хоць гаць гаці = Возам не павяжеш = Як расы = Як камення = Як дроў у лесе = Як гразі. *Гл. 514, 654, 788, 819, 833, 945, 1013, 1050, 1301, 1304*

**1306. Хоть разорвись (расшибись)** – Хоць парвіся = Хоць выпрастайся = Хоць ты канай = Хоць трэсні й прападзі. *Гл. 1303*

**1307. Хоть топор вешай** — Быццам каты ў хаце начавалі = Хоць сякеру завесь

**1308. Хоть трава не расти** — Няхай хоць воўк траву есць = Няхай хоць выюць чэрці = Хай будзе, што будзе. *Гл. 963, 1295, 1296*

**1309. Хоть умри** — Хоць ты лунь = Хоць радзі = Хоць з калена вылamі = Хоць ты з пальца вылamі = Хоць ялаўка, а цяліся

**1310. Хоть шаром покати** — Ні ўзяць ні ўцяць = Хоць запалі = Як вымецена = Рук няма за што зацяць = Няма за што рукой ухапіцца (рукі зачапіць) = Няма чаго нават на трэску ўзяць = Нічога нічагусечка (нічагуценька) = Як жаба цыцкі дасць. *Гл. 956, 970*

**1311. Хочешь не хочешь** — Рады не рады, а мусіш = Хочучы–няхочучы = Хоцькі–няхоцькі = Хочаш не хочаш, а ногі намочыш = Гніся не гніся (ды ў аглоблі станавіся). *Гл. 783*

**1312. Христом–богом просить (молить)** — Напрамілы бог прасіць = Жывым богам прасіць = Просьма (просам) прасіць. *Гл. 1031*

**1313. Через пень–колоду** — Абы дзень да вечара = Так–сяк накасяк, абы не па–людску = Ці сяк, ці так, абы не так, як трэба. *Гл. 1130, 1268*

**1314. Через час по (чайной) ложке** — Па кропельцы цыркаць = Па крышцы (па крышачцы) цыркаць = Цыркаць пакрысе

**1315. Черт бы тебя побрал** — Ліха на цябе = Бадай цябе ліха (ліхоцце) ўзяло = Каб цябе чорт узяў (мара ўзяла) = Каб цябе зямля не насіла = Каб цябе немач забрала (узяла, ела) = Каб цябе бура якая панесла = Каб цябе віхор панёс = Каб цябе смуткі ўзялі. *Гл. 618, 962, 1110, 1323, 1328*

**1316. Черт дернул** — Чорт падаткнуў. *Гл. 1317*

**1317. Черт дернул за язык** — За язык пацягнула = Нячысцікі за язык пацягнулі. *Гл. 1316*

**1318. Черт (бес, леший, пес) его знает** — А ліха (пярун, агонь, халера, немач, упадак) яго ведае = А смуткі (злыдні, кадукі, віры) яго ведаюць. *Гл. 493*

**1319. Чертова дюжина** — Чортаў тузін

**1320. Чертова кукла (перечница)** — Рапуха паганая = Жаба апоўзлая (разлезлая, аблезлая, віславухая, карэлая) = Брыда (пачвара) нейкая = Кацéра нягодная. *Гл. 751, 1244*

**1321. Черт (бес) попутал** — Нячысцік падкаснуўся = Чорт панёс на дзіравы мост

**1322. Черт принес** — Нячысцік прыгнаў = Чорт прыгнаў = Чортава хвіля прыгнала = Хвароба прынесла. *Гл. 953*

**1323. Черт тебя дери** — Каб з цябе чэрці вяроўкі вілі = Каб цябе чэрці паілі-кармілі = Каб табе д'яблы скуру папісалі = Каб на цябе чорны гад напаў = Каб тваю душу чэрці па пекле пхалі = Каб з цябе скуру лупілі. *Гл. 618, 962, 1110, 1315, 1328*

**1324. Чесать языки (языками)** — Языкамі абмывацца = Зводы зводзіць = Леды вадзіць. *Гл. 875, 1042, 1346*

**1325. Честной народ** — Людзі добрыя

**1326. Честь честью** — Як мае быць = Як належыць. *Гл. 1327*

**1327. Чин чином (чинарем)** — Як след = Як мае быць = Не абы-як. *Гл. 1326*

**1328. Чтоб тебе пусто было** — Каб ты запуставаў = Каб на цябе ўпадак = А каб ты жыцця (жытла) не ведаў = Каб табе ніхто рады не даў = Каб ты долі не знаў = Каб твая хата пуставала (запусцела) = Каб тваё селішча крапівою зарасло = Каб цябе ліхая гадзіна (ліхая доля) не мінула = А бадай цябе ліха = Каб табе дабра не было. *Гл. 618, 962, 1110, 1315, 1323*

**1329. Чтоб тебя приподняло да шлепнуло** — Каб табе добра было = А каб цябе ды бадай цябе = А каб табе пяткі назад завярнула = А каб ты сонца ўначы не бачыў = Каб цябе ў чыстым полі дзверы сціснулі = Каб ты на беразе ўтапіўся = Каб ты на вадзе спёкся. *Гл. 686*

**1330. Чтоб тебя разорвало** — Каб цябе парвала = Няхай ты спрахні = Каб цябе духі выгнала = Каб з цябе вантробы вытрыбушыла = Каб табе вантробы вырвала = Каб твае трыбухі на платах сушыліся = Каб цябе звіло ды скруціла = Каб цябе трасца трэсла = Каб табе язык парахнёй у горла сыпаўся = Каб табе вочы (слепакі, бельмы) павылазілі = Каб цябе ўзяло ды не адпусціла = Каб цябе ў сук сагнула. *Гл. 1331*

**1331. Чтоб ты лопнул** — Хай ты трэсні = Трасца табе ў бок = Каб ты скруціўся = Каб на цябе немач якая = Каб цябе немарач узяла = Дух з цябе вон, пара стаўбом = Каб ты вычарнеў = Бадай ты галаву скруціў = Каб табе духі заняло = Каб ты выпруціўся (спруцянеў) = Каб ты цэлы век стагнаў. *Гл. 1330*

**1332. Что есть мочи** *(бежать)* — Колькі змогі = Што моцы = Як сілы = Як моцы стае = Як маеш (меў) моцы. *Гл. 546, 551, 604, 736, 781, 802, 1030, 1201, 1213*

**1333. Что есть мочи** *(кричать)* — На ўсю моц = На ўсе (на поўныя) грудзі = Як сілы = Як моцы стае = Як моц–сіла = Як маеш (меў) моцы. *Гл. 549, 550, 793, 825*

**1334. Что за беда** — Толькі й бяды = Толькі тае бяды = Тае бяды. *Гл. 915*

**1335. Чудо из чудес** — Над цудам цуд, над дзівам дзіва

**1336. Чуть свет** — На досвітку = На золку = Досвіткам. *Гл. 983*

**1337. Шевелить мозгами** — Галавою варушыць (круціць) = Глуздом рухаць (варушыць, круціць) = Мазгамі круціць. *Гл. 1138*

**1338. Шито–крыто** — Ціха й свята = Ціха й ціхенька

**1339. Шут гороховый** — Дурань малёваны = Кеп, дурань, блазен — тры штукі разам

**1340. Шутки в сторону** — Смешкі (жарты, жарцікі) на бок = Годзе жартаваць = Досыць (даволі) жартаў = Без жартаў

**1341. Шутки плохи** — Жарты (жарцікі) кароткія = Да трох не гавары

**1342. Щелкать зубами** — Зубы грэць. *Гл. 810, 1184*

**1343. Яблоко раздора** — Яблык разладу

**1344. Яблоку негде упасть** — Носа не ўбіць = Няма куды пеўню дзюбнуць = Цесна як у бочцы (як у труне) = Сцяна сцяною = Цэлая вайна = Як завязаць. *Гл. 728*

**1345. Язык без костей** — Язык як калаўротак (як ляшчотка) = Язык па–за вушшу ходзіць = Язык круціцца як памяло (як хвост у сабакі) = Пытлюе як млын = Лупіць языком як церніцай. *Гл. 645, 1195*

**1346. Языки точить** — Рот паласкаць = Язык аб зубы біць = Лыкі драць = Языком аперазацца = Языкамі зачапіцца. *Гл. 875, 1042, 1324*

**1347. Язык плохо подвешен** — Языка няма = Без клею меле = Язык у лапцёх

**1348. Язык хорошо подвешен** — Язык гладка ходзіць = Гаворыць як макам сыпле = Меле як гарох сыпле = Язык як у адваката

**1349. Ясное дело** — Вядомая рэч = Зразумелая рэч

* * *

**Лучше один раз (своими глазами) увидеть, чем сто раз услышать** — Вер не сказу, а паказу

**Остатки сладки** — Як мала стала, дык засмакавала = Апошні праснак — са́ма смак = Мала мелі — смачна елі

**Чему быть (бывать), того не миновать** — Што будзе суджана, тое не будзе адгуджана

**Под горячую руку** — На гарачы зуб = Пад гарачы язык

**С полуслова** — З аднаго ківа

**Убивать время** — Дні церці = Дзянькі зводзіць

**Часы пик** — Са́ма розрух

## *Беларускія адпаведнікі, скарыстаныя ў слоўніку**



* Спіс беларускіх адпаведнікаў дае чытачу магчымасць у пэўнай ступені карыстацца слоўнікам як адваротным. Лічбы пры іх абазначаюць не старонку, а нумар слоўнікавага артыкула.

8. Зак. 479

9. Зак. 479

10. Зак. 479

11. Зак. 479

# *Асноўная літаратура*


Беларуская фразеалогія, лексікалогія: Зб. арт. / Пад рэд. *Ф. Янкоўскага.* Мн.: Мінскі пед. ін–т, 1980. 125 с.

Белорусско–русский словарь / Под ред. *К. К. Крапивы (Атраховича).* М.: Гос. изд–во иностр. и нац. слов., 1962. 1048 с.

Выслоўі. Мн.: Навука і тэхніка, 1979. 519 с. (Беларус. нар. творчасць).

*Коваль В. И.* Фразеология // Белорусско–русский паралексический словарь–справочник / Под ред. *А. Е. Михневича.* Мн.: Нар. асвета, 1985. С. 353—361.

*Ластоўскі В.* Падручны расійска–крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна: Міністэрства беларускіх спраў у Літве, 1924. XII, 832 с.

*Лепешаў І. Я.* Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы. Мн.: Навука і тэхніка, 1984. 264 с.

*Ліцьвінка В. Д., Царанкоў Л. А.* Слова міма не ляціць: Беларус. нар. прыказкі і прымаўкі. Мн.: Універсітэцкае, 1985. 149 с.

*Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М.* Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Мн.: Выд–ва БДУ, 1972. 320 с.

*Насовіч І. І.* Слоўнік беларускай мовы. Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1983. 792 с. (Факс. выданне).

*Някрашэвіч С. М., Байкоў М. Я.* Расійска–беларускі слоўнік. Мн.: Беларус. дзярж. выд–ва, 1928. 728 с.

Прыказкі і прымаўкі: У 2–х кн. Мн.: Навука і тэхніка, 1976. Кн. 1. 559 с.; Кн. 2. 620 с. (Беларус. нар. творчасць).

Слова і фразеалагізм у кантэксце: Зб. арт. / Пад рэд. *Ф. Янкоўскага, М. Кавалёвай.* Мн.: Мінскі пед. ін–т, 1983. 118 с.

Слова, фразеалагізм і кантэкст: Зб. арт. / Пад рэд. *Ф. Янкоўскага.* Мн.: Мінскі пед. ін–т, 1979. 106 с.

Слова, фразеалагізм у кантэксце: Зб. арт. / Пад рэд. *Ф. Янкоўскага, М. Кавалёвай.* Мн.: Мінскі пед. ін–т, 1982. 104 с.

Слоўнік беларускіх гаворак паўночна–заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5–ці т. / Уклад. *Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.* Мн.: Навука і тэхніка, 1979. Т. 1. 512 с.; 1980. Т. 2. 728 с.; 1982. Т. 3. 536 с.; 1984. Т. 4. 616 с.; 1986. Т. 5. 563 с.

*Станкевіч Я.* Беларуска–расійскі (Вялікалітоўска–расійскі) слоўнік. N. Y.: Lew Sapieha Greatlitvan (Byelorussian) Foundation, Б. г. 1305 с.

*Станкевіч Я.* (пры ўчасьці *Ант. Адамовіча*). Маленькі маскоўска–беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны і прыказкаў

ды прывітаньні, зычэньні і інш. Мн.: Выд–ва падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску, 1944. 151 с.

*Сцяшковіч Т. Ф.* Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн.: Навука і тэхніка, 1983. 671 с.

Тураўскі слоўнік: У 5–ці т. / Уклад. *А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін і інш.* Мн.: Навука і тэхніка, 1982. Т. 1. 255 с.; Т. 2. 271 с.; 1984. Т. 3. 311 с.; 1985. Т. 4. 360 с.; 1987. Т. 5. 423 с.

*Янкоўскі Ф.* Беларуская фразеалогія: Фразеалагізмы, іх значэнне і ўжыванне. Мн.: Вышэйш. шк., 1968. 449 с.

*Янкоўскі Ф.* Беларускія народныя параўнанні: Кароткі слоўнік. Мн.: Вышэйш. шк., 1973. 239 с.

*Янкоўскі Ф.* Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Мн.: Выд–ва АН БССР, 1962. 556 с.

*Янкоўскі Ф.* Сучасная беларуская мова. Мн.: Вышэйш. шк., 1984. 176 с.

*Жуков В. П., Сидоренко М. И., Шкляров В. Т.* Словарь фразеологических синонимов русского языка. М.: Рус. яз., 1987. 441 с.

Пословицы русского народа: Сб. *В. Даля.* В 2–х т. М.: Худож. лит., 1984. Т. 1. 383 с.; Т. 2. 400 с.

Русские пословицы и поговорки / Под ред. *В. П. Аникина.* М.: Худож. лит., 1988. 431 с.

Словарь русских пословиц и поговорок. 2–е изд., стер. / Сост. *В. П. Жуков.* М.: Сов. энциклопедия, 1967. 535 с.

Фразеологический словарь русского языка. 4–е изд., стер. / Под ред. *А. И. Молоткова.* М.: Рус. яз., 1987. 543 с.

# *Змест*

Справочное издание

Санько Змитер Федорович

КРАТКИЙ РУССКО–БЕЛОРУССКИЙ СЛОВАРЬ
ПОСЛОВИЦ, ПОГОВОРОК И ФРАЗЕМ

Минск, издательство "Навука і тэхніка"

*На белорусском языке*

Даведкавае выданне

Санько Зьміцер Фёдаравіч

МАЛЫ РУСКА–БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК
ПРЫКАЗАК, ПРЫМАВАК І ФРАЗЕМ

*Кніга выдадзена ў аўтарскай рэдакцыі*

Загадчык рэдакцыі *У. М. Ківатыцкі*
Мастак *А. А. Кулажэнка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*
Карэктар *І. Л. Дзмітрыенка*

ІБ № 3967
Здадзена ў набор 12. 04. 91.
Падпісана ў друк 07.08.91.
Фармат 84x108 1/32.
Папера афсет. № 1.
Гарнітура літаратурная.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 11,76.
Ум. фарб.–адб. 11,76.
Ул.–выд. арк. 12,32.
Наклад 30000 паасобнікаў.
Зак. № 479. Кошт 1 р. 80 к.
Выдавецтва «Навука і тэхніка»
Акадэміі навук БССР
і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220067. Мінск, Жодзінская, 18.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва «Навука і тэхніка».
220067. Мінск, Жодзінская, 18.

## *Дарагія сябры!*

*У 1988 годзе выдавецтва "Навука і тэхніка" распачало выпуск серыі "Нашы славутыя землякі". У ёй выдаюцца кнігі пра найменш вядомых сучаснаму чытачу нашых суайчыннікаў — выдатных дзеячаў навукі, культуры, мастацтва, літаратуры, вынаходнікаў, грамадскіх дзеячаў. Ды не толькі пра тых, хто жыў і працаваў на радзіме, але і пра беларусаў, воляю лёсу закінутых на чужыну, якія зрабілі важкі ўклад у развіццё навукі і культуры іншых народаў.*

*Серыя разлічана на шырокае кола чытачоў — усіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускай культуры, навукі, грамадскіх рухаў, лёсам найбольш таленавітых нашых землякоў. Яна можа быць скарыстаная настаўнікамі ў пазакласнай рабоце, выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў, сябрамі грамадскіх суполак, якія выступаюць за адраджэнне мовы, гістарычнай спадчыны і нацыянальнай свядомасці беларусаў.*

### *У 1988—1991 гадах у гэтай серыі выйшлі кнігі:*

Грыбкоўскі В. П., Гапоненка В. А., Кісялёў У. М. **Прафесар электраграфіі і магнетызму**

*Пра Якуба Наркевіча-Ёдку (1847—1905), таленавітага вучонага-прыродазнаўца*

Мархель У. І. **Вяшчун славы і волі**

*Пра Уладзіслава Сыракомлю (1823—1862), выдатнага паэта-дэмакрата*

Г а л а к ц і ё н а ў С. Г., Я ц к е в і ч Г. М. **Рыцар навукі з Нянькава**

*Пра Уладзіслава Дыбоўскага (1838—1910), таленавітага даследчыка прыроды і фальклярыста*

А р л о ў У. А. **Асветніца з роду Усяслава**

*Пра Еўфрасінню Полацкую (~ 1110—1173), адну з найвыдатнейшых асоб ува Усходняй Еўропе XII стагоддзя*

Ю х о Я. А. **За вольнасць нашу і вашу**

*Пра Тадэвуша Касцюшку (1746—1817), выдатнага палітычнага і ваеннага дзеяча Рэчы Паспалітай*

Г р ы ц к е в і ч В. П. **Адысея наваградскай лекаркі**

*Пра Саламею Русецкую, знакамітую лекарку і падарожніцу XVIII стагоддзя*

П р о ц ь к а Т. С. **Эксперыментатар з Беластоцкай гімназіі**

*Пра Кароля Чаховіча (1832—1902), таленавітага вучонага-фізіка*

К а з б я р у к У. М. **Светлай волі зычны звон**

*Пра Алеся Гаруна (1887—1920), рэвалюцыянера і паэта, чалавека трагічнага лёсу*

***Рыхтуюцца да выдання:***

Т а р а с а ў С. В. **Чарадзей сёмага веку Траяна**

*Пра Усяслава Чарадзея (1044—1101), аднаго з найславуцейшых полацкіх князёў*

К а х а н о ў с к і Г. А. **Руплівец нашай старасветчыны**

*Пра Яўстаха Тышкевіча (1814—1873), заснавальніка беларускай археалогіі і краязнаўства*

Б е л ь с к і А. М., Ткачоў М. А. **Вялікае мастацтва артылерыі**

*Пра Казіміра Семяновіча (~1600— ~1651), вынаходніка шматступеневай ракеты*

Г у с а к А. А. **Практычная механіка і "Мёртвыя душы"**

*Пра Мікалая Ястрэбскага (1808—1874), вучонага, інжынера-мостабудаўніка, таленавітага літаратара*

Я л у г і н Э. В. **Напачатку было слова**

*Пра Пятра Мсціслаўца, паслядоўніка Ф. Скарыны, аднаго з маскоўскіх першадрукароў*

П і л і п ч у к А. Я. **Ланцэтнік — "залатая рыбка"**

*Пра Аляксандра Кавалеўскага (1840—1901), славутага біёлага, чые працы атрымалі сусветнае прызнанне*

А р л о ў У. А. ***Прысуд выканаў невядомы***

*Пра Ігната Грынявіцкага (1856—1881), рэвалюцыянера-народавольца, які выканаў смяротны прысуд Аляксандру II*

М а й с я ё н а к А. Г. **Народны лекар з Браслава**

*Пра Станіслава Нарбута (1853—1926), які ўсё жыццё прысвяціў служэнню свайму народу*

С а в е р ч а н к а І. В. **Канцлер Вялікага княства**

*Пра Льва Сапегу (1558—1633), славутага палітычнага дзеяча, рэдактара Статута 1588 года*

К а ў к а А. К. **Вястун нашаніўскае пары**

*Пра Івана Луцкевіча (1881—1919), аднаго з заснавальнікаў першай палітычнай партыі ў Беларусі*

С а г а н о в і ч Г. М. **Айчыну сваю баронячы...**

*Пра Канстанціна Астрожскага (1460—1530), славутага ваяводу, гетмана Вялікага княства Літоўскага*

Д а б р а в о л ь с к і У. А. **Да ісціны — найпрасцейшым шляхам**

*Пра Васіля Ермакова (1845—1922), вядомага матэматыка, заслужанага прафесара Кіеўскага універсітэта*

*На жаль, у вольным продажы кнігі серыі "Нашы славутыя землякі" амаль адсутнічаюць, бо кнігагандлёвыя арганізацыі заказваюць іх неахвотна. Таму, каб не прапусціць чарговага выпуску гэтай серыі, лепш за ўсё аформіць папярэдні заказ. Для гэтага Вы зайдзіце ў найбліжэйшую кнігарню і, карыстаючыся тэматычным планам выдавецтва*

*"Навука і тэхніка" (ён прыходзіць у кнігарні штогод звычайна ў сакавіку), запоўніце паштоўку на тое выданне, якое Вас зацікавіла. Як толькі кніга выйдзе ў свет, Вы, атрымаўшы па пошце сваю картачку, зможаце купіць яе. Калі Вы жывяце па–за межамі нашае рэспублікі, накіроўвайце заказы на адрас кнігарні "Кніга — поштай": 220668, г. Мінск, вул. Чыгуначная, 27/4.*

***Чытайце самі і заахвочвайце сваіх блізкіх і знаёмых чытаць кніжкі серыі "Нашы славутыя землякі". З іх Вы даведаецеся шмат цікавага і раней невядомага пра нашых знакамітых суайчыннікаў, пра слаўную і трагічную гісторыю Беларусі.***

